БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРЫ

ДЗЯРЖАЎНАЯ ІНСПЕКЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АХОВЕ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

КАМІТЭТ ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСІ

НАЦЫЯНАЛЬНЫ НАВУКОВА-АСВЕТНЫ ЦЭНТР ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ

# ВЯРТАННЕ — 2

*Зборнік артыкулаў і дакументаў*

Выдадзена коштам Эксперыментальнага комплекснага прадпрыемства "Светоч"

Мінск, 1994

ББК Ч 774
В99

Складальнікі: А.Тоўсцік
М.Яніцкая

Прадмовы да артыкулаў М.Яніцкай

Рэдкалегія: Н.Высоцкая, А.Мальдзіс (гал. рэд.),
А.Міхальчанка, Т.Рошчына,
А.Тоўсцік, М.Яніцкая

Адказны за вып. Т.Рошчына

**Вяртанне—2**: Артыкулы, дакументы і архіўныя
В99 матэрыялы па праблемах пошукаў і вяртання нацыя нальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь /Беларус. фонд культуры. — Мн., 1994. — 270 с.

Матэрыялы зборніка прысвечаны праблемам вяртання нацыянальных культурных каштоўнасцей у кантэкст культуры Беларусі, а ў выпадках наяўнасці юрыдычных падстаў (згодна з міжнародным правам) — фізічнага вяртання ў Беларусь каштоўнасцей, якія ў розныя часы былі вывезены за яе межы. Большасць дакументаў друкуецца ўпершыню, адначасова ўводзяцца тры новыя раздзелы: "З друкаваных крыніц", у якім назапашваюцца матэрыялы, прысвечаныя праблемам вывезеных з Беларусі каштоўнасцей; "Вернутыя каштоўнасці", дзе даецца інфармацыя аб тым, што вернута ў Беларусь, і "Перапіска і каментарыі да яе". У апошнім раздзеле будзем друкаваць лісты-прапановы даследчыкаў і ўвогуле прыхільнікаў беларускай культуры, што тычацца вяртання ў Беларусь усіх відаў каштоўнасцей, у тым ліку — помнікаў навукі і тэхнікі.

ББК Ч 744

В $\frac{4503010100-006}{М\ 332-94}$ без аб'яўл.

# ДЗЕЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Першы зборнік дакументаў і архіўных матэрыялаў па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь, выйшаў з друку два гады назад. Матэрыялы зборніка "Вяртанне" выклікалі цікавасць грамадскасці не толькі нашай краіны. Як нам вядома, яны зараз вывучаюцца адпаведнымі пошукавымі дзяржаўнымі, культурнымі ўстановамі іншых краін.

Другі аналагічны зборнік працягвае тэму вяртання нацыянальных культурных каштоўнасцей на Беларусь. Але ён мае ўжо і сваю адметнасць. У кніжцы змяшчаецца раздзел пра тое, што вернута з-за мяжы на Бацькаўшчыну. Раздзел не надта багаты, мо болей сімвалічны. Але ўсё пазнаецца ў параўнанні. Рабавалі ж нашае нацыянальнае багацце стагоддзямі. А вось займацца вяртаннем страчанага, свайго роднага на дзяржаўным узроўні мы пачалі толькі што...

Аднак, як паказвае час, у гэтай рабоце не ўсё адназначна. Дакументы абодвух зборнікаў пераканаўча сцвярджаюць аб юрыдычным праве на тое, каб усё, што адабрана ад нас сілком, патаемна ці адкрыта вывезена на правах пераможцаў-рабаўнікоў, было, згодна міжнародным законам, вернута, і як мага хутчэй, на Беларусь. Прыходзіцца канстатаваць адваротнае: у большасці сваёй ніхто сам не жадае вяртаць нарабаванае, украдзенае, тайна вывезенае з краіны. Але нельга губляць надзеі, будзем настойліва працягваць работу на дзяржаўным узроўні, шляхам заключэння двухбаковых пагадненняў і іншых акцый з мэтай вяртання нашых культурных каштоўнасцей. Безумоўна, у абсяжнай будучыні нябачны фінал гэтай нялёгкай работы. Але пад ляжачы камень і вада не цячэ...

Ёсць яшчэ адзін бок гэтай патрыятычнай справы. Я маю на ўвазе складанне картатэкі, своеасаблівага інфармацыйнага банку пра тое, дзе і што ў свеце беларускае "ляжыць". Напрыклад, добра вядома, што па бібліятэках, архівах, прыватных калекцыях дзесяткаў краін свету параскіданыя кнігі, рукапісы, архіўныя дакументы, якія могуць значна пашырыць веды як пра глыбокую даўніну нашага

народу, так і пра найноўшую гісторыю. І калі мы многа з гэтага наўрад ці зможам вярнуць на Бацькаўшчыну, дык сістэматызаваць, занатаваць духоўнае багацце нашага народу павінны пастарацца. Каб калі не мы, то нашы нашчадкі змаглі зацікаўлена прачытаць і асэнсаваць створанае на працягу стагоддзяў іх папярэднікамі.

Знаёмства з матэрыяламі як першага, так і другога зборнікаў "Вяртанне" дае кожнаму з нас высокае пачуццё годнасці за геній нацыі, яе лепшых прадстаўнікоў, якія нават у жорсткіх гістарычных умовах займелі такія вялікія, сусветнага ўзроўню, культурныя набыткі. Пра многае, на жаль, мы яшчэ не ведаем, а толькі дагадваемся. Вось чаму праблемы вяртання нацыянальных каштоўнасцей вымагаюць ад нас паўсядзённай заклапочанасці, неадольнай увагі да іх як дзяржавы, так і грамадскасці. Агульнымі намаганнямі, аб'яднанымі сіламі мы рушым гэтую справу далей. І раней ці пазней, такая ўдзячная дзейнасць павінна быць ажыццёўлена. Дзеля нацыі, на карысць Бацькаўшчыны.

*І.Чыгрынаў, народны пісьменнік Рэспублікі Беларусь, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры*

# I. ЛЁСЫ МУЗЕЙНЫХ ЭКСПАНАТАЎ

МАЯ ЯНІЦКАЯ

## ШТО ЗАХОЎВАЛАСЯ Ў МУЗЕІ ПОЛАЦКАЙ КАЛЕГІІ ЕЗУІТАЎ?

Музей Полацкай калегіі ствараўся да 1780 г. яе выкладчыкам, аўстрыйскім вучоным-фізікам, інжынерам, мастаком і архітэктарам Габрыэлем Груберам (1740—1805), а адчыніўся ў 1787 г. Прызначаўся для навучэнцаў і выкладчыкаў[1]. Паводле артыкула Т.Бліновай музей пачаў дзейнічаць у 1788 г.[2].

Г.Грубер спраектаваў трохпавярховы будынак музея і ўзвёў яго, прадугледзеўшы памяшканні для фізіка-механічнага кабінета, карціннай галерэі, тэатральнай залы, дзе экспанаваліся тэатральныя дэкарацыі, прадметы і прылады кабінета натуральнай гісторыі (у тым ліку, мінералогіі). Музей быў арганізаваны не толькі з дыдактычнымі мэтамі, але і для прапаганды ў Беларусі навуковых ведаў, твораў мастацтва. У зале, дзе адбываліся заняткі па маляванню і архітэктуры, знаходзілся кнігі, малюнкі, гравюры, мадэлі будынкаў з дэкорамі ўсіх архітэктурных ордэраў антычнасці — дарычнага, іанічнага і карынфскага; алебастравыя мадэлі капітэляў гэтых ордэраў, будынкаў у раманскім і гатычным стылях, а таксама печаў для абпальвання цэглы, тартака, навеса для сушкі бярвенняў, "карабля ў 1,5 аршына даўжынёй і адзін аршын шырынёй з ветразямі і іншым"[3].

Папаўняўся музей вельмі рэдкімі рэчамі дэкаратыўнапрыкладнога мастацтва і творамі жывапісу, якія паступалі ў дар ад экс-езуітаў (як вядома, у 1773 г. папа рымскі Клімент XIУ забараніў дзейнасць ордэна, але ў Полацку яна працягвалася да 1820 г.), якія прыязджалі ў Полацкую калегію з Італіі, Германіі, Францыі і інш. На працягу сарака гадоў Полацк быў цэнтрам езуітаў свету[4]. Таму тут сабралася шмат твораў заходнееўрапейскага мастацтва. І ўсе гэтыя каштоўнасці трапілі ў XIX ст. пераважна ў Расію.

Закрылі ж музей па загаду Міністэрства асветы Расіі праз 10 год пасля афіцыйнага выгнання езуітаў за межы

Імперыі (1820) па загаду цара Аляксандра I і ў выніку рэарганізацыі ў 1830 г. Полацкай калегіі езуітаў у кадэцкае вучылішча.

Прыведзеныя ніжэй звесткі пра экспанаты музея пададзены паводле апісання 1818 г.

Усе пакоі Г.Грубер упрыгожыў фрэскамі. На сценах калідораў таксама былі бачны лікі святых. "Адзін з кароткіх калідораў быў завешаны партрэтамі знакамітых езуітаў — тут былі Сарбеўскі, Скарга, Пачобут і многія іншыя. Адзін прыгожы, светлы, прамы і доўгі калідор быў упрыгожаны выключна партрэтамі польскіх каралёў, а ў канцы яго, насупраць уваходу, кідаўся ў вочы імпазантны агромністы партрэт Стэфана Баторыя"[5].

У карціннай галерэі мелiся шэдэўры, якія маглі б упрыгожыць любую еўрапейскую галерэю: чатыры мазаічныя творы (9.4.1831 г. яны былі перададзены па загаду Расійскага імператара Акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецярбургу)[6], творы мастацтва з бурштыну, чатыры пальмавыя лісты з тэкстамі малабарскага пісьма, больш чатырох тысяч гіпсавых адбіткаў самых разнастайных медалёў, некалькі карцін-копій пэндзля жывапісца Нядзвецкага (дзве яго копіі таксама былі 9.4.1831 г. перададзены ў Санкт-Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў — адна з выявай Прасвятой Багародзіцы, другая — Марыі Магдаліны; акрамя таго была перададзена арыгінальная карціна фламандскай работы[7].

Кабінет натуральнай гісторыі меў шмат калекцый "розных зямельных металаў, каштоўных і іншых рэдкіх камянёў, мармуру і каменных рэчаў — як замежных, так і айчынных. Сярод іх ёсць выдатны збор сібірскіх металаў, а таксама асобны збор земляў, камянёў і акамянелых рэчываў, наўкруг горада Полацка сабраных", "розныя прадметы, выраблены з дарагіх камянёў".

Фізіка-механічны музей-кабінет меў "розныя электрычныя машыны і іншыя фізічныя апараты — механічныя, аптычныя, астранамічныя...", вялікі тэлескоп, "незвычайны музычны інструмент", з якога "...гучала мілая і кранальная мелодыя", арыгінальныя мадэлі будаўнічых прылад, якія пры жаданні прыводзіліся ў дзеянне (напрыклад, паліспаст, які служыў для "падняцця

чалавека ўласнай яго сілай", "мадэль машыны, што служыла для падняцця вялікіх цяжараў" і перасоўвання іх). Экспанаты былі пераважна зроблены ў Полацку. У гэтым жа кабінеце дэманстравалася чарапахавая канторка, зробленая з рэдкай мастацкай дасканаласцю.

Разборам калекцый музея Полацкай калегіі ў 1830 г. займаўся (па загаду Міністэрства асветы Расіі) прафесар Пецярбургскага універсітэта Д.Папоў, які раіў перавесці ў Пецярбург указаныя вышэй мазаікі, чатыры пальмавыя лісты з малабарскімі пісьмёнамі, гіпсавыя адбіткі чатырох тысяч медалёў, чарапахавую канторку, нешматлікія "мастацкія рэчы" і іншыя прадметы. Сярод іх былі сонечны гадзіннік вельмі рэдкай работы, дзве скрыні з карцінамі і старадаўнія абразы, вывезеныя з гэтага музея, што цяпер знаходзяцца ў былым музеі атэізму ў Санкт-Пецярбургу[8].

У музеі захоўваўся архіў Полацкай езуіцкай калегіі і навуковыя працы выкладчыкаў. Адну такую працу па археалогіі выпадкова знайшоў Г.Каханоўскі ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай Рэспублікі[9]. У музеі захоўваліся і рукапісныя старажытныя акты. Г.Каханоўскі меркаваў, што магчыма там жа знаходзіўся і Полацкі летапіс, пра змест якога можна даведацца толькі з кнігі рускага гісторыка В.Тацішчава.

Разам з калекцыямі карцін і абразоў у Санкт-Пецярбург з музея было вывезена і 256 пудоў кніг. А ў ХУШ ст. з гэтага ж музея вывезлі ў Рыгу 300 пудоў рукапісных кніг і столькі ж - у Каралевец [10]. У XIX ст. частка музейных скарбаў трапіла ў Маскоўскі універсітэт, рэшту адправілі у Вільню, Віцебск і інш. гарады, частка бібліятэкі засталася на месцы[11].

У гады грамадзянскай вайны царскі генерал А.Жыркевіч (1857-1927), які ў свой час працаваў у Віленскім музеі старажытнасцей, у цэйхгаузе г. Сімбірска выпадкова натрапіў на частку архіва Полацкай езуіцкай калегіі[12]. Ён знайшоў лісты з кнігі ганаровых наведвальнікаў Полацкага музея і "некалькі пудоў копій з дагавораў ХУІ—ХУП стст.". Пакуль невядома, куды трапілі гэтыя знаходкі. Дзе знаходзяцца астатнія экспанаты разрабаванага музея таксама пакуль што невядома. Пошукі іх працягваюцца.

1. Каханоўскі Г. Прадвесне навукі. Мн., 1990. С. 104.

2. Блінова Т. Езуіцкі музей у Полацку // Мастацтва. 1993. N 3. С. 59—62.

3. Там жа.

4. Kalamajska-Saeed. Losy wyposazenia kosciola jezuitow w Polocku. Rocznik Historii Sztuki. Warszawa. 1988. T. ХУП. S. 131.

5. Блінова Т. Езуіцкі музей у Полацку. С. 59.

6. Хадыка А. "Дело о передаче в дар императором 7 картин, находящихся в Полоцком иезуитском музеуме". // Вяртанне. Мн., 1992. С.190.

7. Там жа.

8. Каханоўскі Г. Прадвесне навукі. С. 105; Мальдзіс А. Час вяртання настаў // Вяртанне. Мн., 1992. С. 21—22.

9. Каханоўскі Г. Прадвесне навукі. С. 105; Gach P.Mienie polockich zakonow i jego losy w XIX w. Rzym. 1979. S. 42.

10. Каханоўскі Г. Прадвесне навукі. С. 104.

11. Каханоўскі Г. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў ХУІ—XIX стст. Мн., 1984. С.79.

12. Там жа. С.80.

АЛЯКСЕЙ ХАДЫКА

## ЭКСПАНАТЫ "БЕЛАРУСКІХ ЗБОРАЎ" У ЛЬВОЎСКІМ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МУЗЕІ

Да канца 1980-х гадоў доступ даследчыкаў да вывучэння калекцый Львоўскага Нацыянальнага музея (некаторы час ён называўся Музеем украінскага мастацтва) быў максімальна абмежаваны. Паводле слоў яго шматгадовага дырэктара, цяпер ужо нябожчыцы Веры Іларыёнаўны Свянціцкай, дачкі былога галоўнага хавальніка музея Іларыёна Свянціцкага, які пачаў сваю працу разам з заснавальнікам і галоўным апекуном музея — львоўскім мітрапалітам А.Шаптыцкім, абмежаванне доступу да калекцыі выпадковых людзей і нават згортванне экспазіцыйнай дзейнасці былі хіба што адзіным спосабам захаваць калекцыі унікальнага музея ў цэласці і ў адпаведнасці з першапачатковай задумай. Бо пачынальнікі музея імкнуліся даць гледачам магчымасць пазнаёміцца з унікальнай шматканфесійнай

культурай Заходняй Украіны і Прыкарпацця — як у гістарычным аспекце, так і ў параўнанні з творамі мастацтва суседніх народаў. Таму яшчэ ў 1907 г. пры ўдзеле Івана Луцкевіча ў Львоўскім Музеі з'явілася "беларуская калекцыя". /Далей у арт. І.Свянціцкага гаворыцца, што "Беларуская Грамада" не магла арганізаваць свой Нацыянальны музей у Расіі і таму разлічвала на добразычлівасць украінцаў, якія згадзіліся стварыць пры Львоўскім музеі беларускі аддзел — рэд./.

Пазнаёміцца з беларускімі матэрыяламі праз кнігі паступлення экспанатаў у музей удалося толькі ў снежні 1990 г., калі адначасова з правядзеннем у Львове канферэнцыі "Божая маці ва ўкраінскай культуры" у Львоўскім Нацыянальным музеі дзейнічала невялікая выстава, прысвечаная мітрапаліту А.Шаптыцкаму, дзе экспанаваліся і рэчы з "беларускай калекцыі" — пераважна тканыя шляхецкія паясы.

Як вынікае з артыкула А.Луцкевіча "Мітрапаліт Шаптыцкі і беларускі рух", надрукаванага на беларускай мове[1], галоўнай прычынай, што прымусіла Івана Луцкевіча перадаваць помнікі беларускага мастацтва ў Львоў, за межы Расіі, было жаданне захаваць у цэласці калекцыю, сабраную ў Мінску Г.Татурам, ад знішчэння і падзелу[2]. З інфармацыі, здабытай з музейных кніг паступленняў і з выдадзенага пад рэдакцыяй І.Свянціцкага зборніка[3], беларускія рэчы ў 1907—1912 гг. траплялі ў музей прынамсі тройчы: "1907.ХП. Закупно білоруських речей в Івана Луцкевіча"; 1908.П. Закупно білоруської збірки Татура" і, нарэшце, у Другой кнізе прыросту царкоўнага музею, заведзенай 26 чэрвеня 1909 г. (яна ўтрымлівае апісанне нумараў калекцыі ад 5917 да 15003), знаходзім запіс, зроблены 20 чэрвеня 1912 г., які фіксуе "білоруску збірку від Ексцеленциї Митрополита", пранумараваную NN ад 12958 да 13143. У яе ўваходзіць вялікая колькасць твораў дэкаратыўна-ужытковага мастацтва, як можна меркаваць, ХУП—XIX стагоддзяў, рэчы царкоўнага ўжытку, шляхецкае адзенне.

Пад N 12958—129611 ідуць парахаўніцы (N 12958: "Порошниця з мідяним посріблюваним вічком, гравірованим і емалійованим з емблемамі"). Пад N 12962—12971 і 12976 зафіксаваны паясы, пераважна слуцкія, — некаторыя з

сігнатурамі мануфактуры (12968) або Лео Маджарскага (12962, 12967). Ёсць і іншыя тканіны слуцкага вырабу і нават ”комізелька детяча, малинова, сребло ткана, з слуцкої материї”.

Многія рэчы царкоўнага паходжання — епітрахілі, сакосы, капы, ”воздухі”, арары — былі выкананы з каштоўных усходніх тканін, да прыкладу ”соккос з беласрэбна і золататканага брокату” з раслінымі арнаментамі ў парасткі і кветкі (12991). Тут мы сустракаем і плашчаніцы, паводле апісанняў, надзвычай дарагія і рэдкія (13003: ”плащаниця гафтована золотом і сріблом, червони оксаміт, пізний ренесанс, ХУП ст.”).

1. Чверть століття на Митрополичому престолі: Богословія. Львів, 1926. Кн. 1—2. С. 45—48.

2. ”...Мітрапаліт Шэптыцкі, дзякуючы якому паўстаў у Львове Украінскі Нацыянальны Музей, — спярша пад відам музея царкоўнага, стараўся магчыма поўна сабраць памяткі Уніі. Іван Луцкевіч дапамагае яму ў збіраньні гэтых памятак на Беларусі, дзе іх неміласэрна нішчыла расейская ўлада і фанатычны праваслаўны клір. Сюды ж — у Львоў — дзякуючы шчодрасці мітрапаліта — пападае большая частка беларускіх памятак з калекцыі менскага археолёга Татура пасля сьмерці апошняга — калі ўдававар'ятка нішчыла ненавісныя ёй рэчы ці распрадавала іх першаму папаўшамуся, расьцярушваючы тое, што муж яе з такім піэтызмам зьбіраў праз усё жыцьцё...” // Там жа. С. 45.

3. 25-ліття Національного музэю у Львові. Львів, 1931. С. 69.

ЮРЫ ПИСКУН

## ЛЁС ЗБОРАЎ ГЕНРЫХА ТАТУРА

Асоба археолага, даследчыка старасвеччыны і вядомага збіральніка беларускай даўніны Г.Татура выклікае апошнім часам усё большую цікавасць. Галоўнай мэтай яго дзейнасці было стварэнне свайго, беларускага музея ў Мінску. Пасля смерці Г.Татура ў 1907 г. справа яго жыцця засталася неза-

вершанай: ён не паспеў правесці ўпарадкаванне збораў, музейную сістэматызацыю сабранай ім вялікай калекцыі беларускіх старажытнасцей.

Экспанаты татураўскага музея месціліся ў 1907 г. у двух драўляных будынках на ўскраіне Мінска, амаль недаступных для наведвальнікаў. Гэта былі рэчы з археалагічных раскопак, якія праводзіў сам Татур, прадметы і рукапісы з Нясвіжа, з мінскіх і слуцкага Трайчанскага манастыроў, а таксама іншых рарытэтаў і музейных каштоўнасцей.

Прыведзеныя ніжэй тагачасныя фрагментарныя апісанні і згадкі пра асобныя прадметы сведчаць пра выключную каштоўнасць для беларускай культуры страчаных музейных рэчаў, рукапісаў і кніг, сабраных Г.Татурам. На жаль, пасля яго смерці збор гэты для Беларусі быў згублены. З пададзеных тут матэрыялаў вынікае, што калекцыя засталася падзеленай.

У 1907 г. удава збіральніка перадала Мінскаму епіскапу цудадзейны Лагойскі абраз Божай Маці, які быў урачыста перанесены ў тым жа годзе ў лагойскую царкву (што сталася з абразам потым — невядома). Збор старажытных манускрыптаў, рукапісаў ХУІ—ХУШ стст. і старадрукаў мела намер набыць Расійская Акадэмія навук. Але раней, чым Акадэмія, зборы Татура (невядома толькі: рукапісы і кнігі ці таксама і іншыя экспанаты) набыў граф Тышкевіч, які, мяркуюць, размясціў гэтую калекцыю ў сваім маёнтку Чырвоны Двор, маючы намер на яе аснове потым адкрыць музей у Вільні. Гэтыя сведчанні апублікаваны З.Даўгялам у 1929 г. і іх мэтазгодна прывесці тут з невялікімі скарачэннямі[1].

"У 1929 г. Археаграфічная Камісія БАН набыла некалькі дакументальных матэрыялаў, якімі асвятляецца каштоўнасць для Беларусі былога Збору Генрыха Хрыстафоравіча Татура ў Мінску.

Г.Х.Татур быў вядомым археолагам і збіральнікам у Мінску. Пасля яго смерці ў 1907 г. яго прыватнае музейнае сабранне трапіла да гр. Тышкевіча з маёнтка Чырвоны Двор каля Вільні, які набыў яго быццам бы для Віленскага польскага Музэю Мастацтва і навукі. Ёсць чуткі, што цяпер

гэты скарб уваходзіць у склад нацыянальнага Львоўскага Музэю гр. Шаптыцкага".

Далей ідзе пералік дакументаў, арыгіналы якіх захоўваліся ў рукапісным аддзяленні Бібліятэкі Акадэміі Навук СССР. Назвы дакументаў прыводзяцца на мове арыгінала.

"N 1. Протокол Общего Собрания Академии Наук за N 118 1907 г., апреля 7". Тут выкладзена хадайніцтва акадэміка А.Шахматава аб набыцці пасля смерці вядомага мінскага збіральніка Г.Татура вялікага збору старажытнасцей і бібліятэкі.

"Протокол заседания Историко-филологического отделения за N 177 1907 г., Мая 2". Засведчана, што прысутныя прынялі пастанову аб выдзяленні адной тысячы рублёў на набыццё збору Татура. Аднак пастанова не была выканана, бо да Пецярбурга дайшлі звесткі пра тое, што калекцыя Татура ўжо прададзена графу Тышкевічу ў Чырвоны Двор.

N 2. Доклад В.И.Срезневского о библиотеке и музее Татура на основе личного ознакомления. 2—4 апреля 1907 г.". Далей мы падаем на мове арыгінала асобныя вытрымкі з гэтага даклада:

"Музей и библиотека Г.Х.Татура представляют собой ...собрание картин и икон (две комнаты) и библиотека (одна комната...). Предметы музея Татура самые разнообразные. Здесь находим результаты его раскопок курганов (костяки, каменные орудия, различные украшения); древне-польские доспехи и оружие (напр., лук Понятовского, шлем эпохи 30-летней войны, пороховница 1641 г. с инкрустацией на коже, громадный рыцарь на коне, закованный в панцырь с гербом Радзивиллов на груди); знамена, обширное собрание антиминсов, церковная утварь, облачения, крест, пожалованный Сигизмундом I Логойскому костелу; коллекция слуцких поясов и тканей, монет, посуды, пуговиц, марок и проч. Библиотека..., тут же карты в свитках, рисунки, альбомы...

Незадолго до смерти Татур начал приводить в порядок свое собрание, но смерть застала его в самом начале работы: приведенными в порядок... оказались только картины и иконы... ...библиотека Татура (как и все его собрание) посвящено преимущественно Белоруссии и только отчасти, в

силу необходимости, Польше. Ее можно разделить на две главные части: книги и рукописи.

Главная масса книг — польские и латинские (печатанные в Польше), издания ХУI, ХУП, ХУШ и начала XIX вв. Их можно приблизительно определить цифрою 2000. Это большею частью издания духовного содержания: масса изданий иезуитов, Виленского и др. братств, полемические сочинения..., сочинения кальвинистов, филоматов, шубравцев, множество надгробных проповедей и пр. Много изданий и светских: ...Гербовник Папроцкого ХУI в., несколько других гербовников, издания Статутов и Конституций, исторические сочинения (напр., Kronika Polska Marcina Bielskiego. 1597 г.), календари ХУП в. с современными приписками. По городам издания преимущественно падают на Вильну, Супрасль, Несвиж, Варшаву, Познань, Краков.

Латинские издания... можно отметить издания Гваньини, Герберштейна, грамматики и словари польские и литовские. Есть несколько ценных изданий и не имеющих отношения к Белоруссии: таково издание ХУП в. портретов римских императоров, Библия Пражская ХУI в. и др. Книг церковной печати сравнительно немного. Это... издания Виленские, Супрасльские, Почаевские, Черниговские, Киевские. Из них на первом месте д.б. поставлен Литовский Статут 1588 г. (изд. Мамонича). (Дзіўна, што Статут В.Сразнеўскі аднёс да царкоўных выданняў. — Рэд.). Интересны издания, печатанные на польском и белорусском языках одновременно и попеременно. Общее число книг церковной печати 60—70. Значительное количество книг — новые XIX в., по преимуществу русских, касающихся Белорусского края. Число их доходит до 1000.

Отдел рукописей подразделяется на: 1) рукописные книги и тетради и 2) грамоты и акты. Рукописей русских очень немного... Некоторые из них ценны по припискам и вкладным: таково Евангелие ХУI в. с длинной и интересной вкладной 1540 г. князя Василия Ивановича Соломорецкого монастырю Покрова Богородицы в Соломеричах с указанием на цену рукописи и заклятиями.

В другом Евангелии запись 1538 г. о покупке Евангелия за две гривны в церковь Николы Чудотворца и об освящении этой церкви, а также запись "писца рукописи". Укажем

еще ценную рукопись Пророков 1520 г..., Поменник Слуцкого Троицкого прав. Монастыря в списке ХУП в.., записки о польском восстании 1863 г., рукопись витебского кс. Антония, умершего в 1862 г., заключающая в себе описание нескольких костелов, записи белорусских народных обычаев, песен с нотами, легенд и пр... Следует отметить архив Минской казенной палаты за 1812 г... Из латинских (рукапісаў — Ю.П.) замечательны: пергаментные — молитвенник и Hora Canonica — первый с древне-немецкими приписками, второй с французскими, а также с несколькими миниатюрами и тщательной орнаментикой золотом и красками, ...громадный том in folio 1623 г. с нотами на 4-х линейках и с заглавными буквами с миниатюрами. Польских рукописей, по преимуществу ХУШ в., несколько сот... — описание церковных библиотек, инвентари церквей, монастырей, сборник духовных песнопений, литературные произведения и пр...

Отдел грамот и документов далеко превосходит величиною отдел рукописных книг и тетрадей. Их надо считать тысячами. Главная масса... бумажные акты ХУП, ХУШ вв., белорусские и польские. Но кроме того есть и значительное число пергаментов: русских пергаментных актов 15".

Далей прыведзены назвы некалькіх актаў 1499, 1501, 1520, 1539 гг. і інш., тры з гэтых дакументаў Сразнеўскі перапісаў і перадаў у Расійскую Акадэмію навук, фотакопіі іх Інбелкульт атрымаў у 1923 г.

"В отношении лиц, давших грамоты, интересны грамоты Петра Могилы 1635 г. и Иосафата Кунцевича 1618 г.

Много частных правовых актов ХУІ в., ряд привилеев того же века...

Печатные грамоты. Рисунки.

В.Срезневский".

Пад нумарам 3 у публікацыі З.Даўгялы ідуць вытрымкі з лістоў 1907 г. Андрэя Канстанцінавіча Сьніткі да Усевалада Ізмаілавіча Сразнеўскага. Прывядзём тут некаторыя з вытрымак:

"Можно было еще прибавить: Периодические издания Виленские начала XIX в.,

Устав Младзенческого дисненского братства,

Мемуары Ошторпа,

Записная книжка (краткие мемуары) дорожных впечатлений польского вельможи 17 ст. при поездке в Рим.

Граф Тышкевич, купив книгохранилище, никаких условий не ставил...

Икону Логойской Богоматери г-жа Татур отдала епископу, который облёк ее в ризу (увы, подмалевал!) и торжественно с крестным ходом отнес в церковь в Логойске.

Антиминсы тоже получил архиерей".

Нумарам 4-м у публікацыі пазначана "Апісаньне бібліотэкі і збораў Г.Х.Татура, складзенае пасьля яго сьмерці для Акадэміі навук Яўгеньяй Аляксандраўнай Масальскай-Сурын (народжанай Шахматавай, якая жыла ў 1907 г. у Мінску)".

У "Аддзеле манускрыптаў" указана 48 пазіцый. Апісанні некаторых рукапісных кніг гэтага збору падаем фрагментарна:

"2. Regula cruciferorum aurea crucic eguitum, militantiun profide Christi contcripta et constituta per... genorosum magniticum dominum.

Stanislaum Wolski, nobil, Polon. Romae confektum 20 mai 1742.

В 2-х частях. Рисунок тушью: из облаков показываются три руки с мячом, книгой и цветком. Из Несвижской б-ки Радзивиллов...

11. Славянское Евангелие. Fol. 217 л.

Предисловие и оглавление — 8 л. ...В начале оглавления каждого Евангелия заставка красками (украшения из луков, кругов и фигур креста на полумесяце). Заглавные буквы украшены акварелью. На вкладных листах между Евангелиями от Луки и предисловием вписано поданье людей на монастырь Покрова Богородицы в Соломеричах ок. Минска кн. Василием Ивановичем Соломорецким в 1540 г. Язык Евангелия приближается к местному... Переплет: в досках, обшитых малиновым бархатом...

15. Евангелие славянское. Fol. на 245 лл... Писано на выжатых линейках крупными буквами. В начале и перед каждым Евангелием виньетки киноварные. Заглавные буквы — киноварные с украшениями. Сохранность хорошая. В деревянных досках, покрытых зеленой материей с бронзо-

выми наугольниками и изображением евангелистов; в середине лицевой стороны медальон с распятием и надписью: "Florian z Hainu"...

18. Ksiega cudow n. p. Maryi matki C.Slynacej z obrazu cerkwi Waskowskiej uroczyszczem Jwanij, de nowo zabudowanej X.Nicefora Novosielskiego, parocha Skryhotowskiego... Fol. В кож. перепл...

26. Diarusz drogi do Wloch z J.W.J.M.X. Jozepfem Lubomirskim in a. 1689 z Krakowa. Jn 12°...

47. Rekopism Petronelli Kielczewskiej. Нач. XIX в. Трагедия Горация. Стихи на разные события. Несколько неизвестных сочинений Ant. Goreckiego..."

У пераліку згадваюцца таксама манускрыпты, у якіх ёсць запісы 1538 і 1718 гг., Памяннік Слуцкага Троіцкага манастыра XУ ст. пазначаны N 17, а таксама дакументы 1779—1783 гг. і інш.

"Б. Перечень предметов библиотеки и музея:

1. Скорины Библия с рисунками.

2. Jnsignia veteris urbis Pragensis.

3. Литовский Статут Сигизмунда I.

4. То же иезуитское издание.

5. O poprawie Kalendarza 1583 г. Wilna.

6. Ключ разумення 1663 г.

7. Труды словес — Лазаря Барановича 1674 г.

8. Kronica Polska Marcina Bielskiego.

9. Kalendarz, польский и русский. 1748 г. и позднейшие за 5 лет.

10. История русской и польской церкви. Издание сожжено по приказанию папы (ксендзы еще за несколько дней до смерти Татура домогались получить ее как величайшую редкость).

11. Ежегодник с 1690 — Яна Квяткевича. Изд. иезуитское 1695.

12. Униатский требник. 1783 г.

13. Библия по-польски. Изд. в Кракове в 1540 г.

14. История Польши по-латыни Райнгольда.

15. Описание Польши и Литвы Гваньини.

16. Старые книги — по-польски о Гусситском движении.

17. Рижское право — по-немецки 1542 г.

18. Латинские акты 1574 г.

19. Divi Justini pilos, 1565.

20. Postylla katolicka, 1575.

Падаў З.І.Даўгяла".

Доўгі час не было дакладна вядома, ці сапраўды частка калекцыі Г.Татура трапіла ў Львоў. З.Даўгяла згадваў "львоўскі след" калекцыі толькі як чутку, адну з версій.

Дзякуючы добразычлівасці львоўскіх калег (гл. артыкул А.Хадыкі ў гэтым зборніку. — Рэд.) сёння мы маем магчымасць прывесці ніжэй фрагмент "Кнігі прыросту рэлігійнага музея" у Львове за 1908 г., чытаючы які можна ўпэўнена сказаць, што частка рэчаў з калекцыі Г.Татура была набыта Львоўскім музеем. Яна стала адным з першых паступленняў будучага Нацыянальнага музея. Цяпер мы дакладна ведаем, дзе гэтая частка калекцыі захоўваецца.

У Кнігу паступленняў Львоўскага царкоўнага музея за 1908 г. былі ўнесены апісанні экспанатаў пад нумарамі з 2630 да 5916. Паступленне калекцыі Татура было зафіксавана ў Кнізе паступленняў 2 лютага 1908 г. Прыводзім пачатак гэтага запісу з захаваннем мовы арыгінала (наколькі гэта магчыма). Лічбы перад назвай рэчы ўказваюць на нумар, пад якім дадзены прадмет (прадметы) занесены ў Кнігу паступленняў. Нумары пасля назвы рэчаў у арыгінале былі дапісаны пазней, іншым почыркам. Яны ўказваюць на нумар, пад якім дадзеныя прадметы захоўваюцца ў калекцыі Нацыянальнага музея ў Львове. У квадратных дужках дадзены нашы тлумачэнні тэрмінаў.

"Книга прироста церковного музея. 5916/1. N 2630—5916.

Коллекция Татура, приобретенная в Минске (за... 7500 руб.) 15.2.1908 г.

3605—17 Антиминсы... Шептицкого, Гребницкого;

3621—4 Икони на поперы...

3625—49 Икона на досьці У-1373, У-3849, У-1373-162-3-9, 170-9 ДМ-207

3650—2 - 2 икони на бляси, 1 реза [рыза] У-3850 Дор 1802 ДМ-208

3653—4 - 2... [Роспісы] на кахлі

3655-62 - резьба Д 98—102 ИУ 34—35...

3666 Пороховниця...

3670 — накривка на пушку з вышивки на аксамити

3671—10 крестив шитых золотом и сребром з церкви

3673 ХС [Христос] [архіерэй] на шитя [вышыўка ці аплікацыя?]

3674—5 - 2 разпяў [Два ўкрыжаванні] ДТ 49, 50

3684 - Покровец з чернго шовку

3685—6 Покровец з зелёного аксамиту

3688 Покровец...

3707 Орнат вышивани

3787—8 Пугарі [гузікі?]

3789 Бронзовый крест Жигимонта Августа — ДМ 196 /магчыма той самы, што ў дакладзе В.Сразнеўскага названы "крест, пожалованный Сигизмундом I логойскому костелу" — Ю.П./

3790—3 Воты с римскими надписями и изображениями..."

У Львоў трапілі не ўсе зборы з музея і бібліятэкі Г.Татура. Гэта пацвярджае брашура Антона Луцкевіча "Беларускі музэй імені Івана Луцкевіча" (Вільня, 1933), дзе сярод экспанатаў рукапіснага аддзела Беларускага музея ў Вільні згадваюцца два рукапісныя помнікі — Слуцкі памяннік з 1517 г. і Статут Младзенчаскага брацтва ў Дзісне ХУП ст. Тыя ж дзве пазіцыі мы сустракаем у перапісцы па пытанню набыцця збораў Расійскай Акадэміяй навук (праўда, В.Сразнеўскі анатаваў Слуцкі Памяннік як спісак ХУП ст.).

Вельмі важна грунтоўна вывучыць той вялізны масіў татураўскай калекцыі, які захоўваецца ў зборах Нацыянальнага музея ў Львове. Даследаванне указаных каштоўнасцей дапаможа істотна ўзбагаціць нашы веды па гісторыі беларускай нацыянальнай культуры[2].

1. Даўгяла З.І. Матэр'ялы аб музэі Г.Х.Татура ў Менску // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 8. Працы клясы гісторыі. Менск, 1929. Т. 3. С. 553—559.

2. [Інфармацыя пра калекцыю Г.Татура ёсць і ў брашуры Ю.Лабынцава "Архіў Беларускага Адраджэння", Мн., 1993], дзе прыведзены спіс дакументальных помнікаў беларускай царкоўнай і грамадзянскай гісторыі, канфіскаваных НКУС Літоўскай ССР 15—16 жніўня 1944 г. Цяпер гэты спіс захоўваецца ў бібліятэцы АН Літвы (аддзел рукапісаў, фонд 21, лл. 16—24 адв.). Матэрыялы Татура былі ў музеі ў

скрынцы 28 пад N 1 і ў скрынцы 30 пад N 17 "Татур з Менску (асаб. дак.)". Там жа, у скрыні 16, пад N 4 знаходзіліся лісты мітрапаліта Шаптыцкага да Антона Луцкевіча. Гэтую частку збораў Г.Татура трэба сёння шукаць у сховішчах Літвы: — рэд.].

МАЯ ЯНІЦКАЯ

## ДРАМАТЫЧНЫЯ ЛЁСЫ КАШТОЎНАСЦЕЙ НЯСВІЖСКАГА ЗАМКА

Першыя значныя страты панёс Нясвіжскі замак пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай. У 1772 г. была разрабавана радзівілаўская скарбніца. Самую каштоўную частку рэчаў, твораў старажытнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — зброю, вырабы з золата, серабра і каштоўных камянёў — адправілі ў Пецярбург, частку — у Смаленск. Шмат каштоўнасцей разрабавалі расійскія салдаты і афіцэры[1].

Нясвіжская бібліятэка Радзівілаў, якая да 1772 г. налічвала 20 тыс. тамоў, была вывезена ў Пецярбург А.Бібікавым. На той час там знаходзіўся і хатні кніжны збор "бібліятэкі Бяльскай", якую сабрала Ганна Радзівіл (1676—1746, родам з Сангушкаў) у радзівілаўскім замку м. Бяла (Белая, цяпер у межах Рэспублікі Польшча). Варта згадаць, што ў бібліятэцы таксама захоўваўся і кніжны збор Якуба Генрыха Флемінга (1667—1728), каралеўскага міністра Аўгуста Ш, набыты Радзівіламі ў пачатку ХУШ ст. Гэты аддзел называўся "бібліятэка Флемінгоўская".

Акрамя таго ў бібліятэцы Нясвіжскай Ардынацыі быў таксама аддзел рукапісаў, дзе сярод іншых каштоўных рукапісаў захоўваліся 17 тамоў літоўскіх прывілеяў у добра пераплеценых вокладках (Acta Tomiciana), якія былі перададзены ў 1551 г. Мікалаю Радзівілу каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем ВКЛ Жыгімонтам Аўгустам[2].

Па загаду Кацярыны П нясвіжскую бібліятэку перадалі ў тым жа годзе Імператарскай Акадэміі навук[3]. Яна склала большую частку бібліятэкі гэтай Акадэміі, аб чым сведчыць наступны запіс бібліятэкара І.Бакмейстара: "...полученное библиотекою в 1772 году другое приращение, о котором ни-

как умолчать не можно, превосходит все преждепомянутые. Многочисленные собрания книг, хранимые в то время в Несвиже, что в Литовском княжестве, привезено и приобщено к нашему. Дивно, что война наукам везде зловредная, в России им полезна. Она пособием нам служила в начальном еще заведении библиотеки и доставила ей найбольшую часть скопленных ею книг"[4]. Кнігазборы і рукапісы Нясвіжскай бібліятэкі, перададзеныя Імператарскай Акадэміі навук у 1772 г., у 1842 г. пераразмеркавалі. Частку з іх перадалі С.-Пецярбургскай Духоўнай Акадэміі[5], частку - Універсітэцкай бібліятэцы ў Маскве[6], частку - бібліятэцы Генеральнага штаба ў Пецярбургу. Універсітэцкая бібліятэка ў Маскве атрымала ўсе беларускія, польскія і лацінскія хронікі, што захоўваліся ў Нясвіжы[7]. Але найбольшую колькасць рукапісаў і рукапісных кніг атрымала Імператарская Публічная бібліятэка. (Спіс беларускіх рукапісных кніг у зборах Нацыянальнай бібліятэкі Расіі ў Санкт-Пецярбургу гл. далей у артыкуле М.Нікалаева).

Вядома, што 11 інкунабулаў з нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў сёння знаходзяцца ў Дзяржаўнай бібліятэцы Расійскай Федэрацыі (г. Масква), некалькі экземпляраў — у бібліятэках Вільнюса[8].

Пасля канфіскацыі маёмасці ў 1772 г. Радзівілы зноў запоўнілі сваю скарбніцу каштоўнасцямі. Новыя іх рабункі адбыліся ў Нясвіжскім замку ў канцы кастрычніка 1812 г. Згодна з мемуарнымі запісамі маршалка замка Альберта Бургельскага, першым на каштоўнасці Радзівілаў паквапіўся генерал Кнорынг, які забраў усё каштоўнае адзенне мінулых стагоддзяў, старажытныя дываны, частку гадзіннікаў, антычных твораў, музычных інструментаў і інш.

Наступным рабаўніком Нясвіжа быў генерал Тушкоў, які, тэрарызуючы А.Бургельскага, забраў "розныя брыльянты, сярэбраныя і залатыя вырабы, а таксама іншыя рэчы".

Даведаўшыся пра рабаванні Нясвіжскага замка генераламі ў асабістых мэтах, адмірал Чычагаў стварыў спецыяльную камісію з вышэйшых афіцэраў, якія павінны былі сачыць за ходам рэквізіцыі радзівілаўскіх каштоўнасцей. Яны афіцыйна забралі са скарбніцы тое, што засталося пасля Кнорынга і Тушкова — "калекцыю розных

каштоўных каменняў, сабраную ў даўнія часы, брыльянты ў аправе і без апраўы, таксама падабраныя ў розныя калекцыі; шмат тытунёвак залатых і сярэбраных, упрыгожаных брыльянтамі; камплекты розных антыкаў". Са згоды камісіі вывезлі шмат сталовага серабра (на сто асоб), замежны фарфор і фаянс, нумізматычныя калекцыі, вельмі прафесійна скамплектаваныя, "самыя каштоўныя замежныя творы жывапісу", апоны (кітайскія і турэцкія накідкі на коней), зброю, рыцарскія даспехі, старыя сярэбраныя вырабы, кубкі "рознымі штукамі і каштоўнымі медальёнамі аблепленыя", маршалкаўскія ляскі, аздобленыя золатам і брыльянтамі; манстранцыі сярэбраныя і залатыя, таксама ўпрыгожаныя брыльянтамі. Вельмі шмат забралі "обіцця" (так называлі тканіны для аздобы сцен палацавых пакояў, узор якіх быў вытканы залатымі і сярэбранымі нітамі), розныя гадзіннікі, "галуны і ўбранства каралеўскага трона". Са зброі забралі карабелы, конскую збрую, упрыгожаную каштоўнымі камянямі, мячы і кінжалы разам з папскім мячом Яна Ш, розных памераў сасуды ў выглядзе ракавіны, слімака (так званыя "наўцілусы"), вельмі рэдкія каштоўнасці нават сярод заходнееўрапейскіх збораў; "бязмежную колькасць каштоўных кніг" з Нясвіжскай бібліятэкі, сабраных пасля рабункаў у 1772 г. Радзівіламі — Каролем Пане Каханку і Дамінікам, а таксама вялізны збор нумізматычнага кабінета.

9 студзеня 1813 г.генерал П.Чычагаў аддаў загад N 284: "Из числа добычей, взятых вевереною мне Армией от неприятеля в Несвиже, находящихся ныне в Минске, предписываю... 1) древние медали и монеты, коим доставили мне реестр [а ў тым рэестры згадвалася 13256 манет, у тым ліку 456 залатых, 11775 сярэбраных, 1 бронзавая, 881 медная, 137 свінцовых, 1 алавянная, 1 каменная, 1 драўляная (радзівілаўская — М.Я.)] отправить в Харьковский университет, в который прилагается при сем и мое отношение; 2) вообще церковные вещи отослать в Московский собор с реестром им; 3) самые редкости и древности препроводить к Д.С.Советнику Валуеву, но ему тоже прилагается мое письмо; 4) все прочия за тем остающиеся, которые имеют весьма мало значения, продать

с аукциону и, сколько вырučено будет денег, мне донести и пожаловать в церковь и к Валуеву вещам доставить реестр"[9].

Па загаду Камісіі ўсё запакавалі ў скрыні і вывезлі на 13 брычках. Пазней Чычагаў перадаў частку каштоўнасцей Успенскаму сабору ў Маскве, частку — Эрмітажу ў С.-Пецярбургу.

Рэшткі кітайскіх і турэцкіх тканін для аздобы сцен (так званае "обіццё"), дываноў, шабляў і карабелаў, рыцарскіх даспехаў, паляўнічых стрэльбаў і тэатральных касцюмаў, люстэркаў рознай велічыні, а таксама вырабаў з медзі, якіх Чычагаў не змог забраць, ён аддаў на разрабаванне сваёй арміі і мясцовым гандлярам. У гэты ж час забралі частку архіва, а частка была проста раскідана па розных мясцінах.

Ацалелую нейкім цудам частку каштоўнасцей і збораў замка, якія былі лепей прыхаваны, забраў генерал Тушкоў. Ён вярнуўся ў Нясвіж 3 снежня 1812 г. і вывез крэслы, "обіццё", люстэркі, рэшткі бібліятэкі, нават фіранкі з вокнаў і пасцель, сярэбраныя і медныя вырабы, карэты і "астатнюю рухомасць, якая была". Тушкоў выцягнуў гэтыя каштоўнасці з 32 сховішчаў Бургельскага. Згодна з падлікамі апошняга, штаб адмірала Чычагава і яго падначаленыя вайскоўцы толькі з замка вывезлі каштоўнасцей не менш, чым на 10 млн. польскіх злотых. Аднак Бургельскаму ўсё ж удалося схаваць ад рабаўнікоў 60 пудоў сталовага серабра, а таксама шмат іншых рэчаў. Засталіся ў "гетманскай" зале і партрэты Радзівілаў і князёў, з якімі яны былі ў сваяцкіх адносінах. Многія партрэты пасля нашэсця вайскоўцаў патрабавалі рэстаўрацыі[10].

Значныя рабункі Нясвіжскага замка адбыліся ў пачатку 1919 г., калі на пэўнай частцы Беларусі ўсталявалася савецкая ўлада... "После ухода из Несвижа немцев пришел отряд "товарища" Солдатова, отряд 6-ой пунктовой Чрезвычайной Комиссии 8-го участка Смоленского округа. Завладел "тов." Солдатов историческим замком и на правах владетельского князя стал править городом. Наложил на город контрибуцию в несколько десятков тысяч рублей, от которых, впрочем, нет никакого следа в Слуцком Казначействе, а когда возмущенные феодальным правом "тов." Солдатова,

местные коммунисты собрались, чтобы обсудить меры против этой "чрезвычайной оккупации", он окружил дом, где проходило собрание, расставил кругом пулеметы и приказал разойтись. Однако коммунистам удалось-таки собраться в другой раз, они, образовав ревком, решились на крайнюю меру: при помощи стоящей в Несвиже роты Н-ского полка они разоружили чрезвычайный отряд Солдатова, после чего было установлено, что из замка пропали все драгоценности, неоценимые предметы искусства, дивные гобелены и другие сокровища, не поддающиеся оценке. Следствие партийной и местной следственной комиссии уже закончено. "Товарищ" Солдатов и его сподвижники понесли заслуженную кару, но разграбленные сокровища остались неразысканными"[11].

Згодна з артыкулам Рыжскага Мірнага Дагавора і Дадатка да яго N 3 РСФСР і Польская Рэспубліка падзялілі між сабой (не запрасіўшы на перамовы ўрад БССР, утвораны 1.1.1919 г.) не толькі этнічна беларускія землі, але і культурныя каштоўнасці, перадача якіх адбывалася на працягу некалькіх гадоў.

Так, у 1928 г. па патрабаванню польскага ўрада СССР аддаў Польшчы невялікую частку каштоўнасцей Нясвіжскага замка, вывезеных у Расію ў 1792 і 1812 гг. Ніжэй падаецца спіс помнікаў гісторыі і мастацтва (на мове арыгінала), якія падлягалі... "выдаче Польской Делегации..."[12].

1. Почетный меч Яна Собесского N В.13 с перевязью N 3а.

2. Шляпа Яна Собесского N 3а.

3—12. Десять палок за N 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14 (отделение "Смешанные вещи", латинская буква "   "). [У дакуменце літара не пазначана — рэд.].

13. Мантия ордена Св. Духа N 763.

14—15. Два польских маршалских жезла (отдел "Различное оружие" за N 17 и 18).

16—20. Пять ружей N 31, 32, 33, 34, 35 (отдел "Ружья и карабины"). Латинская буква "Ф".

21. Один кончар (ганчак — ? — М.Я.) N 15 (латинское "Б").

22—23. Две сабли N 58 и 128 (латинское "А").

24. Одна бронзовая модель лошади N 83 (отдел "Смешанные вещи").

25. Тридцать каменных сабельных рукояток польских и пять мраморных набалдашников турецких (N 7, отдел "Различное оружие").

26. Нагрудный образ с Богородицей (N к. 1).

27—28. Две серебряные доски с гравер. портретом Оссолинского (Ливан N 25 и 37).

29—30. Две табакерки с изображением на слоновой кости Яна Ш, вторая Иннокентия XI (N 171 и 172 каталога Ц.С. Арс. 1840 г. Ч. II).

31—32. Два барельефа с изображением Вулкана, Венеры, Геркулеса и Омфалии (N 189 каталога Ц.С.Арс. 1840 г. Ч.II).

33—35. Три бокала, из коих два в виде корабля (серебряные и один в виде совы из кокосового ореха в золоченой оправе N 2479).

36—37. Два бокала с раковиной N 2891 и 2879.

Шмат нясвіжскіх каштоўнасцей было знішчана або без следу згублена ў 1939 г.[13]. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй бюро ЦК КП(б)Б на працягу верасня 1939 і чэрвеня 1941 г. чатыры разы абмяркоўвала на сваіх пасяджэннях, куды накіраваць каштоўнасці Нясвіжскага замка. 27.12.1939 г. вырашылі стварыць гістарычны музей. Але праз два тыдні па невядомай прычыне (можа, у архіве Камітэта дзяржаўнай бяспекі былога СССР будуць знойдзены дакументы, якія высветляць гэтыя прычыны) прынялі новае рашэнне: перадаць замак Радзівілаў пад Дом адпачынку НКУС БССР, часова пакінуўшы нясвіжскія каштоўнасці ў замку.

Аднак 5 ліпеня 1940 г., праз 5 месяцаў, Бюро ЦК КП(б)Б зноў абмяркоўвала гэтае ж пытанне. Замак вырашылі перадаць аўтадарожнаму тэхнікуму, бібліятэку і архіў — Акадэміі навук БССР; карціны (сярод іх -- 20 палотнаў Ю.Фалата) і жывапісныя партрэты (згодна са спісам Саюза мастакоў БССР, складзеным 20.10.1939 г., іх было 264; з іх 87 партрэтаў Радзівілаў і іх сваякоў урад БССР перадаў у 1950 г. ПНР[14]), а таксама некалькі скульптурных партрэтаў, збор слуцкіх паясоў, частку мэблі, скульптурныя кампазіцыі і каштоўныя вазы — Дзяржаўнай карціннай галерэі, створанай у 1939 г.; гарматы, частку рыцарскіх даспехаў ХУІ ст., збор агнястрэльнай і халоднай зброі --

Беларускаму дзяржаўнаму музею (збор зброі, вывезены нямецкімі захопнікамі, быў часткова вернуты з Усходняй Прусіі і размеркаваны паміж Беларускім дзяржаўным музеем і Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеем); частку рыцарскіх даспехаў — кінастудыі "Савецкая Беларусь"; збор з паляўнічай залы — музею Беластоцкага дзяржаўнага запаведніка; касцюмы — Вялікаму тэатру оперы і балета. Астатнюю маёмасць рэалізавалі "праз дзяржаўны гандаль". Для выканання гэтага рашэння стварылі камісію ў складзе "т. Красніка (камісар замка), т. Азірскага (нач. Упраўлення па справах мастацтва), т. Сіротка (сакратар Нясвіжскага райкама партыі)".

ЦК КП(б)Б наўмысна марудзіла з перадачай нясвіжскіх каштоўнасцей беларускім музеям, даючы магчымасць расійскім навукоўцам вывозіць без уліку беларускую спадчыну. Кіраўнікі ўсёй вертыкалі ўлады ўвогуле варожа ставіліся да збораў старажытных помнікаў беларускай культуры, да іх захавання і вывучэння. Таму не дзіўна, што яны з палёгкай аднесліся да вывазу з Беларусі помнікаў культуры Расійскімі музеямі. Так, у 1940 г. экспедыцыя Дзяржаўнага гістарычнага музея (г. Масква) вывезла з паляўнічай залы Нясвіжскага палаца "цудоўнай работы крэсла з косці рагоў аленя"[15]. Гэты ж музей вывез мэблю з маёнтка Завіша каля Пінска і два арыгінальныя разныя крэслы з епіскапскага палаца ў Пінску. Тая ж газета "Известия" 7 верасня 1940 г. з захапленнем паведамляла, што Цэнтральны антырэлігійны музей (Масква) атрымае днямі з Пінска два вагоны старадаўніх кніг і рукапісаў (болей за 30 тысяч), якія належылі Пінскай каталіцкай семінарыі.

Створаная бюро ЦК КП(б)Б камісія нічога не зрабіла, і 6 студзеня 1941 г. зноў на бюро слухалася пытанне аб перадачы каштоўнасцей з Нясвіжскага замка. Пастанавілі стварыць новую камісію, якая павінна была ў тыднёвы тэрмін даць свае прапановы, кіруючыся наступнымі меркаваннямі: бібліятэку і архіў аддаць АН БССР; рыцарскія даспехі, зброю і інш. маёмасць з рыцарскай залы — Гістарычнаму музею Беларусі і кінастудыі; збор паляўнічай залы — музею Беластоцкага дзяржаўнага запаведніка; касцюмы і мэблю — Вялікаму тэатру оперы і балета, БДТ-1, Дому работнікаў мастацтва.

У 1941 г. частку архіва і бібліятэкі (тое, што засталося пасля папярэдніх рабункаў замка) вагой у 60 тон перавезлі ў АН БССР. Астатнія каштоўнасці па згаданаму вышэй спіску таксама вывезлі ў Мінск.

Як у свой час і расійскія, гітлераўскія генералы і вайскоўцы спачатку рабавалі беларускія каштоўнасці кожны сам па сабе, але праз некалькі месяцаў гаўляйтэр Кубэ спыніў прыватнае рабаванне музеяў, арганізаваў улік культурных каштоўнасцей і вываз іх у Германію прафесіяналамі, пра што сведчыць ліст В.Кубэ, змешчаны ў гэтым зборніку. Былі вывезены ў Германію радзівілаўскі архіў (ён вернуты, захоўваецца ў Нацыянальным архіве РБ); каштоўнасці Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР (вернуты часткова). Каштоўнасці, вывезеныя ў Расію, не вернуты зусім. Месцы знаходжання многіх з іх вядомы. Але большасць нясвіжскіх каштоўнасцей трэба яшчэ шукаць у сховішчах нашага ўсходняга суседа, а таксама ў Германіі.

1. Sochaniewicz K. Sprawa rewindykacyji archiwow i mienia kulturalnego Polski od Rosji /Biblioteczka "Wschodu Polski"/. Warszawa, 1921. T. 11. S. 4—5.

2. Там жа.

3. Перевощиков В.М. Роспись книгам и рукописям имп. Российской Академии. Спб., 1840.

4. Опыт о библиотеке и кабинете редкостей и истории натуральной... Спб., 1979. С. 43.

5. Родосский А.С. Описание 432 рукописей, принадлежащих С.-Петербургской духовной Академии... Спб., 1893; Тихонов П.Н. Каталог российских рукописных книг, находящихся в библиотеке Софийского Собора. Спб., 1881.

6. Реусс. Каталог книг Московской университетской библиотеки. М., 1831—1836. Т. 1—3.

7. Sochaniewicz K. Sprawa... s. 5.

8. Каталог инкунабулов. М.; Л., 1963; Указатели и каталоги инкунабулов. М., 1979.

9. Апухтин В.Р. Сердце России... Очерк и архивные материалы. М., 1912. С. 58; Kotlubaj E. Galeria Nieswiezska portretow Radziwillowskich. Wilno, 1857.

10. Kotlubaj E. Galeria Nieswiezska. S. 340, 341.

11. Гужалоўскі А. З гісторыі рабункаў Нясвіжскага замка // Спадчына. 1993. N 2. С. 20—21.

12. Архіў Міністэрства замежных спраў Расіі. Архив внешней политики России. Ф. 54з, воп. 4, спр. 170, л. 182.

13. Бабёр М. Зноў пра Нясвіжскія скарбы // Літ. і мастацтва. 1993. 26 сак.

14. Вяртанне. Зб. Мн., 1992. С. 194—202.

15. Известия. 1940. 2 нояб.

МАЯ ЯНІЦКАЯ

## СТАН МУЗЕЙНАЙ СПРАВЫ Ў БССР У 20—30 ГАДЫ

Звярнуцца да аналізу стану музейнай справы ў БССР у 20—30-я гады мяне прымусіў артыкул А.Гужалоўскага "Былі на Беларусі музеі"[1]. У дадзенай публікацыі цалкам падтрымліваецца яго канцэпцыя аб прычынах ліквідацыі многіх музеяў. Але адначасова ўдакладняецца іх спіс, падаецца кароткая інфармацыя аб крыніцах камплектавання іх фондаў, што вельмі важна для пошуку спісаў каштоўнасцей, якія перадаваліся з аднаго музея ў другі, для ўдакладнення інфармацыі аб страчаных на сённяшні дзень помніках культуры.

Дзякуючы краязнаўчаму руху на працягу 20-х гадоў у БССР узнікла шмат раённых, гарадскіх і абласных музеяў. Гэты працэс быў своеасаблівай формай праяўлення дэмакратычнай самадзейнасці насельніцтва, таму што стваральнікі музеяў самі, без вышэйшых загадаў і афіцыйных методык, распаўсюджвалі веды пра родны край, гістарычную пераемнасць традыцый, нацыянальныя карэнні, старажытныя рэліквіі. Такім чынам музеі спрыялі ўздыму інтэлектуальнага жыцця краіны, росту нацыянальнай свядомасці беларусаў. Вялікую ролю ў гэтым адыгрываў часопіс "Наш край". Але з пачатку 30-х гадоў такі рух ужо не адпавядаў планам умацавання Савецкай імперыі, на ўскраінах якой прыярытэт таксама павінна была мець руская культура.

З 1929 г. пачаўся наступ на музеі, якія былі падпарадкаваны Народнаму камісарыяту асветы і "мабілізаваліся" да ўдзелу ў палітычных кампаніях — на прапаганду індустрыялізацыі, калгаснага будаўніцтва, атэізму. Крытэрыем эфектыўнасці музея лічыўся яго ўдзел ў масавай

прапагандзе сацыялістычнага ладу жыцця. Кіраўнікі ўсёй вертыкалі ўлады варожа ставіліся да збору старажытных помнікаў мясцовай культуры, да іх захавання і вывучэння. У апошнім нумары часопіса "Наш край" за 1930 г. пісалася, што "Ён павінен стаць органам барацьбы за марксісцкую ідэялогію ў краязнаўчым руху, мабілізуючы масы вакол сацыялістычнага будаўніцтва"[2]. Гэты курс партыі бальшавікоў быў замацаваны на Усебеларускай нарадзе музейных работнікаў, якая адбылася ў Мінску ў 1932 г. Прынятая на ёй рэзалюцыя патрабавала ўдзельнічаць у "рашучай барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небяспекай, — контррэвалюцыйным беларускім нацдэмакратызмам і іншымі мясцовымі шавінізмамі"[3]. Выконваючы гэты пастулат, былі зачынены музеі:

1. Аршанскі музей перакідвалі 7 разоў. У 1939 г. старшыня гарадскога савета Шчэрба загадаў выкінуць экспанаты на вуліцу, якія праляжалі там два дні, а будынак музея перадаў Гарадскому Савету асавіяхіма[4]. Куды трапілі экспанаты музея, пакуль невядома, як невядома і калі афіцыйна ён быў зліквідаваны. Няма музея ў Оршы і цяпер[5].

2. Віцебскі "музеум розных прадметаў лясной гаспадаркі" існаваў з сярэдзіны XIX ст. Акрамя згаданых экспанатаў у музей паступалі помнікі этнаграфіі[6]. Пасля 1917 г. як музей ужо не існаваў.

3. Музей Віцебскага губернскага статыстычнага Камітэта. Дакладная дата заснавання пакуль невядома. У 1893 г. яго экспанаты перадалі музею царкоўна-археалагічнага "древлехранилища", а ў 1924 г. разам з экспанатамі "древлехранилища" - Віцебскаму аддзяленню Белдзяржмузея .[7]

4. Прыватны музей В.П.Федаровіча ў Віцебску быў створаны ім у 80-я гады XIX ст. з калекцый Бэргнера, Кусьцінскага, Валадковіча, Плятара і сабранымі В.Федаровічам прадметамі з археалагічных раскопак на тэрыторыі Віцебскіх замкаў, а таксама рэчамі старасвеччыны, адшуканымі ў Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях[8]. У 1918 г. музей В.П.Федаровіча перадалі Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археалагічнага інстытута, у 1920 — яго прыняла Віцебская камісія па ахове помнікаў старажытнасці і мастацтва, але прынятыя экспанаты не запісалі ў інвентарную кнігу. У 1921 г. В.П.Федаровіч перадаў свой му-

зей Губернскаму аддзелу народнай адукацыі з мэтай упарадкавання гэтай калекцыі і падрыхтоўкі да яго адкрыцця. Але адкрыццё музея не адбылося, не хапіла ў БССР на гэту справу грошай і памяшкання. Налічваў музей 1818 экспанатаў. У 1922 г. яго перадалі Віцебскаму губернскаму музею[9].

5. Віцебскі царкоўна-археалагічны, заснаваны Е.Р.Раманавым і А.П.Сапуновым у 1893 г., ліквідавалі ў 1919 г., большасць экспанатаў перадалі Віцебскаму губернскаму музею[10].

6. Музей Віцебскай вучонай архіўнай камісіі быў створаны ў 1909 г. Меў 1700 экспанатаў, ліквідавалі яго ў 1918 г. Экспанаты перадалі ў 1918 г. Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археалагічнага інстытута (навучальная ўстанова)[11].

7. Прыватны музей А.Р.Брадоўскага быў прывезены ў Віцебск яго ўладаром у час 1-й сусветнай вайны, які эвакуіраваўся сюды з Вільні. А.Р.Брадоўскі стаў першым дырэктарам Віцебскага губернскага музея, створанага ў 1919 г., куды перадаў частку свайго музея. Згодна з законам 1923 г. экспанаты прыватнага музея А.Брадоўскага з'яўляліся дзяржаўнай уласнасцю БССР[12]. Калекцыю экспанатаў гэбрайскай культуры ён перадаў Беларускаму дзяржаўнаму музею, размешчанаму ў Мінску[13].

8. Музей Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута быў атрыманы ў 1918 г. ад Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (каля 1700 экспантаў) і куды ён быў перададзены пасля ліквідацыі гэтай установы ў 1922 г. невядома[14]. Адначасова гэтаму ж інстытуту быў перададзены і прыватны музей В.П.Федаровіча, але ў 1920 г. яго перадалі камісіі па ахове помнікаў старажытнасці і мастацтва.

9. Музей Віцебскага вышэйшага педагагічнага інстытута згадваецца з 1918 г. Калі быў створаны музей і на падставе якіх экспанатаў пакуль невядома. Але ў архіве Віцебскага абласнога краязнаўчага музея згадваюцца "Інвентарныя вопісы Музея Віцебскага вышэйшага педінстытута (у 2-х кнігах)", фонд 8. Інстытут быў створаны 1.10.1918 г.; у 1919—1923 гг. называўся "Інстытут народнай адукацыі": з 1923 г. зліўся з Беларускім дзяржаўным універсітэтам. У

1930 г. зноў адноўлены пад назвай Віцебскі педагагічны інстытут імя С.М.Кірава[15].

10. Віцебскі музей сучаснага мастацтва быў створаны ў 1918 г. па ініцыятыве М.Шагала пры адчыненай па яго ж ініцыятыве Народнай мастацкай школе "новага рэвалюцыйнага ўзору" (1918-1923 гг.)[16]. Музея такога профіля яшчэ не было ні ў адным горадзе былой царскай імперыі. І яго нельга лічыць першым музеем сучаснага мастацтва ў СССР (як сцвярджае Я.Ленсу ў артыкуле "Два юбілеі беларускага дызайна" у газеце ЛіМ за 3.09.1993 г.), таму што ў 1918 г. СССР яшчэ не існаваў, ён быў заснаваны ў 1922 г. У 1919 г. М.Шагал арганізаваў у Віцебску першую выставу авангарднага мастацтва пачатку XX ст., у якой прынялі ўдзел авангардысты С.-Пецярбурга, Смаленска і Масквы. Аснову музея склалі 120 твораў 26 мастакоў-авангардыстаў, у тым ліку выкладчыкаў Народнай мастацкай школы (яна часта змяняла сваю назву — у 1921 г. на "Віцебскі мастацка-практычны інстытут" да 1923 г.; потым "Віцебскі мастацкі тэхнікум" у 1923-1934 гг. і нарэшце "Віцебскае мастацкае вучылішча" у 1934-1941 гг.), а таксама прыехаўшых мастакоў, якія прынялі ўдзел у першай выставе такога рода: М.Шагала, К.Малевіча, К.Кандзінскага, Э.Лісіцкага, Р.Фалька, І.Машкова, Н.Альтмана, М.Ларыёнава, П.Кузняцова, М.Когана, І.Пуні, Д.Бурлюка, А.Купрына, В.Ермалаевай, Х.Суціна і інш. Музей зачынілі ў 1922 г. пасля ўтварэння СССР. Частка музейных твораў была адпраўлена ў музеі Масквы і Петраграда, а частку перадалі ў 1925 г. Віцебскаму Аддзяленню Белдзяржмузея[17].

11. Горацкі краязнаўчы. Быў зачынены згодна з пастановай Савета Народных Камісараў ад 19 лістапада 1924 г. "Аб музеях дзяржаўных і мясцовых"; яго фонды былі перададзены ў Беларускі дзяржаўны музей[18]. Музей узнавіўся ў нашы дні.

12. Магілёўскі музей, заснаваны 15.11.1867 г. пры губернскім статыстычным камітэце. У 1879 г. рэарганізаваны, у 1893 г. у ім стварылі гісторыка-археалагічны аддзел. Меў каля 1500 экспанатаў. Сярод іх найбольш вядомы: кальчуга з Аналінскага кургана Быхаўскага павета; троннае крэсла з Магілёўскага дарожнага палаца ХУШ ст.; сані, пакінутыя

Напалеонам у час адступлення; гербарыі раслін; творы мясцовага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва; скарбы старажытных манет. Зачынілі музей у 1919 г. Экспанаты перадалі ў Магілёўскі губернскі музей[19].

13. Магілёўскі царкоўна-археалагічны. Заснаваны ў 1897 г. Е.Р.Раманавым. Зачынены ў 1918 г. Меў 6 тыс. экспанатаў, перададзеных у 1919 г. Магілёўскаму губернскаму музею.

14. Магілёўскі губернскі музей быў створаны 31.1.1919 г. на базе экспанатаў Царкоўна-археалагічнага музея (гл. вышэй) і Магілёўскага музея (гл. вышэй). Пасля 1919 г. музей 5 разоў перакідваўся ў розныя будынкі. Апошним прытулкам стаў Іосіфаўскі сабор (помнік архітэктуры саюзнага значэння), які быў узарваны па загаду савецкай улады ў 1938 г., а выкінутыя на вуліцу экспанаты рабаваліся ўсімі ахвочымі да старажытнасцей. Засталося толькі 7000 экспанатаў, 25% ад ранейшай калекцыі, якія хаатычна звалілі ў каплічку на Успенскіх могілках, яе выкарыстоўвалі як склад[20]. Пачынаючы з 1935 г. пры музеі стварылі філіял — Музей гісторыі і атэізму, а з 1937 г. яшчэ адзін філіял - Мемарыяльны музей Р.К.Арджанікідзе [21]. Пасля 1938 г. філіял пад назвай "Музей гісторыі і атэізму" не функцыяніраваў, таму што яго будынак заняў абкам КП(б)Б, а экспанаты да 1941 г. захоўваліся ў пакоі-сейфе абкама. У ім зберагаліся значныя культурна-гістарычныя каштоўнасці: крыж Ефрасінні Полацкай 1161 г.[22]; сярод 150 абразоў XIII—XVIII стст. знаходзіўся знакаміты абраз "Маці Божая Бялыніцкая" XV ст.; старажытная зброя X—XIV ст. (280 адзінак); калекцыі манет (18 тыс. адзінак) і фарфорава-фаянсавых вырабаў XIV—XVIII стст. (170 адзінак); карціны рускіх і заходнееўрапейскіх мастакоў; калекцыі беларускіх рукапісных кніг і грамат (175 адзінак) і інш. Супрацоўнікі музея, якія працавалі там да 1941 г., называлі яго "Магілёўскі дзяржаўны гістарычны музей" (гл. зб. "Вяртанне". Мн., 1992. С. 112, а на с. 111 і 118, у акце ад 1944 г. ён згадваецца як "Магілёўскі абласны дзяржаўны гістарычны музей"). А.Гужалоўскі ў артыкуле "Былі на Беларусі музеі" называе яго "Магілёўскі гістарычны музей". З прыведзеных дадзеных вынікае, што неабходна даследаваць у якім годзе музей змяніў назву і як дакладна называўся. У

час 2-й сусветнай вайны экспанаты музея былі вывезены ў Германію (спіс страчаных каштоўнасцей гл. у зб. "Вяртанне". Мн., 1992. С. 111—117). Музей аднавіўся ў 1957 г. пад назвай "Магілёўскі абласны краязнаўчы музей".

15. Мазырскі краязнаўчы. Адчынены ў пачатку 1929 г. мясцовым краязнаўчым таварыствам. Меў багатыя аддзелы археалогіі і этнаграфіі, а таксама дакументы і рэчы, якія адлюстроўвалі падзеі на Мазыршчыне ў 1917—1925 гг. У 1937 г. музей зачынілі. Экспанаты кінулі ў падвал, а будынак аддалі пад склад[23].

Новы Мазырскі краязнаўчы музей быў адкрыты 7.11.1949 г.[24].

16. Мсціслаўскі краязнаўчы. Адчынены ў 1926 г. у будынку кармяліцкага кляштара, дзе дэманстраваліся калекцыі па прыродазнаўству, этнаграфіі, грашовыя скарбы[25]. Год ліквідацыі музея невядомы. Яго экспанаты перадалі Беларускаму дзяржаўнаму музею згодна з пастановай Савета Народных Камісараў ад 19.XI.1924 г.[26]. Цяперашні музей адчынены ў 80-я гады.

17. Нараўлянскі краязнаўчы. Заснаваны ў 1927 г. Меў тады ж больш 1000 экспанатаў і шпарка развіваўся. Яго фонды ўзбагаціліся за кошт мастацкіх збораў спадароў Горватаў[27]. Дакладны год ліквідацыі музея пакуль невядомы, як і невядома куды перадалі экспанаты. Няма музея ў Нароўлі і цяпер[28].

18. Полацкі "музеум розных прадметаў лясной гаспадаркі" узнік у сярэдзіне XIX ст. Акрамя прадметаў лясной гаспадаркі ў музей паступалі помнікі этнаграфіі[29]. Пасля 1917 г. музей нідзе не згадваўся.

19. Рэчыцкі. Экспанаты звалілі ў адзін пакой бібліятэкі. Куды яны трапілі, пакуль невядома. Сучасны Рэчыцкі раённы гісторыка-краязнаўчы музей адкрылі 5.11.1954 г.[30].

20. Слонімскі. Экспанаты яго звалілі ў двух пакоях кватэры, куды яны потым трапілі, таксама невядома. У 1929 г., "за польскім часам", Слонімскі музей быў заснаваны мясцовым археолагам і краязнаўцам І.Стаброўскім на аснове яго ўласных калекцый. У час Другой сусветнай вайны музей быў разрабаваны фашысцкімі захопнікамі, але менш каштоўная частка калекцыі тады знаходзілася ў ква-

тэры І.Стаброўскага. У 1945 г. музей адчынілі, а 24.5.1946 г. зноў ліквідавалі, пераўтварыўшы яго ў Баранавіцкі абласны гісторыка-краязнаўчы музей. Праз 6 гадоў, 27.9.1952 г., музей стварылі нанава як Слонімскі раённы краязнаўчы музей[31] - дзякуючы намаганням усё таго ж, але ўжо састарэлага, І.Стаброўскага.

21. Слуцкі краязнаўчы. Быў створаны ў 1921 г. мясцовым таварыствам "Папараць-кветка" у былой гімназіі. Меў унікальныя экспанаты — партрэты слуцкіх князёў Алелькавічаў, рукапіснае Евангелле ХУІ ст.; епітрахіль, посах і "срэбную" рызу ХУІ ст., кальвінскую Біблію, выдадзеную ў Брэсце ў 1563 г., малюнкі мастака Катарбінскага і інш. Музей быў адноўлены толькі ў 1952 г.[32].

22. Чэрыкаўскі музей. Дата заснавання пакуль невядома. На працягу 1924—1925 гг. яго фонды былі перададзены Беларускаму дзяржаўнаму музею (г. Мінск) паводле пастановы Савета Народных Камісараў БССР ад 19 лістапада 1924 г.[33].

Экспанаты гэтых музеяў у большасці былі знішчаны ці раскрадзены. Акрамя таго, толькі ў Мінску на працягу 30-х гадоў зніклі заалагічныя, тэатральныя і археалагічныя зборы Інбелкульта, не стала музея паліткатаржаніна, музея пры Доме Чырвонай арміі, музея аховы і аздараўлення працы, музея судовай медыцыны, палітэхнічнага музея пры Цэнтральнай школьнай станцыі, музея санітарнай асветы. У 1940 г. расфарміравалі літаратурны музей Э.Ажэшкі ў Гродне (частка яго рукапісаў і рэчаў трапіла ў Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей, а частка прапала); зачынілі музейны аб'ект — "Гродзенскі батанічны сад", які праводзіў навукова-асветніцкую дзейнасць і меў аддзелы сістэматыкі, біялогіі, лекавых раслін, дрэў і кустоў[34].

Адначасова ў 20—30-х гадах былі створаны новыя музеі, якія паспяхова працавалі да пачатку 2-й сусветнай вайны.

1. Бабруйскі краязнаўчы музей, створаны ў 1924 г. мясцовым краязнаўцам Ц.Я.Славіным; меў калекцыі этнаграфіі і археалогіі. спыніў дзейнасць у час 2-й сусветнай вайны, не аднавіўся. Страчаныя экспанаты трэба шукаць[35].

2. Беларуская дзяржаўная карцінная галерэя[36] (такую назву яна мела ў Пастанове СМ БССР N 138 ад 16.05.1944 г.) была заснавана ў 1939 г. у Мінску на аснове прыватных калекцый, канфіскаваных у беларускіх магнатаў пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Мела аддзелы графікі, жывапісу, у тым ліку 30 беларускіх абразоў ХУІ—ХУШ стст., скульптуры, у тым ліку 50 скульптур заходнееўрапейскіх і рускіх майстроў; дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у тым ліку бронзавыя і фарфоравыя гадзіннікі і кандэлябры, урэцкае мастацкае шкло, габелены, мэбля беларускіх і заходнееўрапейскіх майстроў. У 1941 г. сюды перадалі каштоўныя мастацкія зборы Радзівілаў з Нясвіжскага замка — 264 жывапісныя партрэты і карціны беларускіх і замежных мастакоў; скульптурныя партрэты і шматфігурныя кампазіцыі; 48 слуцкіх паясоў, каштоўную мэблю, фарфоравыя і фаянсавыя вырабы Радзівілаўскіх мануфактур, заходнееўрапейскіх, кітайскіх і рускіх, а таксама шмат інш. твораў мастацтва (гл. артыкул "Драматычныя лёсы каштоўнасцей Нясвіжскага замка"). У час 2-й сусветнай вайны экспанаты музея былі вывезены ў Германію. (Папярэдні спіс страчаных экспанатаў гл. у зб. "Вяртанне". Мн., 1992. С. 70—107). Частка вывезеных экспанатаў была вернута пасля вайны. Карцінная галерэя ўзнавіла сваю дзейнасць у 1945 г., пачаўшы збіранне новых фондаў.

На працягу 1944—1957 гг. назва галерэі відавочна змянілася, таму што ў Пастанове СМ БССР N 162 ад 10.07.1957 г. было запісана: "Перайменаваць Дзяржаўную карцінную галерэю БССР у Дзяржаўны мастацкі музей БССР"[37]. Пад назвай Дзяржаўная карцінная галерэя БССР яна згадваецца і ў дакументах, якія накіравалі Германіі з мэтай атрымаць кампенсацыю за вывезеныя і зніклыя музейныя каштоўнасці (гл. зб. "Вяртанне". Мн., 1992. С. 70). Акрамя Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР у гэтых жа дакументах згадваецца яшчэ і "Мінская карцінная галерэя", з якой вывезлі больш экспанатаў (3383), чым з Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР (487 экспанатаў). На жаль, пакуль не маем дадзеных аб часе заснавання Мінскай карціннай галерэі.

3. Беларускі дзяржаўны музей дзейнічаў у Мінску з 31.08.1923 г. да ліпеня 1941 г. Быў створаны на базе Мін-

скага абласнога музея (гл. далей). У 1924 г. у яго фонды паступіла калекцыя твораў з Мінскай краёвай выставы старажытнага мастацтва, арганізаванай А.Іпелем у 1918 г. Меў 5 аддзелаў: гісторыка-археалагічны, нумізматыка-сфрагістычны, этнаграфічны, мастацкі, царкоўна-археалагічны; архіў каштоўных дакументаў і рукапісных кніг ХУ—ХУШ ст., а таксама навуковую бібліятэку. У 1941 г. у ім налічвалася 60 тыс. экспанатаў. Сярод найбольш значных экспанатаў былі: грашовыя клады IX—ХУШ стст., абразы беларускіх жывапісных школ ХУ—XIX стст.; карціны беларускіх мастакоў і творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі ХУП—XX стст., у тым ліку слуцкія паясы, мастацкае шкло; ключы ад варот Бабруйскай цвердзі, шабля напалеонаўскага маршала Нэя; беларускае нацыянальнае адзенне і інш.; 119 карцін рускіх мастакоў, а таксама палотны ХУ—XIX стст. заходнееўрапейскіх майстроў. У 1941 г. у музей паступіла нясвіжская калекцыя гармат і рыцарскіх даспехаў ХУІ ст., старажытнай вогнестрэльнай і халоднай зброі (гл. артыкул "Драматычныя лёсы каштоўнасцей Нясвіжскага замка"). Музей быў разрабаваны нямецкімі захопнікамі ў час 2-й сусветнай вайны. Нязначная частка экспанатаў вярнулася з Усходняй Прусіі і была размеркавана паміж Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеем і Дзяржаўным музеем БССР[38].

4. Віцебскі губернскі музей, заснаваны 12.11.1918 г. Адчынены ў чэрвені 1919 г. Аснову яго склалі рэчы мясцовай старасвеччыны і мастацтва, сабраныя пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі; калекцыя зброі былога "Віленскага Вайсковага Збору", эвакуіраваная ў час 1-й сусветнай вайны; музей А.Брадоўскага. Дакладная дата рэарганізацыі музея высвятляецца (на працягу кастрычніка 1924 г. і да 27 красавіка 1925 г. яго экспанаты перадаваліся Віцебскаму Аддзяленню Белдзяржмузея)[39].

5. Віцебскае Аддзяленне Беларускага Дзяржаўнага музея заснавана 1.10.1924 г. згодна з пастановамі Калегіі Наркамасветы БССР ад 30.05.1924 г. і Савета Народных Камісараў БССР ад 19.11.1924 г. Аднак музей пачаў дзейнічаць з 27.04.1925 г. Аснову фондаў (30 тыс. адзінак) склалі калекцыі прыватных музеяў Віцебскай навуковай архіўнай камісіі, Віцебскага царкоўна-археалагічнага старажытнага схо-

вішча ("дрэўнехранілішча", пазней называлі Віцебскі царкоўна-археалагічны музей"), Віцебскага вышэйшага педагагічнага інстытута, Віцебскага губернскага музея[40]. Пазней музей змяніў сваю назву. Згодна акта музея ад 12.06. 1930 г. аб перавозе ў Маскву на рэстаўрацыю твораў жывапісу ён на той час меў назву "Віцебскі дзяржаўны беларускі культурна-гістарычны музей", а не "Віцебскі гістарычны музей" як згадвае яго А.Гужалоўскі ў артыкуле "Былі на Беларусі музеі". Сярод каштоўных экспанатаў былі археалагічныя знаходкі з віцебскага замчышча, калекцыі старажытнага мастацкага шкла, фарфору і фаянсу, гадзіннікаў, мэблі, слуцкіх паясоў, дываноў, габеленаў; скульптуры і жывапісу, у тым ліку абразоў; старажытнай зброі, у тым ліку паўстанцаў К.Каліноўскага; сцягі сярэднявечных рамесніцкіх цэхаў; багаты нумізматычны і сфрагістычны кабінет, мошчы Ефрасінні Полацкай; карціны І.Айвазоўскага, І.Рэпіна, М.Дабужынскага, Ю.Пэна, С.Юдовіна, І.Левітана, У.Макоўскага, В.Паленава, Б.Кустодзіева, І.Хруцкага, П.Канчалоўскага, а таксама мастакоў-авангардыстаў М.Шагала, К.Малевіча, К.Кандзінскага, Э.Лісіцкага, Р.Фалька, І.Машкова, Н.Альтмана, М.Ларыёнава, П.Кузняцова, М.Когана, І.Пуні, Д.Бурлюка; багатая на старадрукі і рукапісы бібліятэка (30 тыс. тамоў).

У 1941 г. больш каштоўныя экспанаты эвакуіравалі ў Саратаўскі абласны музей краязнаўства, частку з іх вярнулі. Музей аднавіўся ў 1945 г. пад назвай "Віцебскі абласны краязнаўчы музей"[41].

6. Віцебскі антырэлігійны музей, адчынены ў 1940 г.; у склад яго ўвайшлі экспанаты царкоўнага аддзела Віцебскага культурна-гістарычнага музея, фондаў Віцебскага заалагічнага музея і твораў культавага прызначэння, сабраных з зачыненых цэркваў Віцебшчыны. Музей спыніў існаванне ў гады нямецкай акупацыі, трэба шукаць куды трапілі яго экспанаты[42].

7. Гомельскі гістарычны музей (у дакументах, якія былі накіраваны ўрадам БССР Германіі для кампенсацыі страт, нанесеных музеям у час 2-й сусветнай вайны, гэты музей згадваецца ў ліку трох Дзяржаўных музеяў БССР — Гомельскі, Слонімскі і Навагрудскі[43]. Музей быў створаны ў 1919 г. у палацы князя Паскевіча з яго ацалелай

маёмасці, якая засталася пасля вывазу ў 1919 г. у Маскву (Дзяржаўны гістарычны музей) эмісарам Пашуканісам большай часткі каштоўнасцей — каля ста пудоў золата і сярэбраных манет, каштоўных упрыгожанняў, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, жывапісу, у тым ліку абразоў і інш.[44]. Музей меў аддзелы: рэвалюцыйнага руху, краязнаўства, побыту Паскевічаў-Румянцавых, фарфоравай вытворчасці. У 1941 г. частку экспанатаў эвакуіравалі ў г. Урупінск Сталінградскай вобл., частка была разрабавана ў час нямецка-фашысцкай акупацыі. Спіс экспанатаў не вернутых пасля 2-й сусветнай вайны з Валгаградскага абласнога музея гл. у зб. "Вяртанне". Мн., 1992. С. 130-134. Музей адноўлены ў 1946 г. [45]

8. Мінскі абласны музей узнік 20.1.1919 г.[46]. Пазней (калі дакладна невядома) яго перайменавалі ў "Беларускі абласны музей" і так называлі — да 31.08.1923 г. Пасля гэтай даты і да 1941 г. называўся "Беларускі дзяржаўны музей"[47], але ў многіх пасляваенных публікацыях яго згадваюць як "гістарычны музей" (то "Мінскі гістарычны музей"[48], то "Гістарычны музей БССР"[49]). Дакладную назву музея неабходна высветліць наступным даследчыкам. Відаць, што гаворка ідзе аб адным і тым жа музеі, які размясціўся з 1919 г. у апусцелых залах былога Мінскага царкоўна-археалагічнага музея (цяпер Дом мастацтваў), лепшыя экспанаты якога былі вывезены ў І-ю сусветную вайну ў Разань і вярнуліся толькі ў маі 1922 г. Асновай для стварэння Мінскага абласнога музея паслужылі экспанаты Мінскага гарадского музея, які сам створаны пасля 1912 г. на базе экспанатаў Музея таварыства аматараў прыроды, этнаграфіі і археалогіі (заснаваны быў у 1912 г.)[50]. У 1919—1920 гг. значная частка яго экспанатаў была вывезена польскімі інтэрвентамі[51].

9. Мінскі царкоўна-археалагічны музей, створаны ў 1908 г. пры Мінскім царкоўна-археалагічным камітэце. Меў 1363 экспанаты, у тым ліку культавыя, этнаграфічныя, фальклорныя; 1900 тамоў кніг, калекцыю старажытных манет; рукапісныя кнігі: Тыпікон ХУІ ст.; Апостал ХУІ ст., Мінея канца ХУП ст., Сінопсіс ХУШ ст., а таксама архіў Слуцкага Троіцкага манастыра. У пачатку І-й сусветнай вайны экспанаты вывезлі ў Разань. У 1922 г. частку

экспанатаў вярнулі і перадалі іх у Беларускі абласны музей[52].

10. Музей рэвалюцыі БССР, узнік у 1926 г. у Мінску. Меў арыгінальныя дакументы па дзейнасці народнікаў, БУНДа, нацыянальных сацыялістычных арганізацый, камплекты газет Беларусі за 1917—1921 гг. Большасць экспанатаў загінула ў гады нямецкай акупацыі. Музей не аднавіўся[52].

11. Полацкі краязнаўчы музей, быў заснаваны ў 1926 г. і размяшчаўся ў Сафійскім Саборы; меў 3 аддзелы: культурна-гістарычны, грамадска-эканамічны і прырода-геаграфічны. Найбольш каштоўнымі экспанатамі лічыліся слуцкія паясы, грашовыя клады, старажытная зброя, археалагічная калекцыя, 67 жывапісных партрэтаў дзеячоў дамініканскага ордэна, друкарскі станок ХУШ ст., старадрукі і рукапісы (у тым ліку "Запіскі студэнтаў Полацкай езуіцкай калегіі"). Музей быў разрабаваны ў час 2-й сусветнай вайны[54]. Аднавілі яго ў 1948 г., але ўжо ў будынку былой лютэранскай царквы. Страчаныя экспанаты трэба шукаць.

1. Гужалоўскі А. Былі на Беларусі музеі // Літаратура і мастацтва (далей — ЛіМ). 1993. 30 ліп.

2. Там жа.

3. Там жа.

4. Там жа.

5. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі (далей - ЭЛіМБел). Т. 3. С. 679.

6. Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў ХУІ—ХІХ стст. Мн., 1984. С. 87.

7. Першы археолёгічны зьезд. Пратакол зьезду // Наш край. 1926. N 2—3. С. 22.

8. Там жа. С. 23.

9. Архіў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея (далей — ВАКМ). Ф. 10, спр. 1, 2, 3; Ф. 12, спр. 4; Ф. 15, спр. 1, 2.

10. Довгяло Д.И., Никифоровский Н.Р. Описание предметов древности, поступивших в Витебское епархиальное церковно-археологическое древлехранилище по ноябрь 1897 года. В. I. — Витебск, 1897; Записки Северо-Западного отдела Имп. Русского географического общества. Кн. 1. — Виль-

на, 1910. С. 222-224; Архіў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Ф. 7, спр. 1. Кніга запісаў экспанатаў у царкоўна-археалагічны музей Віцебска. 1896—1908 гг.

11. Змигродский К.А. Каталог музея Витебской ученой архивной комиссии. Витебск, 1912.

12. Першы археолёгічны зьезд. С. 23.

13. Архіў ВАКМ. Ф. 11, спр. 3, 4; Ф. 12, спр. 2.

14. Шибеко З. Из истории Витебских археологических "курсов". Неман. 1980. N 6.

15. Архіў ВАКМ. Ф. 8. Іньентарныя вопісы Музея Віцебскага ьышэйшага педагагічнага інстытута. Кнігі 1—2.

16. Вознесенский А.А. Гала-ретроспектива Шагала / Марк Шагал. М., 1987, "Зеленые любовники"; ЭЛіМБел. Т. 1. С. 638, 642, 655.

17. ЭЛіМБел. Т. 1. С. 638.

18. Першы археолёгічны зьезд. С. 22.

19. Фурсов М.В. Описание Могилевского музея. 2 изд. Могилев, 1898.

20. Гужалоўскі А. Былі на Беларусі музеі // ЛіМ. 1993. 30 ліп.

21. ЭЛіМБел. Т. 3. С. 359.

22. Інфармацыю аб пошуках крыжа гл. у артыкуле С.Багдановіча з гэтага зборніка і ў зб. "Вяртанне". Мн., 1992. С. 27—29.

23. Гужалоўскі А. Былі на Беларусі музеі // ЛіМ. 1993. 30 ліп.

24. ЭЛіМБел. Т. 3. С. 396.

25. Гужалоўскі А. Былі на Беларусі музеі // ЛіМ. 1993. 30 ліп.

26. Першы археолёгічны зьезд. С. 22.

27. Гужалоўскі А. Былі на Беларусі музеі // ЛіМ. 1993. 30 ліп.

28. Дзяржаўныя музеі БССР // ЭЛіМБел. Т. 3. С. 679.

29. Кахаnoўскі Г. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XYI—XIX стст. С. 87.

30. ЭЛіМБел. Т. 3. С. 679.

31. Там жа. Т. 4. С. 589.

32. Там жа. Т. 5. С. 71.

33. Першы археолёгічны зьезд. С. 22.

34. Гужалоўскі А. Былі на Беларусі музеі // ЛіМ. 1993. 30 ліп.

35. ЭЛіМБел. Т. 1. С. 248.

36. Мастацтва Савецкай Беларусі. Зб. дакум. і матэр. Мн., 1986. С. 215.

37. Там жа. С. 240.

38. Минск — город герой. Мн., 1976. С. 158, 163.

39. Першы археолёгічны зьезд. С. 23.

40. Там жа.

41. ЭЛіМБел. Т. 1. С. 650; Архіў ВАКМ. Ф. 8.

42. Гужалоўскі А. Былі на Беларусі музеі // ЛіМ. 1993. 30 ліп.

43. "Вяртанне". Зб. Мн., 1992. С. 70.

44. Бакуменко М. По следам сокровищ Беларуси // Рэспубліка. 1993. 26 ліп.

45. ЭЛіМБел. Т. 3. С. 127.

46. Гужалоўскі А. Былі на Беларусі музеі // ЛіМ. 1993. 30 ліп.

47. Минск — город герой. С. 42—43.

48. Так называе яго начальнік упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР Ф.Пестрак (гл. зб. "Вяртанне". Мн., 1992. С. 107).

49. Так называе яго навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументацыі і рэтраінфармацыі М.Бабёр (гл. яе арт. "Зноў пра Нясвіжскія скарбы" // ЛіМ. 1993. 26 сак., якая карысталася архіўнымі матэрыяламі Бюро ЦК КП(б)Б ад 1941 г.

50. Минск — город герой. С. 158, 163.

51. Там жа.

52. Зборнікі "Минская старина". 1909—1913 гг.; даведнік "Рукапісны аддзел старадрукаваных кніг бібліятэкі Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта". 1909. В. І; Записки Северо-Западного отдела имп. Русского географического общества. Кн. 1. Вильна, 1910. С. 231—235.

53. Гужалоўскі А. Былі на Беларусі музеі // ЛіМ. 1993. 30 ліп.

54. ЭЛіМБел. Т. 4. С. 330.

НАДЗЕЯ ВЫСОЦКАЯ

## ГЭТЫЯ ЭКСПАНАТЫ НАЛЕЖАЦЬ БЕЛАРУСАМ

Значны збор беларускіх каштоўнасцей знаходзіўся ў беларускім музеі імя І.Луцкевіча ў Вільні, экспанаты якога пасля 1945 г. былі параскіданы па бібліятэках, галерэях і музеях ЛітССР. У 1954 г. і 1960 г. частка яго экспанатаў паступіла ў Дзяржаўны музей БССР і Дзяржаўны мастацкі музей БССР. У 1978 г. невялікая частка яго экспанатаў (пераважна этнаграфічных — народнае ткацтва і кераміка) былі перададзены музею старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі.

Вельмі важна для гісторыі культуры Беларусі мець дакументаванае падцвярджэнне беларускага паходжання пэўных яго экспанатаў, якія на гэтай аснове можна будзе шукаць у сучасных зборах Вільнюса.

Ніжэй падаем І-ую частку інвентара гэтага музея з захаваннем арфаграфіі арыгінала.

# ІНВЕНТАР БЕЛАРУСКАГА МУЗЭЮ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА. ЧАСТКА 1

(ад N 1 да N 414 упісаў Антон Луцкевіч, N 415—1977 Пятро Сергіевіч, N 1979—4978 Владас Дрэма)

| | N інв. | N кат. | Род | Памеры: вага | Матар'ял | З якога часу | Калі прынята | Ад каго | Як набыта | Апісаньне | Увагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 0030 | 206 Д | N 1 | Разьба: фігура Хрыста (сядзіць, абапершы галаву на руку) | выш. 32,5 см | дзерава полі-хром | XIX ст. | 1918 | Ад старца-жабрака ў Будславе ў 1912 г. Работа селяніна-самаука з ваколіц воз. Мядзёл | Куплена Ів. Луцкевічам | Хрыстос сядзіць, абапершы галаву на руку. Работа вельмі прымітыўная. | 1166135 |
| 0030 | 207 Д | N 2 | Разьба полі-хро-мавая | выш. 24 см | дзерава | пачатак XIX ст. | 1918 | З калекцыі Ів.Луцкевіча | Дар | Хрыстос сядзіць, абапершы галаву на руку. Работа прымітыўная. Галава разшчэплена праз лоб, верхнюю частку носа і правую частку твару. | |
| 0030 | 208 Д | N 3 | Разьба, пакрытая жоўтым лакерам | выш. 22 см | дзерава | канец XIX ст. | 1918 | -"- | -"- | Хрыстос сядзіць, нахіліўшыся наперад і абапершыся на правую руку. Падстава пакрыта рэзанай пляценкай: [illegible] | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0030 | 209 | N 4 | Разьба полі-хромо-ваная | выш. 55 см | дзе-рава | ХУШ ст. | 29.IУ. 30 | Ад вучня Віл. Бе-лар. гім-назіі М.Шчаснага — з в. Ра-бунь Касця-нецкае гм. Вялейск. пав. | Дар | Хрыстос у цярнёвым вянку, рукі зьвя-заны. Стаіць. У чырвонай капоце ў жалобкі ад верху-да нізу. Чамаровым з шнурка. Работа прымiт. У Рабуні ў няiснуючай цяпер старой царкве было 12 гэткіх фігур. | |
| 0031 | 210 Д | N 5 | -"- | выш. 32 см | -"- | XIX ст. | 1918 | З калекцыі Ів.Луцкеві-ча. Пахо-дзіць з Шум-ска пад Вільняй | -"- | Маці Божая ў чыр-вонай сукні, акрыта з галавой сіняй хуст-кай. Стаіць. Рукі сашчэпленыя на твару. Выражэньне болю. | |
| 0031 | 211 Д | N 6 | -"- | выш. 68 см | -"- | | 1918 | -"- | -"- | Фігура МБ. (?) у чыр-вонай туніцы і сіняй спадніцы. На твару вы-выражэньне болю. Трэ-шчына па твару ад пад-бародку ўверх праз пра-вую шчаку. Рук ад лак-цёў не хапае. | |
| 0031 | 212 | N 7 | -"- | выш. 146 см | -"- | ка-нец ХУШ ст. | 1921 | З Дзінагор-скае царквы Дзісьненск. пав. | -"- | Хрыстос стаіць у цяр-нёвым вянку, са зьвя-занымі рукамі, з ланцу-гам на шыі, акутаны чырвоным плашчом. | |
| 0031 | 213 | N 8 | -"- | выш. 149 см | дзе-рава | ка-нец ХУШ ст. | 1921 | З Вярэнян-скае царк-вы Дзісьнен-скага пав. | -"- | Хрыстос у цярнёвым вянку, рукі зьвязаны, у чырвоным плашчу. | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0031 | 214 | N 9 | Разьба-ба-крыж | выш. 40,5 см | дзе-рава | | 1921 | З Галубіч | Дар | Фігура расьпятага Хрыста на крыжу (без папярэчыны). Рук не хапае. Работа вельмі прымітыўная. | |
| 0031 | 215 | N 10 | Разьба полі-хромо-ваная | выш. 103 см | -"- | XIX ст. | 1921 | | -"- | Фігура расьпятага Хрыста, зьнятая з крыжа. Не хапае левае рукі. | |
| 0031 | 216 Д | N 11 | -"- | выш. 56 см | -"- | | 1921 | | -"- | Фігура Хрыста на крыжу. Вельмі прымітыўная работа. | |
| 0031 | 217 Д | N 12 | Разьба част-кова полі-хромо-ваная | выш. 94 см | -"- | | 1921 | | -"- | Твар і рукі былі маляваныя. Фігура быццам малячыся (Мадонна?). Без стоп. | |
| 0032 | 218 Д | N 13 | Разьба | выш. з пад-стаў-кай 67,5 см | -"- | ХУШ ст. | 1918 | З калекцыі Ів.Луцке-віча | -"- | Фігура МБ, маляваная белай алейнай фарбай. Стаіць на зямной кулі. Віленская работа. | |
| 0032 | 219 Д | N 14 | -"- | выш. з падст. 63 см | -"- | ХУШ ст. | 1918 | -"- | -"- | Фігура св. Яна Апост. — плачучы (як пад крыжам). Малявана белай алейнай фарбай. Віленская работа. Праўдападобна складала суцэльнасць з N 218. | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0032 | 220 | N 15 | Разьба | выш. 24 см | дзе-рава | | 1918 | З калекцыі Ів.Луцке-віча | Дар | Фігура расьпятага Хрыста, знятая з крыжа. Не хапае стоп. | |
| 0032 | 221 | N 16 | -"- | выш. 14 см | | 1918 | | -"- | -"- | Маленькая фігурка расьпятага Хрыста. Не хапае рук. | |
| 0032 | 222 | N 17 | Разьба полі-хрома-вая | выш. 35 см | -"- | 1918 | | -"- | -"- | Бюст Хрыста | ЕМ — 5409 |
| 0032 | 223 | N 18 | -"- | выш. з падст. 120 см | | XVIII ст. | 1931 | З царквы ў Нягневічах Наваград-скага пав. Праз экскур-сію вучняў Віл. бел. гімназіі з вуч. Мік. Ільяшэвічам на чале | -"- | Апостал Іаан стаіць. Трымаючы ў левай руцэ разгорнутую кнігу, а правай крыху выцягвае наперад. Тры пальцы правае рукі абламаныя. Ад шыі простападна ўніз ідзе глыбокая трэшчына. Такая ж трэшчына ў паставе, дзе вы раз. галуб. Работа народная. | |
| 0032 | 224 | N 19 | -"- | выш. з падст. 118 см | -"- | XVIII ст. | 1931 | Як N 223 /Нягневічы/ | -"- | Апостал (?) стаіць, у левай спушчанай руцэ трымае зачыненую кнігу, правай прыдзержывае плашч. На падставе — фігура зьвера. Канец носа крыху адбіты. Дробныя трэшчыны. Народ. работа. | |
| 0032 | 225 | N 20 | -"- | выш. 96 | -"- | XVIII ст. | 1931 | Як N 223 /Нягневічы/ | Дар | Апостал (?) стаіць, трымаючы ў левай руцэ | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | см | | | | | | зачыненую кнігу, праvую паднязў да вышыні пляча. Народная работа. | |
| 0033 | 226 | N 21 | Разьба | выш. 95 см | дзе-рава | ХУШ ст. | 1931 | Як N 223 /Нягневічы/ Экспанаты N 223 да 231 былі ў Нягневіцкай царкве, калі яна была ўніяцкая. Пасля пераходу на праваслаўе усе фігуры былі вынесены на гарышча і ляжалі да 1931 г. | Дар | Апостал стаіць, у левай руцэ на вышыні пояса кніга, правая рука спушчана ўніз. Вельмі выдатная народная работа. | |
| 0033 | 227 | N 22 | -"- | выш. 96 см | -"- | ХУШ ст. | 1931 | Як N 223 /Нягневічы/ | -"- | Фігура апостала: стаіць, сагнуўшы правае калена. Правая рука паднята да вышыні грудзей, левая спушчана ўніз. Народная работа.<br><br>Фігура Хрыста (пасьля ўскрасеньня) у чырвоным плашчу. Правае рукі не хапае; ад левае рукі далонь з пальцамі адламана і прыбіта двума жалезнымі гваздамі. Ногі і рукі непрапарцыянальна кароткія. Канец носа абламаны. Грубая на- | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | родная работа — іншага майстра, чым папярэднія нягневіцкія фігуры. | |
| 0033 | 229 | N 24 | Разьба | | дзерава | XУШ ст. | 1931 | З уніяцкай царквы ў в. Нягневічы | Дар | | |
| 0033 | 230 Д | N 25 | -"- | | -"- | -"- | 1931 | -"- | | Тры анёлчыкі (putti) з паабламанымі рукамі. | |
| 0033 | 231 | N 26 | | | -"- | -"- | 1931 | -"- | | | |
| 0033 | 232 Д | N 27 | -"- | | -"- | -"- | 1918 | З калекцыі Ів.Луцкевіча | -"- | | |
| 0033 | 233 Д | N 28 | -"- | | -"- | -"- | 1918 | -"- | -"- | Два анёлчыка (putti), рукі і пальцы ног паабламаныя. Віленская работа. | |
| 0033 | 234 Д | N 29 | -"- | выш. 72 см | -"- | -"- | 1918 | -"- | -"- | Плоская разьба — шата на абраз "Маці Божае з дзіцянём". | |
| 0034 | 235 Д | N 30 | -"- | выш. 169 см | | XУШ ст. | 1918 | -"- | -"- | Фігура сьв. Яна Кантага (стоячы), маляваная белай фарбай. Частка ляўкаса страчана. Віленская работа. | |
| 0034 | 236 Д | N 31 | Рэльефны абраз | 32x 39 з рам- | з хлеба | XIX ст. | 1918 | З калекцыі Ів.Луцкевіча | -"- | Копія МБ. з касьцёлу сьв. Міхала ў Вільні. У драўлянай рамцы. | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | кай | | | | | | Віленская работа. | |
| 0034 | 243 | | Разьба | выш. 55 між рук 49 | | | 1938 | От Бернарда Степовича из д. Барани Сивенц. пов. | Дар | Фигура Христа от распятия, очень вытянутая. Вся выкрашена белой краской, волосы черные, повязка на бедрах синяя. | |
| 0034 | 244 | | Разьба | | | | | | | Христос в Вильни. | |
| 0036 | 256 | N 49 | Разьба | 109x 27,5 | дзерава | | 1918 | З Верхнянскае царквы Дзісьненскага пав. | Дар | Галоўка ангела, крыльле стылізаванае, вельмі віда/вочны?/ сляды паліхроміі. | |
| 0036 | 258 | N 51 | Разьба паліхромавая | выш. 82 см | -"- | | 20.IX. 35 | Ад адв. Савінскага ў Вільні, каторы дастаў яе з ваколіц Будслава на пагранічны Вялейшчыны і Барысаўшчыны | Замена | Фігура нейкага сьвятога ў барэце, лацінскім аблачэньні, стула падобна эпітрахілі (тры пары крыжыкаў). Твар з барадой і доўгімі валасамі. Правая рука сагнута ў локцю — кверху, левай трымае разгорнутую кніжку. | |
| 0036 | 259 Б | N 52 | -"- | выш. 41 см | -"- | | 2.X. 35 | З Дзісьненшчыны | Дар | Бюст награ ў усходнім уборы. Сяляне называлі яго "сьв. Янам" (праўдападобна адзін з трох каралёў, пакланяўшыхся Хрысту). На грудзях і сьпіне — кветкі ў кшталце падвойных шасьціраменных зорак зялёнага | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | колеру. Поліхромваны. | |
| 0038 | 273 | N 66 | Разьба поліхромавая | 19х 19,3 | дзерава | | 4.У. 37 | Ад П.Сергіевіча | Дар | Твар ружавы, валасы сьветлыя. Находзіць з Поразава Ваўкавыскага пав. | |
| 0038 | 275 Д | N 68 | -"- | выш. 58 см шыр. падст. 22,3 см | -"- | | 18.1. 38 | -"- | Дар | Хрыстос пасьля ўскрасеньня. Правая рука ўзьнята дзеля багаслаўленьня, левая дзержыць абломак палкі ад сьцягу. Народ. разьба з Буйвідзяў пад Вільна. | |
| 0039 | 277 | N 70 | -"- | выш. 90 см | -"- | ХУШ ст. | 18.II. 38 | -"- | -"- | Фігура (анёла) да пояса, правая рука ўзьнята ўверх — вышэй галавы, каб нешта падтрымліваць. З Ваўкавыскага пав. | |
| 0039 | 278 | N 71 | -"- | выш. 90 см | -"- | ХУШ ст. | 18.II. 38 | -"- | -"- | Фігура (анёла) да пояса, левая рука ўзьнята ўверх, каб нешта падтрымліваць. З Ваўкавыскага пав. | |
| 0039 | 279 | N 72 | -"- | выш. 93 см ад легл. між канцамі рук | -"- | 1696 | 18.11. 38 | -"- | -"- | Фігура распятага Хрыста (ад крыжа). Не хапае ступнёў. На сьпіне подпіс майстра: "Casimirus Krupowicz 1696". З Ваўкавыскага пав. | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 119 см | | | | | | | |
| 0039 | 280 | N 73 | Разьба поліхромавая | выш. 53 см | дзерава | ХУП ст. | 18.11. 38 | Ад П.Сергіевіча | Дар | Фігура расьпятага Хрыста (ад крыжа). Не хапае рук і ступнёў, немаляваная. Работа падобна да работы N 279. З Ваўкавыскага пав. | |
| 0039 | 281 | N 74 | -"- | выш. 51 см | -"- | | 18.11. 38 | -"- | | Фігура Хрыста (стаячага) пасьля ўскрасеньня. Не хапае ў яе правае рукі, кісьці левае. Падстаўка абламана. З Ваўкавыскага пав. | |
| 0039 | 282 | N 75 | Разьба (сляды поліхр.) | 19,6 х20 | -"- | ХУШ ст. | 18.11. 38 | -"- | -"- | Галава ангела. З Ваўкавыскага пав. | |
| 0039 | 283 | N 76 | -"- | 22,4 х25,6 | -"- | ХУШ ст. | 18.11. 38 | -"- | -"- | Галава ангела на фоне крыльца з левага боку. З Ваўкавыскага пав. | |
| 0039 | 284 | N 77 | -"- | выш. 53 см найвялікшая шыр. 35 см | -"- | ХУШ ст. | 1937 | Ад адваката Савінскага ў Вільні | Замена | Анельчык з ваколіц Будслава. | |
| 0040 | 285 | N 78 | -"- | выш. 88 см | -"- | ХУШ ст. | 18.11. 1938 | Ад П.Сергіевіча | Дар | Анельчык. Левая рука ўзьнята ўверх. Правая | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | см | | | | | | спушчана ўніз. На руках пальцы абламаныя. Пабеленая. З Ваўкавыск. пав. | |
| 0040 | 286 | N 79 | Разьба (сляды поліхр.) | выш. 82 см | дзерава | XIX ст. | 18.11. 38 | | -"- | Хрыстос пасьля ўскрасеньня. Правая рука ўзьнята і паказвае на перад. Левая спушчана ўніз. (Трымала нехапаючы сьцяг). Плашч светла-галубы. З Ваўкавыс. пав. | |
| 0040 | 287 | N 80 | -"- | выш. 67 см | -"- | XIX ст. | 18.11. 38 | | Дар | Ангел стаіць. Не хапае правага крыла, часткі левага і левай рукі. З Ваўкавыск. пав. | |
| 0040 | 288 | N 81 | Разьба | выш. 67 см | -"- | | 18.11. 38 | Ад П.Сергіевіча | -"- | Тое ж, што N 287. Не хапае крыльляў, правае рукі і левае ад пляча да кісьці. З Ваўкавыск. пав. | |
| 0040 | 289 | N 82 | -"- | выш. 65 см | -"- | ХУШ ст. | 18.11. 38 | -"- | -"- | Ангел стаіць на падстаўцы. Не хапае правае рукі ад пераплечча. Пабелены. З Ваўкавыс. пав. | |
| 0040 | 290 | N 83 | -"- | выш. 43 см | -"- | | 18.11. 38 | -"- | -"- | Мужчынская фігура з доўгімі валасамі і барадой, у плашчу, апіраецца правым каленам на калодку і адхінаецца ўзад. Не хапае правае рукі і кісьці левае. Астача пабелкі. З Ваўкавыс. пав. Работа мастацкая. | |
| 0040 | 291 | N 84 | -"- | выш. | -"- | | 18.11. | -"- | -"- | Фігура ўкленчыўшага муж- | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 23 см | | | 38 | | | чыны (апостала) у чырвонай туніцы і карычневым плашчы. З Ваўкавыск. пав. | |
| 0040 | 292 | N 85 | Разьба | выш. 22 см | дзерава | | 18.11. 38 | Ад П.Сергіевіча | Дар | Фігура ўкленчыўшае жанчыны ў карычневай туніцы і галубым плашчы. З Ваўкавыск. пав. | |
| 0041 | 293 | N 86 | -"- | выш. 56 см | -"- | | 21.1. 38 | Ад Я.Шутовіча (знойдзена М.Пецюкевічам) | Дар | Жаночая фігура (стоячы). Рукі паднятыя да вышыні грудзей (не хапае далоняў). Ніз зьнішчаны (не хапае закончанае правае нагі). Сляды поліхраміі. Паясок з бляхі. З в. Варадзеічы, Годзкай гм. Браслаўск. пав. | |
| 0041 | 296 | N 89 | -"- | выш. 30 см | -"- | | 15.УІ. 38 | Ад Кс.Малыніцкага-Малыніча | -"- | Фігура распятага Хрыста, зьнята з крыжа на магільніках ва Уселюбе. (Не хапае ступ). | |
| 0041 | 297 | N 90 | -"- | выш. 24 см | | | 15.УІ. 38 | -"- | -"- | Фігура Хрыста расьпятага (з крыжа на магільніку ў Саколцы). Не хапае рукі, стоп. Дзерава немалявае, блага захаваны. | |
| 0041 | 298 | N 91 | -"- | выш. 31 см | -"- | | 9.ІУ. 38 | Ад Вітальда Загорскага з Вялейкі | -"- | Фігура Хрыста расьпятага (з крыжа на магільніку ў Саньніках). Галава пажованая без рук і ног. Немалявана. | |
| 0041 | 299 | N 92 | -"- | выш. 31 | -"- | | 9.ІУ. 38 | -"- | -"- | Без рук і стоп. Сьляды поліхроміі на павязцы на | |

| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | см | | | | | | бедрах і галаве. | |
| 0041 | 300 | | Разьба по-ліхр. | выш. 59 см | дзе-рава | | 23.IX. 38 | Ад П.Сер-гіевіча | Дар | Фігура расьпятага Хрыста (з крыжа). З Шэрэшэва Пружан. пав. | |
| 0041 | 301 | | -"- | выш. 65 см | -"- | | 23.IX. 38 | -"- | -"- | Фігура расьпятага Хрыста (з крыжа) з Шэрэшэва Пружан. павета. Рукі ўзьняты ўверх вельмі рэзка. Работа прымітыўная. Фігура лішне выдаўжана. | |
| 0048 | 352 | | Разьба | выш. 100 см | -"- | | 1918 | З калекцыі Ів.Луцкевіча | Дар | Фігура жанчыны ў шаломе й панцыры... з шчытом на левай руцэ. Дзерава малявана цёмнай фарбай. Работа мастацк. | |
| 0048 | 353 im 4651 | | -"- | выш. 49 см шыр. 38,5 см | -"- | ХУШ ст. | 1918 | -"- | -"- | Консолька пазалоч. в стылю рококо. | |
| 0048 | 354 im 4652 | | -"- | выш. 38 см шыр. 36 см | -"- | ХУШ ст. | 1918 | -"- | -"- | -"- | |
| 0048 | 355 Д | | -"- | выш. з падст. 55 | -"- | | 17.УII. 39 | Ад П.Сер-гіевіча | -"- | Фігура ўскрослага Хрыста ў чырвоным плашчу, які ззаду разьвяваецца вышэй | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 2. | Qп. 1.2. | Евангелле | XIУ ст. | 196 |
| 3. | F. 1.2. | Кніга Старога Запавету. Спіс | пач. XУП ст. | 296 |
| 4. | F. 1.7 | Псалтыр | XУ ст. | 227 |
| 5. | F. 1.9 | Евангелле | XУ ст. | 231 |
| 6. | F. 1.37 | Евангелле | 1551 г. | 361 |
| 7. | F. 1.53 | Евангелле | XУП ст. | 354 |
| 8. | F. 1.125 | Трыёдзь посная | 1466 г. | 322 |
| 9. | F. 1.110 | Псалтыр следаваны | XУ ст. | 642 |
| 10. | F. 1.738 | Зборнік (тлумач. псалтыр) | XУ—XУI стст. | 437 |
| 11. | Q. 1.91 | Псалтыр следаваны | 1567 г. | 547 |
| 12. | Q. 1.246 | Дзіоптра Філіпава | XУП ст. | 130 |
| 13. | Q. 1.391 | Зборнік | XУ ст. | 99 |
| 14. | Q. 1.1032 | "Звязда прэсветлая" | к. XУП ст. | 151 |
| 15. | Q. 1.1410 | Зборнік | XУ—XУI стст. | 158 |
| 16. | F. IУ.110 | Книга литовская 1613 г. Список | к. XУП ст. | 476 |
| 17. | F. IУ.284 | Радзівілаўскі спіс | XIX ст. | 210 |
| 18. | F. IУ.372 | Литовская и Жмойтская хроника. Список | XУШ ст. | 121 |
| 19. | F. IУ.488 | Бумаги, относящиеся к Польскому восстанию 1861—1863 гг. | XIX ст. | 47 |
| 20. | F. IУ.641 | Беклемишев. Отчет о состоянии Могилевской губернии | 1859 г. | 110 |
| 21. | F. IУ.716 | Елоховский Антон Петрович. Описание Смоленской губ. | XIX ст. | 227 |
| 22. | F. IУ.768 | Атлас Могилевской и Полоцкой губерний | 1777 г. | 62 |
| 23. | F. IУ.895 | О Волыни | XIX ст. | 45 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 24. | Q. IУ.18 | Писцовая книга Полоцкого повета | ХУШ ст. | 334 |
| 25. | Q. IУ.48 | Доклады инженер-генерала Боуэрэ Екатерине П об осмотре белорусских границ. Список | ХУШ ст. | 31 |
| 26. | Q. IУ.70/ 1—4 | Акты Метрики ВКЛ | ХУП ст. | 389<br>314<br>151<br>186 |
| 27. | Q. IУ.74 | О конфедерации войска ВКЛ | ХУП ст. | 62 |
| 28. | Q. IУ.464 | Альхимович Ф. Очерк из жизни крестьян Витебской губернии. Список | 1867 г. | 92 |
| 29. | Q. IУ.475 | Переписная книга Оршанского стану | ХУШ ст. | 138 |
| 30. | Q. IУ.498 | Исторические записки игумена Ореста. Список | с. XIX ст. | 71 |
| 31. | Q. IУ.67 | Доходная книга Смоленской губернии | п. XIX ст. | 23 |
| 32. | Q. УI.23 | Лечебник Литовский | ХУП ст. | 14 |
| 33. | F. XП.63 | Паизиелло. "Русская притворная любовница" (опера) | ХУШ ст. | 252<br>1904<br>39 |
| 34. | Q. ХУШ.15 | Владимиров А. Основание и первые годы Виленской публичной библиотеки | XIX ст. | 72 |
| 35. | F. II.34 | Статут ВКЛ | ХУI ст. | 88 |
| 36. | F. II.60 | Жыгімонт Ш. Даз- | XIX ст. | 16 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | вол на друкаванне Статута ВКЛ | | |
| 37. | F. II.85 | Юрыдычныя акты Радзівілаўскага архіва. Спісы | XIX ст. | 254 |
| 38. | F. II.95 | Статут ВКЛ | ХУШ ст. | 353 |
| 39. | F. II.187 | Статут ВКЛ | ХУШ ст. | 212<br>1883<br>197 |
| 40. | F. II.222 | Литовский Статут и Трибунал | 1733 г. | 432 |
| 41. | F. II.293 | Обзор правил для уездов Режицкого. Люцинского и Дрисенского | XIX ст. | 58 |
| 42. | F. II.311 | "Трыбунальныя кнігі" аб зямельных маёнтках у Вільні | ХУП ст. | 20 |
| 43. | Q. II.51 | Граматы ВКЛ 1529 г. | ХУI ст. | 138 |
| 44. | Q. XVП.220 | Зборнік | ХУП—ХУШ стст. | 186 |
| 45. | Q. ХУП.5 | Зборнік літаратурна-гістарычны | ХУП ст. | 83 |
| 46. | F. ХУП.83 | Зборнік | ХУП ст. | 459 |
| 47. | ОЛДП LXXУШ | Метрыка варшаўскай Успенскай царквы | 1732 г. | 148 |
| 48. | ОЛДП QCXLIV | Зборнік пастаноў па Паўночна-Заходнім краі (аўтар Н.Цылаў) | 1865 г. | 174 |
| 49. | ОЛДП QCLXXXУШ | Слова Яфрэма Сірына | ХУI ст. | 308 |
| 50. | Соф. 1184 | Сымон Будны. Катэхізіс | ХУШ ст. | 306 |
| 51. | Соф. 759 | Služ… Служэбнік (Служ- | ХУI ст. | 78 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | боўнік) | | |
| 52. | Соф. 967 | Службоўнік | 1514 г. | 194 |
| 53. | Кир. Бел. 36/41 | Зборнік | пач. ХУІ ст. | 252 |
| 54. | Пог. 12 | Полацкае Евангелле | ХП—ХШ стст. | 170 |
| 55. | Пог. 78 | Зборнік | ХУ ст. | 76 |
| 56. | Пог. 71-а | Парэнасіс Яфрэма Сірына | 1280 г. | 329 |
| 57. | Пог. 156 | Евангелле | ХУП ст. | 404 |
| 58. | Пог. 322 | Святцы | ХУІ— ХУП стст. | 280 |

Пра мастацкае афармленне гэтых і іншых беларускіх рукапісных кніг гл.: Нікалаеў М. Палата кнігапісная. Рукапісная кніга на Беларусі ў Х—ХУІІІ стагоддзях. Мн. 1993.

ТАЦЦЯНА РОШЧЫНА

## РОЗДУМ ПРА ТОЕ, ЯК КАНКРЭТНА ЗДЗЕЙСНІЦЬ РЭСТЫТУЦЫЮ КАШТОЎНАСЦЕЙ

У апошні час усё часцей і часцей спецыялістамі і грамадскасцю ўзнімаюцца пытанні пра лёс каштоўнасцей, якія былі вывезены ў часы Другой сусветнай вайны. З'явілася мноства публікацый, якія прысвечаны праблемам вяртання гэтых скарбаў іх сапраўдным уладальнікам; збіраюцца прэс-канферэнцыі, нарады, круглыя сталы. І гэта зразумела: змяніўся час, рэспублікі былога Саюза выходзяць на новы, цывілізаваны ўзровень узаемаадносін з іншымі краінамі.

Асноўныя пытанні, якія ставяцца пры гэтым: што вяртаць, каму вяртаць і як кампенсаваць страты, — застаюцца актуальнымі і праз 49 гадоў пасля сканчэння вайны. Гэтыя пытанні цягнуць за сабой мноства іншых, больш канкрэтных пытанняў, у тым ліку і тое, якое, здаецца, засталося

амаль па-за ўвагай беларускай прэсы, але досыць даўно і актыўна абмяркоўваецца ў расійскай. Гэта — праблема так званых "трафейных" каштоўнасцей, у тым ліку і "трафейных" кніжных фондаў.

Увогуле, думкі, якія існуюць наконт вырашэння гэтай праблемы, — самыя розныя, пункты погляду часта супрацьлеглыя: ад думкі: нас так абрабавалі, што аб вяртанні "трафеяў" гаворка наогул немагчымая, — да безумоўнай аддачы "нарабаванага", часам здаецца, нібы Другую сусветную вайну пачалі ... нашы бібліятэкі і музеі, каб атрымаць рэпарацыі.

Магчыма, каб лепш разабрацца ў прычынах і вытоках сітуацыі, якая склалася, трэба ўспомніць некаторыя старонкі гісторыі. Варта згадаць тыя велізарныя страты, якія былі нанесены Беларусі ў апошняй вайне. У часы акупацыі рабунак, канфіскацыя, расцягванне твораў мастацтва, помнікаў культуры дасягнула шалёных памераў. З Беларусі было вывезена мноства каштоўнасцей. Вось факты толькі па Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі /раней — Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У.І.Леніна/. У пачатку 1941 г. яе кніжны фонд дасягаў 2 млн. тамоў. Большая частка фонда бібліятэкі (83%) была разрабавана ці знішчана ў часы акупацыі. Аб'ём знойдзенай, уцалелай часткі па ўдакладненых дадзеных /у адпаведнасці з актам ад 12 сакавіка 1945 г., які быў зафіксаваны супрацоўнікамі бібліятэкі пасля заканчэння працы па ўпарадкаванню і расстаноўцы ацалелых пасля акупацыі кніг/ 321000 асобнікаў. Некаторыя фонды вывозіліся поўнасцю, праводзілася сістэматычная канфіскацыя кніг па спецыяльных спісах. Поўнасцю быў знішчаны даведачны апарат.

Пасля вайны на тэрыторыі Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі былі знойдзены, а затым вернуты ў Беларусь каля 600000 тамоў. На сённяшні дзень засталіся нязнойдзенымі каля 1 млн. тамоў, у тым ліку рукапісы, старадрукі, рэдкія выданні.

Калі ў канцы вайны Савецкая Армія ўступіла на тэрыторыю Германіі, з яе як трафеі сталі вывозіцца розныя рэчы — ад абсталявання заводаў да культурных каштоўнасцей, якія далёка не ў поўнай меры /з матэрыяльнага боку/ кампенсавалі нашы страты. Пытанне

пра тое, што нельга кампенсаваць страту ўласнасці адной нацыянальнай культуры коштам другой, тады не ўзнікала. Вываз лічыўся натуральным і законным. Маральным апраўданнем было тое, што мы заплацілі ў вайне самую вялікую цану. Таму нельга абвінавачваць ў амаральнасці /як гэта цяпер часам робіцца/ тых людзей, якія ў разбураным, галодным і халодным Мінску разбіралі эшалоны з кнігамі, што прыйшлі з Захаду, і былі рады як кнігам, вернутым на Радзіму, так і кнігам, што былі прывезены ў якасці рэпарацыі — каб кампенсаваць страчанае. Гэтыя людзі добра ведалі, хто быў ініцыятарам вайны... Дарэчы, ёсць выразная розніца паміж поглядамі на праблему трафейных фондаў супрацоўнікаў бібліятэк, якія пацярпелі ў часы вайны, і тых, што атрымалі іх нібы "дадаткова" да сваіх захаваных фондаў. Ніводная з разрабаваных бібліятэк не прапануе безагляднага вяртання.

Вядома, што былі тры асноўных патокі паступленняў літаратуры з Германіі ў Савецкі Саюз, — трафейны, рэпарацыйны і дэнацыфікацыйны. З імі ў Саюз паступалі кнігі не толькі з нямецкіх сховішчаў, але і літаратура з іншых краін, якая была канфіскавана немцамі ў заваяванай Еўропе.

Мяркуючы па ўсім, асноўны паток гэтай літаратуры /і па колькасці, і па значнасці/ ішоў у асноўныя культурныя ўстановы Масквы і Ленінграда. Бібліятэкам рэспублік, што асабліва пацярпелі ў часы акупацыі, заставалася літаратура, як кажуць, трэцяга разбору. Далейшы лёс гэтых фондаў у розных бібліятэках Саюза склаўся па-рознаму. Многае было вернута. Напрыклад, у 50-я гады частка рукапісаў і архіваў была вернута ў Германію, Польшчу, Францыю, дарэчы, у адказ мы атрымалі мізэрна мала. Асноўная частка трафейнай літаратуры арганічна ўвайшла ў фонды бібліятэк, і знайсці іх у шматмільённых калекцыях сёння няпроста. Справа ў тым, што, па-першае, далёка не ўсе кнігі былі ўнікальнымі, значная іх частка — гэта выданні XIX—XX стст., якія выходзілі даволі вялікімі тыражамі. Па-другое, нават калі трафеі адлюстраваны ў даведачным апараце, па картцы нельга высветліць, адкуль гэтая кніга, бо звесткі пра так званыя правененцыі /г. зн. экслібрысы, пячаткі, надпісы, аўтографы і г. д./ указваюцца пры апісанні толькі

ў спецыяльных картатэках аддзелаў рэдкіх кніг. Па-трэцяе, вялікая частка кніг наогул не мае ніякіх прыкмет належнасці, і сёння немагчыма ўстанавіць, адкуль яны паступілі — ці з "трафеямі", ці з абменных фондаў бібліятэк Масквы, Ленінграда, іншых гарадоў, з якіх пасля вайны мы атрымалі каля 300 тыс. тамоў у якасці дапамогі, ці наогул кніга паходзіць з мясцовых калекцый. На жаль, не ўсе бібліятэкі лепшым чынам захоўвалі і выкарыстоўвалі гэтыя фонды. Прыклад таму — артыкул Я.Кузьміна "Тайна церкви в Узком" /ЛГ. 1990. 18 верасня/. Частка трафейных фондаў (дублетныя асобнікі) праз абменна-рэзервовыя фонды за пасляваенныя гады змянілі свае адрасы і разышліся па Саюзу.

Доўгі час было забаронена нават упамінаць пра існаванне трафейных фондаў. На ўсе звароты ў вышэйстаячыя ўстановы з пытаннем, што рабіць, адказам было маўчанне. Але змяніліся часы. Прыйшло новае пакаленне. Яно страціла вастрыню ўспамінаў, здольнае больш разумна і цвяроза разгледзець і гэтую, вельмі складаную праблему — праблему ўзаемнага вяртання культурных каштоўнасцей.

Відавочна, што ў першую чаргу трэба распрацоўваць прававую аснову, каб весці перамовы на падставе ўзаемапрымальных дзвюх — ці шматбаковых дамоўленасцей паміж дзяржавамі. На жаль, на сённяшні дзень няма міжнароднага універсальнага дакумента, які рэгуляваў бы вырашэнне пытання рэстытуцыі культурных каштоўнасцей. Таму неабходна спакойна, сур'ёзна і прафесійна, на ўрадавым узроўні і з удзелам спецыялістаў разабрацца з гэтай складанай праблемай. Ёй магла б займацца /у шэрагу іншых пытанняў/ нядаўна створаная Дзяржаўная камісія па вяртанню на чале з Міністрам культуры Беларусі.

Кваліфікаваныя спецыялісты павінны весці руплівую пошукавую працу. Але для таго, каб шукаць, трэба ведаць, што шукаць — а мы сёння не толькі не маем амаль ніякіх звестак, ці ёсць недзе на Захадзе нешта са страчаных намі дакументальных помнікаў, але нават не ведаем дакладна, што мы страцілі. У віхуры вайны зніклі і самі помнікі, і, часам, дакументы, якія маглі падцвердзіць права на ўладанне ці належнасць іх да пэўных установаў. Таму крайне не-

абходна стварэнне і выданне каталогаў, спісаў, вопісаў гістарычных і мастацкіх рухомых каштоўнасцей, якія мы страцілі. Зроблены першы крок у гэтым напрамку — Беларускі фонд культуры выдаў зборнік пад назвай "Вяртанне" /1992 г./, дзе сярод іншых дакументаў упершыню сабраны і апублікаваны разам папярэднія і далёка не поўныя спісы рухомых помнікаў культуры, у тым ліку і дакументальных, якія былі вывезены з Беларусі. Паралельна можна было б складаць спісы таго, што было намі атрымана ў якасці трафеяў і рэпарацый /у тым выпадку, калі гэта сапраўды каштоўныя рэчы, бо наўрад ці трэба весці перамовы пра абмен масавымі выданнямі/. Але "распранацца перад светам", друкаваць іх трэба толькі пры адной умове — пры папярэдняй дамоўленасці аб падобнай акцыі з другога боку. Публікацыя такіх спісаў павінна быць адначасовай. Далейшым шляхам (у кожным асобным выпадку) маглі б быць перамовы і заключэнне пэўных пагадненняў аб узаемавыгадным і раўнацэнным абмене.

І апошняе. Тое, што страціла наша краіна ў часы вайны, нельга кампенсаваць ніякімі культурнымі каштоўнасцямі, створанымі іншымі народамі. Гэта мае аднолькавае дачыненне да кожнай нацыі. Аднак неабходна, каб гэта таксама ў роўнай ступені было ўсвядомлена ўсімі бакамі. Высакароднасць павінна быць узаемнай.

## СТАРАДРУКІ З ФОНДАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ, СТРАЧАНЫЯ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Спіс складзены па падставе некалькіх захаваўшыхся картак з даваенных каталогаў бібліятэкі. Уліковыя дакументы (інвентарныя кнігі, каталогі) на звыш 20000 страчаных старадрукаў не захаваліся.

1. Б 2587. Филалет Христофор. Апокрисис. — /Острог, 1598—1599/.

2. Б 09/221. Статут Великого княжества Литовского. — Вильно, тип. Мамоничей, 1588. (З б-кі А.Сапунова).

3. Б 09/255. Букварь или началное учение хотящим учитися книг писмены славянскими. — Чернигов, 1765.

4. Б 09/390. Biki B. Osobliwe panskie dary abo Raczeej

boskie w osobie godney pamieci... Jerzego, Karola... Hlebowicza... przy akcie pogrzebowym okazane... — Wilno: Typ. Acad., 1670.

5. Б 09/145. Koialowicz A.W. Historiae Litwanae. P. 1. Antverpiae, 1669.

6. Б 09/18. Koialowicz C.W. Modi LX sacral orationis varie formandae... Vilnae: Typ. Acad., 1684.

7. Б 09/134. Korona zlota nad glowa zraniona B.M.Iozaphata Kuncewicza, arcibiskupa Polockiego... — Wilnia, 1673.

СВЯТЛАНА ЖЫНКІНА

# ЗВОДНЫ КАТАЛОГ ВІЛЕНСКІХ БЕЛАРУСКІХ ГАЗЕТ, ВЫДАДЗЕНЫХ У 1917-1940 ГГ. І ВЫЯЎЛЕНЫХ У БІБЛІЯТЭКАХ, АРХІВАХ, МУЗЕЯХ І ПРЫВАТНЫХ КАЛЕКЦЫЯХ Г. МІНСКА[1]

*(Спіс скарачэнняў падаецца ў канцы)*

1. "Асва".

1934 г. N 1. НББ

Не выяўлены N 2—4.

---

[1] Нумары газет, якія адсутнічаюць у сховішчах Мінска, вызначаліся па машынапісным рукапісе Владаса Абрамавічуса "Бібліяграфія беларускіх перыядычных выданняў. 1861—1944 гг.". (Вільнюс. 1949), які знаходзіцца ў бібліятэцы Акадэміі навук Рэспублікі Літва. Заўважаныя ў яго тэксце недакладнасці ўказаны ў тэксце нашага каталога.

Інфармацыя аб канфіскаваных нумарах прыводзіцца ў тым выпадку, калі на гэты факт ёсць спасылка ў наступным нумары газеты; у некаторых выпадках звесткі аб канфіскацыі падаюцца згодна з інфармацыяй В.Абрамавічуса. Калі ж канфіскаваны (паводле вышэй прыведзеных крыніц) нумар газеты выяўлены намі ў падшыўцы, то інфармацыя пра канфіскацыю не прыводзіцца.

Дадзеная работа праводзілася з мэтай стварэння агульнага фонду мікраформ беларускай перыёдыкі. У працэсе работы складзена картатэка, дзе пазначана дата выхаду кожнага нумару. У сувязі з гэтым мы звяртаемся з просьбай да прыватных асоб, супрацоўнікаў музеяў, архіваў і бібліятэк іншых гарадоў Беларусі, якія, магчыма, маюць у сваіх калекцыях нумары газет, не выяўленыя ў дзяржаўных сховішчах Мінска, паведаміць аб гэтым у Скарынаўскі цэнтр або Нацыянальную бібліятэку РБ.

2. "Bielaruskaje zyccio".
1919 г. N 1—5, 7—22. НББ
N 4—8, 11. НАРБ
N 3—9, 19, 15—22. БДАМЛіМ
Поўны збор.
У 1920 г. газета выходзіла ў Мінску.
N 1—5, 7. НББ
N 1, 2, 4, 5, 7 НАРБ
N 7. БАН
Не выяўлены N 6.
3. "Беларускае слова".
1926 г. N 3, 15. НАРБ
N 16, 21. УБРБ
Не выяўлены N 1—2, 4—14, 17—20, 22—25.
1927 г. N 2—11, 13—18, 24, 25, 27—33, 35—37, 39. УБРБ
Не выяўлены N 1, 12, 19—23, 26, 34, 38.
У В. Абрамавічуса пазначана толькі 26 нумароў.
1928 г. N 1. УБРБ
У В. Абрамавічуса не значыцца.
4. "Беларуская газета".
1929 г. N 1, 2. НАРБ
Не выяўлены N 3.
1933 г. N 4, 8, 10, 13. БАН
N 1—4, 8, 10, 13, 14. НАРБ
N 8. НББ
Не выяўлены N 5, 6, 7, 11, 12.
1934 г. N 1 (15), 2 (16). БАН
У В.Абрамавічуса не значыцца.
5. "Беларуская доля". Аднаднёўка.
1923 г. 23.5. НББ
6. "Беларуская доля".
1925 г. N 1—8, 10—26, 28—35. БАН, НББ
N 1—8, 10—26, 28—34. НМГіКБ
N 1—8, 12—13, 15—33. БДА
N 1—8, 10—26. ЛМ Я.Купалы
N 2, 14, 15, 19-21. УБРБ
N 9, 27, 36 — канфіскаваны.
7. "Беларуская доля". Аднаднеўка.
1937 г. Сакавік. БАН, НМГіКБ.

8. ”Беларуская думка”.

1919 г. N 1—32, 34—39, 41—46, 48—56. БДА
N 1—18, 21, 23—34, 36, 39, 42, 47, 45—56. БАН
N 2—5, 7, 8, 10, 12—17, 21, 23, 25, 28, 30, 39, 41—43, 45, 45—55. НМГіКБ, ЛМ Я. Купалы.
N 47 НББ
Не выяўлены N 40.

9. ”Беларуская крыніца”.

1925 г. N 1—13. НББ, НМГіКБ
N 1. БАН
Поўны збор.

1926 г. N 1—46. НББ, БАН
Поўны збор.

1927 г. N 1—52. НББ, БАН, ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.

1928 г. N 1—8, 10—14, 16—31, 33—49, 52—55, 57—59. НББ, БАН, ЛМ Я.Купалы
N 9, 32. НАРБ
N 15, 50, 51, 56 — канфіскаваны.

1929 г. N 1—38. НББ, НМГіКБ, НАРБ
Поўны збор.

1930 г. N 1—33. НМГіКБ
N 1—4, 7, 9, 13, 15, 16, 18—22, 25, 27—33. НАРБ
Поўны збор.

1931 г. N 1—43. НББ, БАН

1932 г. N 2—6, 8, 9, 11—17, 19, 24, 29, 30, 32—34, 36—39. НАРБ
N 29—30, 32—33, 35—40, 42—45. БДАМЛіМ
Не выяўлены N 1, 3, 7, 10, 18, 20, 23, 25—28, 31, 41.

1933 г. N 1—11, 13—14, 16—18, 20, 29, 35, 36, 38. НАРБ
N 1, 3, 5, 6, 8, 12—15. ДМГБЛ
N 2 — канфіскаваны.
Не выяўлены N 19, 21—28, 30—34, 37, 39—46.

1934 г. N 2—6, 8—14, 16—27, 29—48. БАН
N 2—6, 8—14, 16-27, 29—37, 39—43,

45—48. НББ, ЛМ Я.Купалы
Не выяўлены N 1.
N 7, 15, 28 — канфіскаваны.
1935 г. N 1—48. БАН, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы
N 1—3, 5—8, 10—33, 35—39, 41—48. НББ
Поўны збор.
1936 г. N 1—2, 4, 6—13, 15—17, 19, 20, 22, 24, 25, 27, 28, 30—32; 34—47, 49—52. БАН, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы
N 2, 4, 6—10, 12, 13, 15—17, 19, 20, 22, 24, 27, 28, 30, 31, 34—46, 49, 51, 52. НББ
N 3, 5, 14, 18, 21, 23, 26, 29, 33, 48 — канфіскаваны.

10. "Беларуская ніва".
1925 г. N 1—13. НББ
N 3—11, 13. НМГіКБ
N 1—11, 13. ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.
1926 г. N 1—22. НББ, НМГіКБ
N 1, 2, 6—9. УББ
N 1—14, 16—20, 22. ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.

11. "Беларуская праўда". Аднаднеўка.
1931 г. 12.05. БАН

12. "Беларуская справа".
1926 г. N 1, 2, 4—12, 14, 15, 17, 18—29. НББ
N 1—6, 8—10, 12—20, 22—29. НАРБ
N 1, 2, 9, 10, 13, 15—18, 20, 27—29. УБРБ
N 7, 11, 21 — канфіскаваны.
N 26 адсутнічае, але, мяркуючы па інтэрвалу паміж N 25 і 27 тут верагодна памылка друку.

13. "Беларускі голас". Аднаднеўка.
1921 г. 11.12. БАН

14. "Беларускі гоман". Аднаднеўка.
1923 г. 20.02. НББ, БАН.

15. "Беларускі звон".
1921 г. N 1—22, 24, 25. БАН
N 2—8, 10, 19. НББ
N 4—7, 11—18, 20—22, 24—25. БДАМЛіМ

Не выяўлены N 23.
1922 г. N 1—34. БАН, ЛМ Я.Купалы
N 1, 2, 4, 5, 9—11, 14—34. НМГіКБ
N 1—7, 9—11, 13—34. НББ
N 32. УБРБ
Поўны збор.
1923 г. N 1. НББ, БАН, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы.
Згодна В.Абрамавічуса выйшаў толькі 1 нумар.
16. "Беларускі звон".
1931 г. N 1—5, 7, 8, 13—15, 18, 19, 21, 24. ДМГБЛ
N 3—5, 7—11, 13, 20, 23, 25. БАН
N 5, 6, 9, 10, 12, 14, 15, 19, 21. НАРБ
N 3, 21. НББ
Не выяўлены N 16, 17.
1932 г. N 1—33. НББ
N 1, 3, 5—11, 14—18, 21—23. ДМГБЛ
N 7—22, 24—33. ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.
17. "Беларускі кліч".
1930 г. N 1—4. НМГіКБ
N 1. БАН
Поўны збор.
18. "Беларускі селянін". Аднаднёўка.
1925 г. 14.08. НББ, БАН, ЛМ Я.Купалы
19. "Беларускі фронт".
1936 г. N 4—7. БДА
N 3 — канфіскаваны.
Не выяўлены N 1, 2, 8, 9.
1937 г. N 1, 2, 4, 5. БДА
Не выяўлены N 3, 6—13.
1938 г. N 2, 4, 5, 6. БДА
N 3 — АМВ.
Не выяўлены N 2—16.
1939 г. N 1. БДА
Не выяўлены N 2—16.
20. "Беларускія ведамасьці".
1921 г. N 2—8, 10—15. НББ
N 1, 2, 9, 16. БДА
N 1—16. БАН
Поўны збор.

1922 г. N 1. БАН, НББ.
Не выяўлены N 2, 3.

21. "Беларусь працы".
1934 г. N 2. БАН
N 1 — канфіскаваны.
Не выяўлены N 3—5.

22. "Братэрства". Аднаднёўка.
1939 г. 31.10. БАН

23. "Бюлетэнь таварыства беларускае школы". Аднаднёўка.
1932 г. 28.09. БАН.

24. "Бюлетэнь беларускага пасольскага клюбу".
1925 г. 26.05, 28.05, 1.07, 11.07. БАН, НББ, НМГіКБ.

25. "Бюлетэнь Соймавага клюбу "Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада".
1925 г. N 3. НАРБ
Не выяўлены N 1, 4.
N 2 — канфіскаваны.
1926 г. N 10. НББ. N 11. НАРБ
Згодна В.Абрамавічуса ў 1926 г. выйшлі нумары 5—16.

26. "Вольны сьцяг".
1923 г. N 1—20. БАН, НМГіКБ
N 1—19. НББ, НАРБ
Поўны збор.

27. "Воля народу".
1923 г. N 1—2. НББ, БДА, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.

28. "Воля працы".
1928 г. N 3—6. БАН. N 3, 6. НАРБ
Не выяўлены N 1—2.

29. "Выясьненьні". Аднаднёўка.
1935 г. 3.07. НББ, БАН

30. "Вялікодны звон". Аднаднёўка.
1927 г. 14.03. НАРБ

31. "Голас беларуса".
N 1—20. НМГіКБ
N 1—10, 2—18, 20. НББ
N 1—14, 16—18, 20. ЛМ Я.Купалы
N 1—15. АМВ

Не выяўлены N 21.

32. "Голас працы".

1928 г. N 1, 3—6, 9, 10, 12, 13. НАРБ

N 1, 3—7, 9, 10, 12. БАН

Не выяўлены N 2, 8, 11, 14.

33. "Голас праўды". Аднаднеўка.

1921 г. 27.12. НББ, БАН.

34. "Голас студэнта". Аднаднеўка.

1937 г. 25.06. БАН

35. "Homan".

1916 г. N 1—3, 5—17, 19—25, 31, 32, 34, 35, 37—42, 45, 48, 51—57, 59, 61—68, 72—74, 76, 78, 79, 86—92 — знаходзяцца ў прыватнай бібліятэцы Уладзіміра Сакалоўскага.

Не выяўлены N 4, 18, 26—30, 33, 36, 43—44, 58, 69—71, 75, 77

1917 г. N 3, 5, 6, 12, 14, 16, 20, 32, 39, 40, 42, 45, 46, 48—50, 52; 54, 56, 73, 74, 78. БАН

N 5, 9, 12, 28, 33, 36, 39, 40, 42. ЛМ М.Багдановіча ў Мінску

N 4. Бібліятэка Ул.Сакалоўскага

N 32. НББ

Не выяўлены N 2, 7, 8, 10, 11, 13, 17—19, 21—27, 29—31, 34, 35, 37, 38, 41, 43—44, 47, 51, 53, 55, 57—72, 75—77, 79—104

1918 г. N 10, 14, 24, 28, 29, 32, 33, 61, 63—65, 69, 71, 72, 80, 82, 83, 85, 88, 89. БАН

N 64,83, 88. НББ

Не выяўлены N 1—9, 11—13, 15—23, 25, 27, 30, 31, 34—60, 62, 66—68, 70, 73—79, 81, 84, 86, 87, 90.

36. "Грамадзкі голас".

1925 г. N 14, 27—33. БДА

N 23. УБРБ

Не выяўлены N 1—13, 15—22, 24—26, 34—?

У В.Абрамавічуса згадваюцца толькі 14 нумароў. Намі выяўлены 33 нумары. Невядома, ці быў працяг выдання.

37. "Грамадзянін".

1919 г. N 1—21. Арыгіналы газет знаходзяцца ў Гродзенскім абласным архіве. Для Нацыяналь-

най бібліятэкі Беларусі зроблены мікраформы.
N 2, 6, 8. БАН
Поўны збор.

38. "Грамадзянін".
1928 г. N 2—5, 7, 8, 10—13, 21, 22, 24. НАРБ
Не выяўлены N 1, 6, 9, 14—20, 23.

39. "Да працы".
1928 г. N 2. НАРБ
Не выяўлены N 1.

40. "Доля працы".
1928 г. N 3, 5, 9. БАН
N 3, 9. НАРБ
Не выяўлены N 1, 2, 4, 6—8.

41. "Думка Беларуса". Аднаднёўка.
1925 г., 22.07. БАН, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы

42. "Думка працы".
1928 г. N 1—4. НАРБ
N 5—8. БАН
N 1-4, 9. УБРБ
Поўны збор.

43. "Жыцьце беларуса".
1925 г. N 1, 3—20. БАН, НББ
N 1, 2, 8, 9, 10. НАРБ
N 1, 3—6, 8—13, 16—18. БДА
N 3—6, 8—13, 16—18, 20. НМГіКБ
N 1, 3—6, 8—13, 16—20. ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.

44. "Жыцьцё вёскі". Аднаднёўка.
1925 г. 15.07. НББ, НМ, ЛМ Я.Купалы, НАРБ

45. "З беларускага палетку". Аднаднёўка.
1937 г. Травень. БАН.

46. "За беларускую школу". Аднаднёўка.
1936 г. 16.06. НББ, БАН.

47. "За праўду". Аднаднёўка.
1926 г. 18.03. НББ, БАН.

48. "За працу".
1928 г. N 6, 8. УБРБ
N 2. НАРБ
Не выяўлены N 1, 3—5, 7.
У В.Абрамавічуса пазначаны толькі N 1—3.

49. "Загон". Аднаднёўка.
1925 г. 7.06. НББ, БАН, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы.
50. "Зара працы".
1928 г. N 2, 3, 5—7, 9. БАН
N 2, 5, 6, 7. НББ
N 6, 7, 9. УБРБ
Не выяўлены N 1, 4, 8.
51. "Зарава". Аднаднёўка.
1925 г. 19.01. НББ, БАН, НМГіКБ
52. "Зарніца". Аднаднёўка.
1925 г. 9.01. НББ, БАН, НМГіКБ.
53. "Змаганьне".
1923 г. N 1—21. НББ, БАН, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.
1924 г. N 1—10. НББ, БАН, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.
54. "Зорка беларуса". Аднаднёўка.
1925 г. 25.07. НББ, БАН.
55. "Інфармацыйны бюлетэнь таварыства беларускай школы". Аднаднёўка.
1932 г. 6.07. БАН.
56. "Іскра".
1925 г. N 1—7. НББ, БАН
N 1, 4—6. БДА
N 1, 2, 4—7. УБРБ
N 1, 4—7. ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.
57. "Іскра". Аднаднёўка.
1925 г. 31.05. БАН, БДА, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы.
58. "Каляда". Аднаднёўка.
1924 г. НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы.
59. "Калядны звон". Аднаднёўка.
1926 г. 28.12. БАН.
60. "Красавік". Аднаднёўка.
1928 г. 5.04. БАН, ЛМ Я.Купалы, НАРБ
61. "Крык праўды". Аднаднёўка.
1923 г. 20.03. НББ, ЛМ Я.Купалы
62. "Крыніца". Выходзіла ў Петраградзе ў 1917 г., у Мінску — у 1918 г., у Вільні з 1919 па 1940 г. У 1925 г. памяняла назву на "Беларуская крыніца".

1917 г. N 1—6. БАН

Поўны збор.

1918 г. N 1—3. БАН

1919 г. N 1—12. БАН

Поўны збор.

1919 г. N 1—16. БАН

Поўны збор.

1920 г. N 1—16. БАН

Поўны збор.

У В.Абрамавічуса — недакладнасць, пазначаны толькі 15 нумароў.

1921 г. N 1—32. НАРБ

N 2, 6, 9, 11—12, 14, 15, 19, 20, 22, 23, 27, 29. БАН

N 21. БДАМЛіМ

Поўны збор.

1922 г. N 1—11. БАН

Поўны збор.

1923 г. N 1—4, 6—16. НББ, БАН, ЛМ Я.Купалы

N 1—4, 6, 8—16. НАРБ

N 2. ДМГБЛ

N 5 — канфіскаваны (згодна інфармацыі В.Абрамавічуса).

1924 г. N 1—32, 34—38. НББ, БАН

N 33 — канфіскаваны.

1925 г. N 1—35. НББ, БАН

Поўны збор.

У В.Абрамавічуса — недакладнасць, пазначаны толькі 34 нумары.

1939 г. N 1—12. НББ, БАН

Поўны збор.

1940 г. N 2—6, 8, 11, 12, 14, 16, 18, 19, 21, 23, 24, 25, 27, 30, 31, 33, 35, 36, 38, 40, 43, 44, 46—40, 53, 54. БАН

N 18, 26, 32—34, 36, 39, 44—48, 53, 54. НББ

Не выяўлены N 1, 7, 9, 10, 13, 15, 17, 20, 22, 26, 28, 29, 32, 34, 37, 39, 41, 42, 45, 51, 52, 55.

63. "Мамент". Аднаднёўка.

1924 г. 21.09. БДА, БАН.

64. ”На варце”. Выходзіла ў Варшаве. Знойдзены толькі тры яе нумары.

1930 г. N 1—3. НАРБ

У В.Абрамавічуса не згадваецца.

65. ”На прадвесьні”. Аднаднёўка.

1926 г. 25.03. НББ, БАН

66. ”Наперад”.

1929 г. N 1—4. НАРБ
N 2, 4. ДМГБЛ
Поўны збор.

1930 г. N 1—4, 6—9, 13—22, 25—27. НАРБ
N 2, 3, 6, 9—26. ДМГБЛ
N 7. БДАМЛіМ

У В.Абрамавічуса не пазначана.

67. ”Народ”. Аднаднёўка.

1927 г. 14.06. НАРБ

68. ”Народ”.

1928 г. N 19. ДМГБЛ
Не выяўлены N 1—18, 20.

1929 г. N 3. ДМГБЛ
Не выяўлены N 1—2, 4—5.

69. ”Народная справа”.

1926 г. N 1—6, 8—11, 13—17, 20—27, 29, 31, 32, 35—38. НББ
N 1—4; 6—11, 13—17, 20—27, 29, 33, 35—38. НМГіКБ
N 1, 3, 4, 6, 8—18, 20—24, 26—29, 33, 34, 36—38. НАРБ
N 1—11, 13—17, 20—27, 29—33, 35—38. БАН
N 35—38. УБРБ

Згодна В.Абрамавічуса N 19 канфіскаваны.

70. ”Народны звон”.

1926 г. N 1. НАРБ
Не выяўлены N 2, 3.

1927 г. N 1. НАРБ

71. ”Народны звон”.

1930 г. N 1, 2, 3, 5, 6. ДМГБЛ
N 1, 3—5. НАРБ
N 5. БАН
Не выяўлены N 7.

72. ”Наш бюлетэнь”. Аднаднёўка.
1932 г. 28.09. БАН
73. ”Наш бюлетэнь”. Аднаднёўка.
1932 г. 30.11. БАН, НББ
74. ”Наш водклік”. Аднаднёўка.
1927 г. 16.03. НАРБ.
75. ”Наш голас”.
1927 г. N 3, 5, 6, 7, 9, 11. БАН, НАРБ
N 1, 2, 8, 10 — канфіскаваны
У В.Абрамавічуса пазначана 10 нумароў.
76. ”Наш кліч”. Аднаднёўка.
1926 г. 1.04. НББ, БАН, НАРБ.
77. ”Наш сьцяг”.
1923 г. N 1—24. НББ, БАН, НАРБ, ЛМ Я.Купалы
N 1—6, 8—21, 23. НМГіКБ
N 1—6. ДАМВ
Поўны збор.
78. ”Наша будучына”.
1922 г. N 1—3. НББ, БАН, ЛМ Я.Купалы
Не выяўлены N 4, 5
1923 г. N 1—6. НББ, БАН
N 2—5. ДАМВ
Не выяўлены N 7—10.
79. ”Наша воля”.
1927 г. N 2—4. БАН
N 2—3. НББ
Не выяўлыены N 1.
80. ”Наша воля”.
1935 г. N 1. БАН, выйшаў толькі 1 нумар
У В.Абрамавічуса не значыцца.
1936 г. N 1—8, 10, 12. БАН
N 9. ЛМ М.Багдановіча
N 3, 4. НАРБ
Не выяўлены N 11
У В.Абрамавічуса не значыцца.
81. ”Наша газета”.
1929 г. N 1. НАРБ
У В.Абрамавічуса адзначаны толькі 1 нумар.
82. ”Наша думка”.
1920 г. N 1. НМГіКБ, выйшаў толькі 1 нумар

1921 г. N 1—27. НМГіКБ
N 1—11, 15, 17, 19, 20, 22—24, 27. ЛМ Я.Купалы
N 9—12, 22. БДА.
N 2, 3, 6, 7, 21. УБРБ
Поўны збор.

83. "Наша ніва".
1920 г. N 1—8. НАРБ
N 1—9. БАН
Поўны збор.

84. "Наша праўда".
1927 г. N 1—2, 4—11, 13—21, 23—45, 47—50. НАРБ
N 1—2, 4—5, 7—15, 17—45, 47—50. БАН
N 24. ДМГБЛ
N 3, 12, 46 — канфіскаваны.

85. "Наша праца".
1927 г. N 1—2, 4, 6—9. НАРБ, БАН
N 7—9. УБРБ
N 3, 5 — канфіскаваны.

86. "Наша справа".
1926 г. N 1—3, 5—9. НББ, БАН
N 5, 8, 9. НАРБ
N 2, 3, 5—7. УБРБ
N 4 — канфіскаваны
1927 г. N 1—4, 6, 7. НББ, БАН, НМГіКБ
N 1—3, 5—7. НАРБ
Поўны збор.

87. "Наше жыцьце".
1923 г. N 2—6. НББ, БАН
N 2—5. БДА
Поўны збор.

88. "Нашае змаганьне". Аднаднёўка.
1924 г. 3.02. НББ, БАН, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы.

89. "Нашае новае жыцьцё". Аднаднёўка.
1923 г. 6.07. БАН, НББ, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы.

90. "Незалежная думка".
1920 г. N 1—6. НББ
Поўны збор.

91. "Навагоднік". Аднаднёўка.
1924 г. 31.12. НББ, НМГіКБ.

92. ”Новае жыцьцё”.
1923 г. N 1—13. НББ, БАН
N 1, 2, 6, 7, 9, 11, 12. ЛМ Я.Купалы
Поўны збор.
93. ”Новы шлях”. Аднаднёўка.
1925 г. 4.01. НББ, БАН, НМГіКБ.
94. ”Падняты сьцяг”. Аднаднёўка.
1923 г. 16.08. НББ, БДА, ЛМ Я.Купалы.
95. ”Права працы”.
1927 г. N 1, 3, 5, 6. БАН
N 1. НАРБ
Не выяўлены N 2, 4.
96. ”Праўда”. Аднаднёўка.
1924 г. 18.12. НББ, БАН, ЛМ Я.Купалы.
97. ”Праца”.
1927 г. N 2—6. БАН.
98. ”Раніца”.
1922 г. N 1, 5—11, 13—19, 21—30, 32. НМГіКБ.
Не выяўлены N 1—8 за 1921 г. і N 2—4, 12, 20, 31 за 1922 г.
У В.Абрамавічуса значыцца толькі 28 нумароў.
99. ”Родны край”.
1933 г. N 2—25. БАН
Не выяўлены N 1.
1934 г. N 3—5, 7, 8, 13, 14. БАН
N 3, 14. НББ
Не выяўлены N 1, 2, 6, 9, 12, 15—27.
1935 г. N 1, 2, 17. БАН
N 3. НББ
Не выяўлены N 4—16, 18—36.
1936 г. N 1—5, 9, 12—14, 16, 17.
Не выяўлены N 4—8, 10—11, 15.
100. ”Рэха”. Аднаднёўка.
1925 г. 8.07. НББ, БАН, НМГіКБ.
101. ”Рэха працы”.
1928 г. N 3, 4, 9. БАН
N 8 — канфіскаваны
Не выяўлены N 1, 2, 5—7.
102. ”Селянін”. Аднаднёўка.
1925 г. 8.08. НББ, НМГіКБ, ЛМ Я.Купалы.

103. ”Сіла працы”.
1928 г. N 2, 4, 5. БАН, НАРБ
Не выяўлены N 1, 3.
104. ”Слова працы”.
1928 г. N 2—7. БАН
N 6 і 7 — пашкоджаныя.
105. ”Сын беларуса”.
1924 г. N 1—13, 16—42. БАН, НМГіКБ
N 1—13, 16—27, 29—39, 41, 42. НББ, ЛМ Я.Купалы
N 14, 15 — канфіскаваны (паводле В.Абрамавічуса).
106. ”Сьцяг”. Аднаднёўка.
1923 г. 19.08. НББ, БАН, НАРБ, ЛМ Я.Купалы.
107. ”Сялянская ніва”.
1925 г. N 1—3. БАН
Поўны збор.
1926 г. N 1—48. БАН
N 3, 13, 20, 23, 26, 30, 33, 34, 36, 38—46, 48. НАРБ
Не выяўлены N 49.
1927 г. N 1—6, 9—13, 15—18, 20—26, 28—70, 72—80, 82—91, 93, 94, 96. НББ
N 1—6, 9—18, 20—26, 28—91, 93—94, 96. БАН
N 1—6, 9—18, 20—26, 28—30, 32, 34—91, 93—94, 96. НАРБ
N 7, 8, 19, 27, 92, 95 — канфіскаваны.
1928 г. N 30, 36, 38. БАН
Не выяўлены N 1—29, 31—35, 37, 39—50.
1929 г. N 1, 2. БАН, НББ
Не выяўлены N 3—52.
106. ”Сялянская праўда”.
1924 г. N 1—10, 12—20, 21—33. НМГіКБ
N 1—10, 12—20, 22—31, 33, 34. НББ
N 1—10, 12—20, 22—34. БАН
N 2—4. УБРБ
Не выяўлены N 11.

## Спіс сховішчаў, у якіх праводзіўся пошук газет, і ўжытая абравіятура іх скарачэнняў

| | |
|---|---|
| НББ — | Нацыянальная бібліятэка Беларусі |
| БАН — | Фундаментальная бібліятэка імя Я.Коласа АН Беларусі |
| УБРБ — | Урадавая бібліятэка Рэспублікі Беларусь |
| НАРБ — | Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь |
| БДА — | Беларускі дзяржаўны архіў |
| БДАМЛіМ — | Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва |
| ДАМВ — | Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці |
| НМГіКБ — | Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі |
| ЛМ — Я.Купалы | Літаратурны музей Я.Купалы ў Мінску |
| ДМГБЛ — | Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры |
| ЛМ — М.Багдановіча | Літаратурны музей М.Багдановіча ў Мінску |

У літаратурным музеі Я.Коласа ў Мінску газет гэтага перыяду не знойдзена.

# ІУ. З ДРУКАВАНЫХ КРЫНІЦ

ТОДАР ВАШУК

## КРЫЖ СЬВЯТОЕ АФРАСІНІ

*Дакументы і факты*

У годзе 1973-м прыпадалі 800-я ўгодкі сьмерці сьвятое Афрасіні-Прадславы, полацкае князёўны. У сувязі з гэтым у друку Беларускае ССР зьявілася колькі пра яе артыкулаў. Спаміналася ў іх і тая, бясцэннае каштоўнасьці, гістарычна-рэлігійна-мастацкая памятка, якую полацкая князёўна адказала патомнасьці: на яе заказ выкананы ў 1161 годзе полацкім залатаром-мастаком Лазарам Богшам "напрастольны" крыж.

Пры нагодзе ўгодкаў пісалі ў БССР і аб тым, што гэтая выдатная нацыянальна-рэлігійная рэліквія беларускага народу ў часе апошняе вайны загінула. Калі цяперашняе месцазнаходжаньне крыжа тымчасам ня ведамае, ёсьць магчымасьць кінуць сяньня канкрэтнае, на актавых матарыялах абапертае, сьвятло на лёс крыжа ў гадох міжваенных.

Тут друкуецца ў фатарэпрадукцыі, з адначасным перадрукам тэкстаў, дакументы пра крыж сьвятое Афрасіні з канца 1920-х гадоў. Фатаграфіі іх для публікацыі ласкава пераказаў сп. Антон Шукялойць. Дакументы важныя тым, што зь іх даведваемся й пра лёс крыжа гэным часам, і пра стан у якім ён быў у гадох 1928—1929, ці бо часе, калі партыйныя ўлады крыж забралі з царквы Спаса-Афрасіневага манастыра ў Полацку.

### I

Як паказваюць вопісы ды рэпрадукцыі XIX стагодзьдзя, крыж сьвятое Афрасіні, гэта крыж шасьціканцовы "напрастольны". Вышыня яго 51 цм, даўжыня верхняе пярэчкі 14 цм, ніжняе — 21 цм, таўшчыня — 2,5 цм. Аснова крыжа зробленая з дрэва, якое ў другім друкаваным тут дакумэньце названае "дубовым", хоць вопісы крыжа XIX

стагодзьдзя азначаюць гэтае дрэва як ”кіпарысавае”, што больш праўдападобна, бо асабліва важныя прадметы рэлігійнага культу ў часы князёўны Афрасіні выраблялiся часта зь кіпарысавага якраз дрэва.

Дрэва крыжа зь пераду, ды на адвароце, акаванае залатымі пласткамі, па бакох-жа — пазалочанымі пласткамі сярэбранымі. Брыжы пярэдняга боку абведзеныя шнурам жэмчугу (пэрлаў), а залатыя пласткі абкладзеныя дарагімі каменямі. На верхнім перакрыжжы пярэдняга боку прымацаваны крыж малы чатыраканцовы, на ніжнім — малы шасьціканцовы.

На пярэднім баку крыжа, й на яго адвароце, разьмешчана 20 іконак сьвятых, якія выкананыя перагародкавай, аздобленай арнамэнтамі, эмаляй. У пяці квадратных гнёздах на адвароце крыжа памешчаныя рэліквіі: кроў Хрыста, кусочак дрэва з Хрыстовага крыжа, драбочкі каменя з гробу Багародзіцы ды гробу Хрыста, мошчы сьвятога Сьцяпана, кроў сьвятога Дзімітрыя, мошчы сьвятога Панцялеймана.

Гістарычную каштоўнасьць крыжа выдатна ўзьвялічае вырыты на бочных сярэбраных пласткох, датаваны годам, даўжэйшы напіс зь імем князёўны заказчыцы, названым месцам ”пакладаньня” крыжа, заклінаньнем, каб з манастыра яго ніхто ня выносіў, ды паказаньнем кошту скарыстаных на яго выкананьне матарыялаў. Ёсць кароткія, па царкоўна-славянску й па грэцку, напісы й пры іконках ды каля гнёздаў на мошчы. На адвароце крыжа ўнізе ёсць напіс з паданьнем хроснага ды сьвецкага імяў залатара-майстры што крыж зрабіў.

Даўжэйшы напіс на крыжы, зроблены ў 1161 годзе, ці бо ў пару, зь якое захавалася вельмі мала іншых пісаных на беларускай зямлі памятак, робе з крыжа памятку нязвычайна каштоўную ня толькі гісторыі й мастацтва, але й беларускае эпіграфічнае пісьменнасьці. Напісам на крыжы дзеля гэтага ўжо здаўна цікавяцца моваведы-славістыя. Таму, пачынаючы ўжо ад ХУШ стагодзьдзя, арыгінальны тэкст напісу шмат разоў публікаваўся. Тут гэты тэкст прыводзіцца ў перакладзе на мову сучасную, з пропускамі ў тых мясцох, дзе напіс адчытаць немагчыма:

”У 1161 годзе кладзе Афрасіня сьвяты крыж у сваім ма-

настыры, у царкве сьвятога Спаса. Дрэва сьвятое бясцэннае, акова-ж яго золата й серабро, і камяні, і жамчуг, на 100 грыўняў, а... (пропуск)... 40 грыўняў. І хай ня выносіцца з манастыра ніколі, і не прадаецца, ані аддаецца.

Калі б-жа хто не паслухаў ды з манастыра вынес, хай не дапамагае яму сьвяты крыж ані ў жыцьці гэтым, ані ў будучым, і хай будзе ён пракляты сьвятою Жыватворнаю Тройцаю ды сьвятымі айцамі, і хай доля ягоная будзе зь Юдаю, што прадаў Хрыста.

Хто-ж асмеліцца ўчыніць гэта... (пропуск)... валадар або князь, або біскуп, або ігуменя, або якінебудзь іншы чалавек, — хай на ім будзе гэты праклён. Афрасіня-ж, раба Хрыстова, што справіла гэты крыж, хай здабудзе вечнае з усімі сьвятымі жыцьцё... (пропуск).

Госпадзе пamажы рабу свайму Лазару, званаму Богша, што зрабіў гэты крыж царкве сьвятога Спаса й Афрасіні".

## 2

Гістарычныя абставіны пары, калі крыж сьвятое Афрасіні быў забраны з пад апекі духавенства, а, як сьветчаць дакументы, апякавалася ўжо ім і гэткая "культурная" савецкая ўстанова, як ОГПУ (Об'единенное Государственное Политическое Управление, пазьнейшае НКВД), былі гэткія:

З публікацыяй у 1928 годзе пагромнага артыкулу сакратара ЦК Камуністычнае партыі БССР Вільгельма Кнорына "Аб рашаючых "дробязях" у вялікім пытаньні", у рэспубліцы пачаўся сыстэматычны прасьлед беларускае культуры ды падрыхтоўвалася расправа з нацыянальным культурна-творчым актывам. Ужо ў восені 1929 году ў БССР пачынаюцца, а пазьней колькі наваротамі паўтараюцца, масавыя арышты тысячаў беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў, настаўнікаў, дзесяткоў тысячаў беларускае інтэлігенцыі. Яны ці ссылаюцца на катаржную працу й загін у канцэнтрацыйныя лягеры, ці ворганамі ОГПУ нішчацца на месцы.

Тым самым часам ідзе й безаглядны наступ на духавенства, царкву, рэлігію. Тэрор хутка разгортваецца ў масавае нішчэньне рэлігійных і нацыянальна-гістарычных памятак

беларускага народу. Закрываюцца, бясчэсьцяцца й руйнуюцца тысячы сьвятыняў і манастыроў, з адначасным рабаваннем ды нішчэньнем іконаў, крыжоў, рэлігійных кнігаў, ды іншых старавечных памятак. У пагромным шале ўзарваныя былі тады й гэткія мануметальныя помнікі беларускае эпіграфікі XII стагодзьдзя, як слаўныя Барысавы камяні-валуны на Дзьвіне.

Вось у самых пачатках наступу партыі на культуру беларускага народу, у 1928 годзе, з полацкае, заснаванае самою князёўнай Афрасіняй, Спаскае царквы быў заграблены й ейны славуты крыж. Каб каштоўную гістарычную рэлікваю ахаваць, зь Менску да Полацку тады адмыслова едзе тагачасны дырэктар Беларускага Дзяржаўнага Музэю Вацлаў Ластоўскі, які перавёз крыж да Менску ды паклаў яго ў музэі[1]).

Крыжа аднак-жа ня кінулі ў супакоі й у Менску. У Беларускім Дзяржаўным Музэі заставаўся ён нядоўга. З далейшым завастрэньнем антыбеларускага курсу партыі пачалося грунтоўнае разфармоўваньне нацыянальных фондаў музэяў рэспублікі, ды, у першую чаргу, цэнтральнага музэю менскага. У часе гэтае "чысткі" ад прадметаў культуры беларускага народу з музэяў забіраліся ды вывозіліся, або проста й нішчыліся, экспанаты беларускае этнаграфіі, узоры беларускага народнага мастацтва, народныя тканіны й уборы. Выкідаліся ды ністожыліся тады таксама скульптуры ды партрэты выдатнейшых дзеячоў беларускае гісторыі й культуры, як сьвятое Афрасіні, сьвятога Кірылы Тураўскага, доктара Скарыны, Кастуся Каліноўскага, партрэты беларускіх паэтаў і пісьменнікаў.

Асабліва каштоўныя прадметы забіраліся тады да сталіцы імперыі, да Масквы. Як перагляд у часе апошняе вайны інвэнтарных кнігаў музэю ў Менску паказаў, у 1920-х—1930-х гадох зь Беларускага Дзяржаўнага Музэю былі забраныя ды да Масквы вывезеныя: увесь залаты, сярэбраны ды іншы дарагі царкоўны ды касьцельны посуд, усе мастацка выдатнейшыя іконы, калекцыя музэю слуцкіх паясоў, вялізныя зборы народнае вопраткі й тканінаў, калекцыя старавечных манэтаў з скарбаў, што былі знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, усе важнейшыя архіўныя матарыялы. Дык ішоў пагалоўны рабунак рэспублікі з культурна-гіста-

рычных яе скарбаў. Гэткім спосабам каляніяльная ўлада праводзіла сьпешную дэнацыяналізацыю музэю, рыхтавала месца для яго русыфікацыі.

Забіраньне ды вываз дарагіх асабліва прадметаў праводзіўся ворганамі ОГПУ. Напачатку адбывалася гэта ў выглядзе "эвакуацыі" важнейшых экспанатаў у далей ад мяжы СССР ляжачыя мясцы, у гэтым і да Магілева, куды ў пару партыйнага страху перад "інтэрвенцыяй буржуазіі" быў нейкі час плянаваны, ды часткова й рэалізаваны, перанос важнейшых партыйных і дзяржаўных установаў рэспублікі. Да Магілева ў 1929 годзе быў зь Менску вывезены й крыж сьвятое Афрасіні.

## 3

Па публікаваных тут дакумэнтах можна прасачыць усю працэдуру зьвязаную з забраньнем зь Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску ды перавозам да Магілева крыжа сьвятое Афрасіні. 21 лістапада 1929 году начальнік "Фэльдаддзелу" менскага ОГПУ А.Іваноў выставіў, за подпісам сваім ды "інструктара" ОГПУ А.Пішчыка, давераласьць" агенту ОГПУ Лугаўцову на забраньне з музэю ды перавоз да Магілева "каштоўнасьцяў". Як відаць з другога надрукаванага тут дакументу, сярод гэтых каштоўнасьцяў быў і крыж сьвятое Афрасіні.

З актаў вынікае, што ў часе забіраньня крыжа Вацлаў Ластоўскі з дырэктарства музэю быў ужо зьняты. Дырэктарам назначаны быў нейкі М.І.Шапавалаў. Але крыж агенту ОГПУ перадаваў яшчэ, за сваім подпісам, В.Ластоўскі, відавочна асабіста за яго адказны. У зробленай рукою Ластоўскага пры канцы другога дакумэнту дапісцы кажацца, што крыж прадстаўніку ОГПУ здадзены "былым дырэктарам БДМ" Ластоўскім "згодна распараджэньню Наркомасьветы".

Прысутнымі ў музэі ў часе перадачы крыжа быў новы дырэктар музэю М.І.Шапавалаў, ягоны намесьнік А.Бурдзейка й дырэктар Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Магілеве, У.Л.Вінікаў. Подпісы іх усіх, пасьля подпісаў В.Ластоўскага ды даверанага ОГПУ, пакладзеныя пад менскім актам забіраньня крыжа.

Як паказвае другая дапіска пад актам, зробленая назаўтра, 22 лістапада 1929 году а 9 гадзіне вечара ў Магілеве, ды рукою ўжо не Ластоўскага, давераны ОГПУ Лугаўцоў крыж перадаў тады Дзяржаўнаму Музэю ў Магілеве за подпісам сваім ды подпісамі дырэктара музэю В.Вінікава й двух іншых прысутных працаўнікоў музэю, подпісы якіх нячытэльныя.

Як відаць з трэцяга надрукаванага тут дакумэнту, у гэты самы дзень, як з музэю ў Менску забіраўся крыж сьвятое Афрасіні, зь яго ўзятае было давераным ОГПУ Лугаўцовам ды да Магілева перавезенае й рукапіснае слуцкае Эвангельле, перапісанае ў 1582 годзе слуцкім князем Юрым Юравічам Алелькам. Эвангельле, як напіс на яго вокладцы сьветчыў, паходзіла зь бібліятэкі слуцкага Сьвята-Траецкага манастыра. Як зробленая рукою В.Ластоўскага дапіска пад актам паказвае, і слуцкае Эвангельле давераному ОГПУ здаваў ён. Дзе гэтае Эвангельле цяпер — ці яно захавалася, ці, як і крыж, нейдзе ў часе вайны загінула, — натрапіць на нейкія ведамкі ў савецкім друку не давялося.

## 4

Акт забіраньня крыжа зь Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску важны й тым, што ў ім ёсьць і пратакольны вопіс стану крыжа ў гэным часе, ці бо ў 1929 годзе. Калі прыраўнаць гэты вопіс да вопісу, што быў зроблены пры канцы XIX стагодзьдзя сябрам рады полацкага царкоўнага брацтва сьвятаром Міхалам Дуброўскім[2]), выяўляецца, што ў 1929 годзе крыж быў моцна пашкоджаны.

Калі Дуброўскі ў сваім вопісе адзначыў, што з 20 эмалевых іконак на крыжы тады ня было аднае, ды што 5 іншых стагодзьдзямі ўжытку крыжа былі прынішчаныя, дык паводле акту 1929 году тады тры выабражэньні сьвятых былі выламаныя, а 13 "папсаваных". Адно з гнёздаў на рэліквіі было выламанае ды пустое. На верхняй папярэчцы нетавала двух кавалкаў золата й дрэва. З усіх дарагіх камянёў захаваліся толькі адзін амэтыст ды адзін гранат. Па іншых ці засталіся пустыя гнёзды, ці заміж іх устаўленыя былі кускі хварбаванага шкла. Паводле пададзенай у пратаколе 1929 году ацэны ювеліра-экспэрта, грашовая вар-

тасьць захаванага яшчэ жамчугу ды дарагіх камянёў, пры моцна ўжо прынішчаным крыжы, перавышала суму 200 рублёў.

Узяўшы на ўвагу тое, то М.Дуброўскі свой вопіс рабіў больш 700 гадоў пасьля таго, як князёўна Афрасіня паклала крыж у Спаскай царкве ў Полацку, пратакол-жа 1929 году быў пісаны ўсяго гадоў 40 пасьля вопісу Дуброўскага, даводзіцца сьцьвердзіць, што крыж асабліва моцна быў прынішчаны апошнімі якраз дзесяцігодзьдзямі. З таго, што пацярпелі пры гэтым ня толькі залатая акова крыжа ды дарагія камяні, але бадай найбольш эмалевыя іконкі сьвятых, даводзіцца зрабіць выснаў, што галоўнымі віноўнікамі пашкоджаньня крыжа былі ня столькі жадныя крымінальныя рукі, колькі разагітаваныя партыйныя фанатыкі атэізму, у руках якіх крыж сьвятое Афрасіні пабываў пасьля яго зрабаваньня з царквы сьвятога Спаса ў Полацку, да пары, пакуль ім не заапекаваўся В.Ластоўскі ды не паклаў яго ў Беларускі Музэй у Менску.

## 5

З надрукаваных тут актавых дакумэнтаў відаць, што мыляюцца тыя савецкія аўтары, якія, як прыкладам Л.В.Аляксееў, пішаць "крыж бясьледна зьнік, схоплены нямецка-фашыстскімі захопнікамі ў 1941 годзе зь Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску"[3]). Як паказвае другі надрукаваны тут дакумэнт, ад 21 лістапада 1929 году ў менскім дзяржаўным музэі крыжа ўжо ня было, бо забралі яго стуль не нямецкія "захопнікі", але "давераныя" ОГПУ.

Ня ў Менску, але ў Магілеве сьлядоў крыжа каля 1970 году й шукаў ведамы савецкі дасьледнік беларускае старасьвеччыны Адам Мальдзіс. Пра вынікі сваіх пошукаў у друку ён даў гэткія цікавыя ведамкі:

"Зімой гэтага году выпадак сутыкнуў мяне з магілеўскім краязнаўцам Еранімам Іосіфавічам Філіповічам ...які "прыгадаў, вядома, і крыж Еўфрасіні Полацкай. Спачатку ён экспанаваўся непасрэдна ў музэі. Потым дзеля бясьпекі, перанесьлі яго ў браніраваны пакой-сэйф у будынку былога зямельнага банку. Еранім Іосіфавіч, да вайны таксама музэйны работнік, ня раз бачыў той крыж і ў музэі, і ў пакоі сэйфе.

— І няўжо — ніякіх сьлядоў?

— Чаму-ж, сьлед ёсць, — уздыхнуў у адказ Еранім Іосіфавіч. — Ды занадта даўгі, вядзе ажно за акіян. Нядаўна новы дырэктар музэю, Іван Канстанцінавіч Скварцоў, паслаў запытаньне ў Эрмітаж. Адтуль адказалі, што па наяўных у Эрмітажы зьвестках, крыж цяпер знаходзіцца ў прыватнай калекцыі амэрыканскага мілiянера Моргана. Ды хіба адзін толькі крыж... Вайной з музэю загінулі славутыя бельчыцкі абраз Божай Маці, магілеўскі брацкі абраз з багацейшым акладам. Дарэчы, наконт гэтых абразоў ходзяць упартыя чуткі, што яны закапаны ў Магілеве.

Назаўтра я пазваніў дырэктару Магілеўскага абласнога гісторыка-краязнаўчага музэю І.Скварцову. Ён пацьвердзіў, такое пісьмо з Эрмітажа ёсьць"[4]).

На падставе відавочна вышэй прыведзенага паведамленьня А.Мальдзіса Мікола Ермаловіч у 1973 годзе пісаў: "Ёсьць зьвесткі, што цяпер гэты шэдэўр ляжыць у сэйфе аднаго з амерыканскіх міліярдэраў"[5]). Бібліятэка ды калекцыя Моргана, сядзіба якое ў Ню Ёрку, ведамая сваймі каштоўнасьцямі на ўсім сьвеце. Праведзеная Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, хутка пасьля апублікаваньня артыкулу А.Мальдзіса, спроба выясьніць і па каталёгу калекцыі, і беспасярэднімі роспытамі яе адпаведных працаўнікоў справу магчымага перахоўваньня ў ёй крыжа сьвятое Афрасіні дала вынік нэгатыўны. Гэта, зразумела, яшчэ не дастатковы довад таго, што крыж сапраўды ня ў ЗША ды й не ў калекцыі Моргана. Гэткую магчымасць і ў далейшым ня трэба выпускаць зь віду пры пошуках бясцэннае гістарычнае рэліквіі беларускага народу.

Маем затое сяньня ўдакумэнтаваныя довады таго, што перад выбухам нямецка-савецкае вайны крыж князёўны Афрасіні знаходзіўся на адказнасьці ўладаў савецкіх ды ў першую чаргу тых, што мелі ключы ад таго "браніраванага" сэйфу, у якім, разам зь іншымі каштоўнасьцямі, ляжаў і крыж сьвятое Афрасіні. Магілеў ад найбліжэйшае мяжы СССР зь Нямеччынай з пачаткам вайны быў на адлегласьці больш паўтысячы кіляметраў. Гэта давала дастаткова часу й магчымасьцяў на тое, каб крыж, ды й усе іншыя гістарычныя каштоўнасьці беларускага народу, з Магілева эва-

куавацъ у ад баявое акцыі далейшыя, бясьпечныя мясцы.

Калі-ж гэта ня было зроблена, віна за загін крыжа й падае ў першую чаргу ды галоўна на тыя савецкія ўстановы ды асобы, на адказнасьці якіх крыж у часе выбуху вайны знаходзіўся. Было-б важна, каб савецкія аўтары імі іх раскрылі ды падалі да ведама ў друку. Гэта істотна дапамагло-б справе высьвятлення ўсіх абставінаў пры якіх да прапажы гэткае каштоўнае памяткі дайшло, а можа давяло-б і да выяўленьня сучаснага месцазнаходжаньня крыжа.

Калі-б жа выясьнілася, што крыж і сапраўды быў пакінуты ў хаосе вайны ў Магілеве без апекі, тады, пэўне-ж, мог ён трапіць і ў рукі нямецкія, а пазьней заплысьці навет і за акіян у сэйфы амэрыканскія. Калі весьці аднак-жа пошукі сумленна, ня можна ўсё-ж выпускаць зь віду й магчымасьці, што тады крыж лёгка таксама мог прыліпнуць да рук і тых "давераных" партыі ці НКВД асобаў, што мелі ключы да магілеўскага сэйфу. І ў гэткім выпадку павандраваў крыж хутчэй на ўсход, як на захад. Што й гэткую магчымасьць трэба паважна браць на ўвет пры пошуках крыжа паказвае хоць-бы гэткі яскравы прыклад, што крыж сьвятое Параскевы з тагасамага полацкага Спаса-Афрасіневага манастыра нядаўна, бо толькі ў 1968 годзе, быў выяўлены аж у Яраслаўлі Растоўскім.

Вельмі добра, што паасобныя беларускія аўтары, гісторыкі ды археографы, ня спыняюць настойлівых пошукаў сьлядоў унікальнае ды бясцэннае гістарычна-мастацкае памяткі беларускае зямлі. Калі крыж сьвятое Афрасіні яшчэ наагул існуе, трэба яго знайсьці ды дамагчыся звароту таму народу, рукамі мастака-майстры якога калісьці быў ён створаны, народу, якому больш 800 гадоў таму сваёю воляю яго адказала слаўная полацкая князёўна.

І звароту беларускаму народу, на ягоную з скарбаў культуры аграбленую дазваньня зямлю, дамагацца трэба ня толькі крыжа сьвятое Афрасіні. Зьвернутыя павінны быць і ўсе іншыя памяткі мастацтва, культуры, пісьменства й друку, што забіраліся зь Беларусі ды ў першую чаргу тыя, месцазнаходжаньне якіх добра ведамае. Імі якраз поўныя музэі, архівы, бібліятэкі найперш сталічных местаў імпэрыі, Масквы ды Ленінграду, куды й цары стагодзьдзямі, і пазьней чырвоныя валадары імпэрыі вывозілі зь Беларусі ўсё

больш каштоўнае.

Паводле запісаў 1930-х гадоў у інвэнтарнай кнізе Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску, разам зь іншымі каштоўнасьцямі музэю, была тады забраная ды да Масквы вывезеная й багатая калекцыя слуцкіх паясоў. У 9-ым томе Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі памешчаныя рэпрадукцыі 9-ці слуцкіх паясоў, што цяпер у Гістарычным Музэі Масквы. Дык сусьветнае славы шэдэўры мастацтва беларускае зямлі аздабляюць і сяньня музэйныя зборы сталіцы імпэрыі.

Пара даўно гэтыя зрабаваныя скарбы беларускага народу вярнуць у музэі Беларусі. Ніякіх-жа тут марудных пошукаў, каб выявіць дзе яны, як з крыжом сьвятое Афрасіні, не патрабуецца, гэта ведама. Дамагацца іх звароту абавязак у першую чаргу ўраду беларускае рэспублікі.

Пара вярнуць беларускаму народу, прыкладам, і тыя 600 тамоў слаўнае Літоўскае Мэтрыкі, якія блізу 200 гадоў таму на загад царыцы Кацярыны былі вывезеныя да Пецярбургу, а ў якой дзяржаўныя й юрыдычныя акты датычныя да жыцьця беларускага народу на працягу поўтысячы гадоў яго гісторыі. Пара аддаць і ўсе іншыя скарбы, усе бясцэннае вартасьці старавечныя рукапісы ды старыя друкаваныя беларускія кнігі, што й паадзіночна, і гуртам цэлымі бібліятэкамі забіраліся з цэркваў і манастыроў, дый з прыватных збораў Беларусі, і вывозіліся да Расеі.

Кніга, прыкладам, Скарынавае Бібліі, што як колішняя ваенная здабыча, ляжыць цяпер ў бібліятэцы Дзяржаўнага архіву Міністэрства замежных справаў у Маскве, а на якой ёсьць напіс "а взята сія книга в Литовской земле, у Гродне, лета 7163 (году 1655) месяца августа в 27 день", павінна быць вернутая беларускаму народу ды пакладзеная ў Горадзенскі музэй, як памяць пра крывавыя ваенныя наезды, пра зьнішчэнні й рабункі ягонае зямлі. Дамагацца звароту заграбленых скарбаў сваіх прашчураў грамадзяне беларускае рэспублікі маюць ня толькі юрыдычна-гістарычную падставу, але й маральны абавязак.

Варочаючыся да крыжа сьвятое Афрасіні: калі ўсьведаміць, што на беларускай зямлі цяпер улада тае Масквы, якая й далей вядзе сыстэматычнае руйнаваньне цэркваў, касьцёлаў, манастыроў, замкаў, ратушаў ды іншых стара-

вечных архітэктурных памятак беларускага народу, што там цяпер тая ўлада, на загад якое яшчэ ў сьнежані 1961 году ўдарамі "шар-бабы" знамерана струшчаная была славутая віцебская Благавешчанская ХП стагодзьдзя царква, улада, якая калісьці ўзарвала Барысавы ХП стагодзьдзя камяні на Дзьвіне, мімаволі паўстае пытаньне — дзе крыж сьвятое Афрасіні быў-бы сяньня бясьпячнейшы: ці ў руках бюракратаў афіцыйнага савецкага атэізму ды вялікадзяржаўя, ці бо ў засягу ворганаў улады, што выяўна з пагардай, а навет і ненавісьцяй глядзіць на ўсё зьвязанае й з рэлігіяй, і зь гісторыяй беларускага народу?

А што дачыненьні каляніяльных партыйных валадароў Беларусі да рэлігіі, сьвятое Афрасіні ды выдатных дзеячоў беларускае культуры наагул нічым не зьмяніліся й сяньня ў прыраўнаньні з часамі зрабаваньня крыжа сьвятое Афрасіні з царквы ейнага манастыра ў Полацку, узарваньня Барысавых камянёў, ды зруйнаваньня старавечнае віцебскае Благавешчанскае царквы, сьветчыць добра нядаўны даклад на пленуме ЦК КПБ першага сакратара партыі П.М.Машэрава, у якім ён вінавацiў беларускіх падсавецкіх аўтараў за "ідэалізацыю паасобных багасловаў як выдатных асьветнікаў", ды на довад гэтага паклікаўся на публікацыі "пра Афрасіню Полацкую, Сматрыцкага, Зызанія" ("Советская Белоруссия", 30.4.1974).

---

1) Помнік старажытнага мастацтва ("Савецкая Беларусь", N 166. Менск, 1928).

2) Крест преподобной Евфросинии, княжны полоцкой (П.Н.Батюшков. Белоруссия и Литва. С.--Петербург, 1890. Об'яснения к рисункам, б. 39—42).

3) Л.В.Алексеев. Лазарь Богша - Мастер-ювелир ХП в. ("Советская археология". Москва, 1957, N 3, б. 225).

4) Адам Мальдзіс. Сьляды продкаў ("Літаратура мастацтва", Мінск, N 8, 1973, б. 226).

5) Мікола Ермаловіч. "Яко луна солнечная..." ("Полымя", Мінск, N 8, 1973, б. 226).

6) Л.В.Алексеев. Полоцкая земля. Академия наук СССР. Москва, 1966, б. 200.

Запісы (Нью-Йорк), 1974. Кн. 12.

СЯРГЕЙ БАГДАНОВІЧ

# ЗАГАДКА КРЫЖА ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

*Трэці год "адгадвае" яе ўпраўленне КДБ па Магілёўскай вобласці*

Насупраць будынка былога сялянскага банка ў г. Магілёве з'явілася драўляная выява Ефрасінні Полацкай. Рукі асветніцы быццам спрабуюць прытуліць да сябе крыж, падараваны беларускай зямлі Лазарам Богшам. Але ніяк не дацягнуцца да яго. Жаночы твар, поўны немай роспачы, звяртаецца да нас, здаецца, з пытаннем-дакорам: "Чаму ж вы, беларусы, не збераглі нашу святыню?".

У ліпені 1941 года разам з іншымі шматлікімі каштоўнасцямі бясследна знікла адсюль нацыянальная рэліквія — крыж Ефрасінні Полацкай. Як ні дзіўна, але да сённяшняга часу ніхто не можа сказаць, куды падзелася магілёўская калекцыя. Нават былы дырэктар краязнаўчага музея Іван Сяргеевіч Мігулін, які стаў апошнім сведкам знаходжання крыжа ў пакоі-сейфе.

Калі гітлераўцы падыходзілі да Магілёва, Іван Сяргеевіч запісаўся ў апалчэнне. Аднак трэба было ратаваць музейныя каштоўнасці. Прыйшоў да абкама (у той час ён размяшчаўся ў будынку па вуліцы Міронава), каб паклапаціцца аб вывазе змесціва сейфа, але вартавы яго не пусціў. Сказаў, што ўся маёмасць эвакуіравана. Мігулін падумаў, што крыж таксама адправіўся ў тыл. Таму разам з сям'ёй выехаў у Горкаўскую вобласць.

Пасля вызвалення Магілёва сустрэў свайго знаёмага Лукоўнікава. Той і паведаміў яму сумную гісторыю. У час акупацыі Лукоўнікаў працаваў у немцаў і быццам ў пачатку восені сорак першага дапамагаў ім складаць спіс скарбаў сейфа. У гэтай справе ўдзельнічалі таксама настаўнікі Конюхаў і Скрыннікаў.

У хуткім часе Мігуліна выклікалі ва ўпраўленне НКУС. Галоўная тэма размовы з маёрам Маўчанавым была — куды падзеліся музейныя каштоўнасці. Іван Сяргеевіч расказаў пра сустрэчу з Лукоўнікавым. Пасля яго больш не турбавалі. Такая вось гісторыя. Амаль слова ў слова

паўтарыў яе і сёлета Мігулін супрацоўнікам КДБ па Магілёўскай вобласці, якія вядуць пошук крыжа і каштоўнасцей ужо трэці год. З таго часу пытанняў у гэтай справе не зменшылася.

## Германія прыклала руку?

У пошуку афіцыйных дакументаў аб знаходжанні крыжа Ефрасінні Полацкай у Магілёве (на іх аснове можна будзе ўзбудзіць крымінальную справу), сведкаў тых падзей, значнае месца адводзіцца аналізу архіўных матэрыялаў УКДБ, крымінальным справам на былых фашысцкіх памагатых: раптам знойдзецца пацвярджэнне разрабавання каштоўнасцей немцамі? У гэтым сэнсе пэўную цікавасць прадстаўляюць крымінальныя справы па абвінавачванню Сташэўскага, Конюхава, Скрыннікава, Лукоўнікава і інш.

З пратаколу допыту Сташэўскага М.Я., перакладчыка аддзела прапаганды нямецкай камендатуры: "...У лістападзе 1943 года гарадская камендатура прызначыла мяне адказным за эвакуацыю ў г. Беласток кніг Магілёўскай бібліятэкі... Было адабрана і запакавана 300 скрынь, прыблізна 40 тысяч кніг, якія былі пагружаны ў 4 вагоны і накіраваны ў Беласток". У абвінавачанні па гэтай справе гаворыцца, што кнігі Сташэўскі адправіў па заданню нямецкай арганізацыі "Штаб Розенберга", якая займалася вывазам музейных, бібліятэчных і іншых гістарычных каштоўнасцей.

Сведка Нікіценка М.Ц. на допыце 22 мая 1945 года паказаў: "...У пачатку снежня 1943 года я, Скрыннікаў Вячаслаў Дзмітрыевіч і Конюхаў Павел Сямёнавіч былі накіраваны ў гарадскую бібліятэку, дзе ён даў нам заданне разабраць кнігі..." (Хто ён?).

З пратакола допыту Карановіча У.В., былога начальніка пашпартнага стала: "...З лета 1942 года архіўныя дакументы немцамі вывозіліся з Магілёва ў германскі тыл... У перыяд адпраўкі архіва прымаў удзел і Конюхаў Павел Сямёнавіч...".

Лукоўнікаў працаваў у акупантаў інспектарам гарадскога аддзела народнай асветы. 23 лістапада 1944 года на допыце ён паказаў: "...З 20 снежня 1943 года да 1 студзеня 1944 года я працаваў грузчыкам архіва...".

А вось паказанні былога начальніка Магілёўскага раёна Базыленка К.П.: "...Усе кнігі ў 1941 годзе некалькі разоў правяраліся, выбракоўваліся, знішчаліся або раскрадаліся правяраючымі...".

Як бачна, гаворка ідзе аб вывазе акупантамі менавіта бібліятэкі і гарадскога архіва. Іншых звестак, у тым ліку і пра захоп немцамі скарба з пакоя-сейфа музея, атрымаць не ўдалося, хоць прагледжана ўжо больш за 80 крымінальных спраў. Можа прыведзены факт вывазу бібліятэкі паслужыў асновай той версіі, што фашысты разрабавалі музейныя каштоўнасці?

І яшчэ. Лукоўнікаў расказаў Мігуліну, што дзвярныя замкі і краты сейфа па загаду выразаў аўтагенам ваеннапалонны чырвонаармеец. Але ж яны былі зняты ўжо ў пасляваенны час і некаторыя супрацоўнікі рэдакцыі газеты "Магілёўская праўда" (яна размяшчалася ў гэтым жа будынку) бачылі іх без аніводнага пашкоджання. Дарэчы, краты і па сённяшні дзень ляжаць у падвале.

На думку былой галоўнай захавальніцы музея Ніны Філімонаўны Мяснісковай, вываз фашыстамі каштоўнасцей не мог застацца тайнай 3—4 чалавек, тым больш, калі ў гэтай "аперацыі", як сцвярджаецца, удзельнічалі нашы суайчыннікі. У час акупацыі Мяснікова жыла непадалёк ад былога абкама, сустракалася з некаторымі краязнаўцамі. Ніколі не чула пра разрабаванне каштоўнасцей музея фашыстамі. Гэта, вядома, яшчэ не падстава для вынікаў. Але наўрад крыж стаў прыналежнасцю Германіі.

## Ці быў задаволены Берыя?

Такімі каштоўнасцямі, як крыж, у час эвакуацыі павінны былі займацца супрацоўнікі НКУС. І хоць Мігулін сцвярджае, што яны не ведалі пра скарб, трэба думаць, што нацыянальная рэліквія не магла застацца без увагі кіраўніцтва вобласці і НКУС. Аб гэтым сведчыць і акт перадачы крыжа Ефрасінні Полацкай з мінскага Дзяржаўнага музея ў Магілёўскі, які апісаны ў кнізе У.Арлова "Ефрасіння Полацкая". Там гаворыцца, што супрацоўнік аддзела фельд'егерскай сувязі Паўнамоцнага прадстаўніцтва АГПУ па Беларускай ваеннай акрузе Лугаўцоў атрымаў ад на-

чальства даверанасць "...на право получения ценностей из государственного музея для отправки таковых в гор. Могилев". 29-м лістапада 1929 года датаваны акт аб перадачы крыжа ў рукі Лугаўцова.

Напэўна, вяліся пратаколы допыту Мігуліна маёрам Маўчанавым па справе аб зніюшых каштоўнасцях музея. Толькі звестак аб гэтых падзеях у архіве КДБ не захавалася. Прайшло ўжо шмат часу, і дакументы, калі такія і існавалі, былі знішчаны з заканчэннем тэрміну захавання. У 1986 годзе памёр Маўчанаў. Засталася адна надзея на ўзнаўленне нейкіх звестак аб тых допытах з дапамогай ветэранаў, якія працавалі ва ўпраўленні КДБ у пасляваенныя часы.

Цікавай здаецца гісторыя, аб якой паведамляў "Вестник Могилева" (N 30 за 1992 год), дзе гаварылася, што каштоўнасці музея вывезла група супрацоўнікаў НКУС на чале з рэвізорам фінансавага аддзялення НКУС па Магілёўскай вобласці нейкім Карлам Іванавічам. Быццам гэты "подзвіг" быў высока ацэнены самім Берыя. Сапраўды, па вуліцы Бялінскага жыў Абадкоў Карл Іванавіч. Але, як паказала праверка, у НКУС ён ніколі не служыў і ніякага дачынення да вывазу каштоўнасцей не мае. А на запыт да сваіх маскоўскіх калег супрацоўнікі УКДБ атрымалі такі адказ: "Цэнтральны аператыўны архіў Міністэрства бяспекі Расійскай Федэрацыі даных аб тым, што каштоўнасці з Магілёўскага дзяржаўнага музея былі забраны супрацоўнікамі НКУС у 1941 годзе, не мае". Адмоўныя адказы атрыманы таксама з Дзяржаўнага гістарычнага музея, Прэзідыума Акадэміі навук, Камітэта каштоўных металаў і каштоўных камянёў, Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі, Цэнтральнага расійскага банка.

### "Я разлічваў, што каштоўнасці эвакуіраваны..."

Гэта словы Івана Сяргеевіча Мігуліна. Сапраўды, абсурдна было думаць, што супрацоўнікі абкама, якія эвакуіравалі ўжо маёмасць, да апошняй сашчэпкі, на пакой-сейф з рэдкім скарбам забыліся. Што там захоўвалася — яны добра ведалі, бо не раз прыходзілі да Мігуліна паглядзець на цудоўныя прадметы мінулага. Калі верыць аднаму з

пасяджэнняў пленума абкама 1945 года, дзе разглядалася персанальная справа камуніста Мігуліна, то выходзіць, што так яно і атрымалася. Тады Івану Сяргеевічу за "...непрыняцце мер да эвакуацыі залатых каштоўнасцей музея ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны..., за халатныя адносіны да ўліку і захавання матэрыяльных каштоўнасцей музея..." была аб'яўлена строгая вымова з занясеннем ва ўліковую картку. Да таго ж, у былым партархіве не захавалася ніякіх афіцыйных дакументаў аб знаходжанні крыжа і каштоўнасцей у Магілёве, і канкрэтна — у пакоі-сейфе, іх далейшым лёсе. Адсутнічаюць і пратаколы пасяджэнняў абкама па пытаннях эвакуацыі.

Цяжка, напрыклад, зразумець, чаму адказныя за эвакуацыю маёмасці не змаглі ў рэшце рэшт "апаражніць" сейф з каштоўнасцямі вядомым спосабам, дапусціўшы, што Мігуліна з адзіным, як ён казаў, ключом у кішэні, не маглі знайсці, калі ішоў вываз. Што да колькасці ключоў, то, на думку спецыялістаў, да такога пакоя-сейфа іх павінна быць некалькі, а адзін — абавязкова ў сакратарыяце абкама.

Вываз каштоўнасцей разам з маёмасцю абкама, магчыма, усё ж адбыўся. Вядома, што архівы знаходзіліся ў час вайны ў Саратаве і Уфе. Можа, гэта і ёсць "усходні" варыянт падарожжа крыжа Ефрасінні Полацкай, аб якім шмат расказвалася ўжо ў прэсе.

## Крыж у Магілёве

Гэта ўжо занадта, скажа чытач. Але ў ходзе пошуку, як ні дзіўна, давялося чуць версію, што наша нацыянальная рэліквія знаходзіцца недзе на Магілёўшчыне альбо зусім не пакідала межаў абласнога цэнтра. Група супрацоўнікаў НКУС пачала вывозіць каштоўнасці, калі варожае кальцо замкнулася пад Чавусамі. Разумеючы, што прарвацца са скарбам не ўдасца, чэкісты закапалі яго дзесьці ў гэтым раёне, а самі разышліся, каб па аднаму прайсці лінію фронта.

Яшчэ па адной версіі, калі ў горад уступалі фашысты, крыж і іншыя рэлігійныя каштоўнасці музея былі перададзены на захаванне аднаму з царкоўных святароў, след якога дзесьці згубіўся.

Адкуль нараджаюцца такія чуткі? Напэўна, ад таго, што каштоўнасці Магілёўскага музея, у тым ліку і крыж Ефрасінні Полацкай, не аб'явіліся дагэтуль ні ў адной асабістай ці дзяржаўнай калекцыях. Але пошук працягваецца.

Магілёўская праўда. 1993.
22 мая.

ІЛАРЫЁН СЬВЯНЦІЦКІ

## БЕЛАРУСКІ АДДЗЕЛ УКРАІНСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА МУЗЭЮ Ў ЛЬВОВЕ

*Іларыён Сьвянціцкі (1876—1956), вялікі прыяцель беларускага народу, доўгі час, бо ў гадох 1905—1952, быў дырэктарам Украінскага музэю ў Львове. У 1908 г., пасьля наведаньня Менску ды Вільні, ён апублікаваў у Львове кніжку "Відродження білоруського письменства". Аб Беларусі пісаў ён шмат разоў і пазьней.*

*Тут перадрукоўваюцца цікавыя, але мала ведамыя, успаміны І.Сьвянцікага пра спробы кіраўнікоў Беларускае Сацыялістычнае Грамады заснаваць на пачатку гэтага стагодзьдзя ў Львове, тады пад Аўстрыяй, пры Украінскім нацыянальным музэі музэй беларускі. Успаміны перадрукоўваюцца з кнігі: Двайцеть пять-літия Національного Музэю. Львів, 1930, б. 7—8.*

У гэтым гэта часе (1905 год — Рэд.) зарадзілася ідэя стварэньня беларускага аддзелу ў музэі. Засноўнік музэю (мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі — Рэд.), як галава ўсходняславянскай злучанай царквы, ясна здаўна цікавіўся постацямі галоўных дзеячоў вуніі. Гістарычныя акты, рэдкія палямічныя друкі XVI—XVII ст., партрэты, рызы й царкоўны посуд зь гістарычна ведамых цэркваў Беларусі — усяго гэтага сёе-тое ўжо было ў васноўным фондзе музэйных збораў ад Засноўніка. Ішло пра дапаўненьне гэтых збораў прыватным беларускім архівам-музэем Генрыка Татура ў Менску, некаторыя дадзеныя пра якога Айцу мітрапаліту перадаў Міхайла Паўлік.

У 1906 годзе ізноў выезд да Масквы-Пецярбургу ды на

Беларусь зь ясна азначанымі да выкананьня заданьнямі. Музэйнік (Іларыён Сьвянціцкі — Рэд.), гэтым разам сустрэўся з найвыдатнейшымі прадстаўнікамі тагачаснага беларускага адраджэньня, ды адначасна рыўся па запраўдных норах, дзе ўсялякія нашчадкі Гогалеўскага Плюшкіна звыклі складаць усе лахмоцьці ўмітусь з каштоўнымі скарбамі старасьвеччыны. Лахмоцьця ды людзкое патрэбшчыны давялося тады цімала перагарнуць, але скарбы павыбіраў ужо перад гэтым старшы "сьмяцюх" — музэйнік і губэрнскі кансэрватар з даручэньня С.-Пецярбургскай імпэратарскай Археалягічнай камісіі, вышэй успомнены Татур.

Сяліба ягоная за менскай электрычнай станцыяй, на краі места, пасярэднявечнаму абведзеная была высокім парканом ды частаколам. З вуліцы трэ было моцна стукаць кулакамі ды бразгаць клямкай, пакуль на страшны гаўкат сабакаў выходзіў прысадзісты, рудавы, з кароткаю мясістаю шыяй, з выразнымі скуламі чалавек — адным словам татарын. Гэта й быў сам гаспадар — Татур. Гаварыў толькі папольску, зразумела зь мясцовым "літоўска-беларускім" акцэнтам. Расейскіх чыноўнікаў, бацюшкаў, манахаў, ня любіў, ды моцна іх высьмейваў за тую дабрадушную даверлівасьць, зь якою яны перадавалі яму каштоўныя скарбы мінуўшчыны. Ён сам быў добрым псыхалёгам ды па вонкавым вобліку ўмеў чытаць у душы... Ня дзіва, што сабраць яму ўдалося сапраўды цімала.

Калі львоўскі музэйнік здаў у Татура трыдзённы экзамен цярплівасьці, некаторае веды справы ды парукі даверу, тады гаспадар стаў паказваць сваё дабро ды выхваляць бязь меры і цаніць паадзінокія рэчы. Вопіс гэтага дабра музэйнікам быў пасланы да Львова. Але да нейкае куплі немагчыма было дагаварыцца, бо Татур хацеў за ўсё рублёў ці ня 10.000, з чаго саступаў толькі 300 рублёў у выглядзе "парукавічнага". Давялося вярнуцца зь нічым.

Але ўжо ў годзе 1907 у Засноўніка музэю (мітрапаліта А.Шэптыцкага, — Рэд.), зьявіўся вучань ды памоцнік Татура, ведамы ўжо тады беларускі палітычны дзеяч, Іван Луцкевіч (1919 г. у Закапаным), ды даў нагоду набыць значную частку шаўковых слуцкіх паясоў, колькі партрэтаў, цімала актаў і антымінсаў, кажную рэч па сапраўды высокай рын-

ковай цане. Гэткім спосабам Татур праверыў пакупную сілу новага кліента і... памёр.

Напачатку 1908 году давялося яшчэ раз ехаць шляхамі, на якіх што хвіліну здараліся нейкія экспрапрыяцыі, ды пабываць на малой, засыпанай сьнегам, станцыі — з сумай 20.000 каронаў. Успамінаць пра тое навет сяньня ня лёгка, як лёгка можна было трапіць у цяжкую каламуту... Згодна з тэлеграмай, музэйнік заехаў на Багаяўленскую вуліцу да Івана Луцкевіча, ды ад яго "дзеля шпікоў", у гасьцініцу. На супольнай вячэры памоцнік адваката, знавец лясных справаў, прускі немец, пасуліў купіць для музэю амафор 1759 году Льва Шэптыцкага, увесь у пэрлах. Самое рэчы ня можна было бачыць раней нашага выезду зь Менску да Вільні, а дамоўленую цану куплі — 1000 рублёў — трэба было ўплаціць з Львова.

Татуровае дабро перададзенае магло быць "украдкам ад шпікоў", якія тады сачылі дзейнасьць "Беларускай сацыялістычнай Грамады", што гэтым часам "ведала ўсім маёнткам Татура". Назаўтра раніцай, у люты мароз, у прысутнасьці двух гарадавых, былі адчыненыя апячатаваныя дзьверы да збораў Татура. Кніжак і партрэтаў ужо ня было, засталася адна беларуская царкоўшчына, якую склалі ў вялікую скрыню ды меншую пляцёнку. За ўсё гэта трэба было аддаць усе тысячы прывезеных каронаў, за вымену якіх на рублі ў банку ўзялі правізіі круглых 500 каронаў, пра нейкую уступку не хацелі навет і слухаць. Скрыні былі заладаваныя на хутні цягнік, што ішоў да Вільні, "каб ашукаць шпікоў". Назаўтра раніцай у Вільню быў дастаўлены сапраўды цудоўны амафор Шэптыцкіх і, пасьля паказу сьціплых збораў, памятак часу паўстаньня 1831 году, тады ў "Польскім Навуковым Таварыстве", музэйніку было дазволена выехаць за межы.

Прывезеныя зборы Татура сталі ў спраўднасьці стрыжнём беларускага аддзелу, стварэньня якога ў Музэі дабівалася "Беларуская Грамада", што ня мела змогі арганізаваць свой нацыянальны музэй у Расеі. З часам гэты аддзел узбагаціўся дасканальным матарыялам актаў і старадрукаў Скарыны й Мамонічаў, ды даволі прыгожым падборам узораў беларускага народнага мастацтва. За ўсе вось гэтыя рэдкасьці давялося плаціць вялікія грошы, але параўнальна

шмат менш, як было заплачана за зборы Татура. Звычайна плацілася часткамі, у розныя часы валютных зьменаў. Прыкладам, маскоўскі рахунак 1913 году за 12 кнігаў Біблії Скарыны, да заплаты быў прадстаўлены толькі ў кастрычніку 1917 году ў Кіеве.

Запісы (Нью-Йорк). 1974. Кн. 12. С. 56—58.

РАМУАЛЬДАС САМАВІЧУС

## БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ

Стварэнне і дзейнасць беларускага музея ў Вільнюсе цесна звязаны з імёнамі братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Іван Луцкевіч (1881—1919), палітык і археолаг, паходзіць са шляхты ВКЛ, у 1904 г. скончыў Пецярбургскі археалагічны інстытут, удасканальваўся ў Вене. У час першай сусветнай вайны планаваў адрадзіць ВКЛ, у 1915 г. у Вільнюсе стварыў канфедэрацыю ВКЛ. У лістападзе 1918 г. быў членам Літоўскай тарыбы. Разам з братам актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці створанага ў 1918 г. Беларускага навуковага таварыства. Сабраныя імі экспанаты паклалі пачатак Беларускаму музею. Пасля смерці І.Луцкевіча музей быў названы яго імем. Музеем, яго бібліятэкай і архівам загадваў А.Луцкевіч, які ў 1923—1939 гг. быў адначасова і старшынёй рады Беларускага навуковага таварыства. На правах секцыі пры Таварыстве дзейнічала ўправа музея, у якой, апрача А.Луцкевіча, бібліятэкарам працаваў У.Самойла, скарбнікам — А.Няканда-Трэпка. Падчас польскай акупацыі музей размяшчаўся па Астрабрамскай N 7, займаючы шэсць пакояў. У музеі былі экспанаты гістарычныя, археалагічныя, нумізматычныя, царкоўнага мастацтва, свецкага жывапісу, сфрагістыкі, этнаграфіі. У археалагічным аддзеле захоўваліся знаходкі з рэгіёнаў усходняй Літвы, Беларусі, сабраныя І.Луцкевічам, Я.Тышкевічам. У музеі было сканцэнтравана звыш 100 пячатак, дакументаў XIУ—XУП стст., рукапісаў. У бібліятэцы пры музеі захоўвалася больш за дзесяць тысяч кніг. Пра музей не забывала грамадскасць. У 1938 г. тут

былі 113 экскурсій, 5285 чалавек. Калі ў 1939 г. бальшавікі занялі Вільнюс, загадчык музея А.Луцкевіч быў схоплены і сасланы. Пазней, калі Вільнюс быў вернуты Літве, пісьмовым загадам намесніка наркама асветы Е.Жугжды ад 4.12.1940 г. была створана камісія па перадачы каштоўнасцей былога Беларускага навуковага таварыства. Музей быў прыняты 20.12.1940 г. Інстытутам літуаністыкі. Былі перададзены інвентарызаваныя каштоўнасці: калекцыя пярсцёнкаў — 22 адз., крыжоў і абразоў — 37, пячатак — 109, археалагічных помнікаў — 212, мэблі, прадметаў хатняга ўжытку — 34, скульптур — 92, гравюр — 89, посуду — 89, жывапісных палотнаў — 173, зброі — 122, кафлі і цэглы — 435, адзення, тканін — 126. Бібліятэчных кніг — 4576, старажытных рукапісаў — 102, старадрукаў — 502. З яшчэ неінвентарызаваных скарбаў перададзены: манет, медаляў — 2 скрыні, старых альбомаў — 13 папак, графікі, малюнкаў, фатаграфій — 12 папак; карты, альбом з мастацкага музея Аляксандра ІІІ; цынкаграфічных клішэ — 1200, пячатак — 36, тканін — 25, рукапісы беларускіх паэтаў — 35 папак, 1 скрыня старажытных рукапісаў. Захоўваць музейны скарб было даручана супрацоўніку Інстытута літуаністыкі Мар'яну Пецюкевічу. Калі на базе Інстытута літуаністыкі была створана АН ЛітССР (16.01.1941), музей перайшоў у яе распараджэнне.

У інвентарызацыйным спісе, зробленым у лютым 1941 г., значыліся археалагічныя прадметы з эпох каменя, бронзы, жалеза — 212 коштам звыш 50 тыс. рублёў, народнага мастацтва (скульптуры) — 92 коштам звыш 40 тыс. рублёў, прадметы фальклора — 90, жывапісу — 185, адзення — 138, аздобы — 60, пярсцёнкі — 22, металічныя крыжы, абразы — 37, гравюры — 89, посуд — 89, кафля, цэгла — 435, мэбля і прадметы хатняга ўжытку — 34. Усяго коштам звыш 109700 руб. У бібліятэцы было 6870 тамоў кніг.

У фінансавым каштарысе на 1941 г. для музея прадугледжвалася выдзеліць 380 тыс. руб., а на 1942 г. — 59500 руб. Аднак, відаць, гэта не было зроблена.

З сакавіка 1941 г. рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта П.Савіцкі ў лісце да Ю.Палецкіса звярнуў увагу

на нездавальняючы стан музея. Былі спробы выселіць музей з яго памяшканняў, перавезці ў Мінск. У маі 1941 г. АН БССР звярнулася да кіраўніцтва АН ЛітССР, дамагаючыся набыць музейныя каштоўнасці, прапаноўваючы ўзамен літоўскія экспанаты. Гэтаму запярэчыў дырэктар Інстытута гісторыі К.Яблонскіс.

Паводле пададзеных звестак ваеннага часу (1941 года), у музеі было 13450 экспанатаў. З іх гістарычна-побытавых — 2000, мастацкіх — 2000, археалагічных — 250, этнаграфічных — 200, нумізматычных — 3000, паліграфічных — 6000. Экспанавалася з іх 2350. Бібліятэка налічвала каля 15 тыс. кніг. За год музей наведала 521 чалавек: 130 самастойна, 391 у складзе экскурсій, наладжаны тры выставы. Загадчыкам музея працаваў Я.Шутовіч, музеязнаўцамі - П.Сергіевіч, У.Дрэма. У лютым 1942 г. музей з Акадэміі навук Літвы быў пераведзены ў падпарадкаванне управы па адукацыі. Загадчык музея прасіў павялічыць колькасць супрацоўнікаў, павысіць зарплату. Вайна не абмінула музей. Ён быў выкінуты з памяшканняў, згубіў 10 прац. экспанатаў. Прамыя страты дасягнулі 180 тыс. рублёў. І ўсё ж большасць экспанатаў удалося зберагчы. Захаваліся археалагічныя знаходкі з рэгіёнаў Мінска, Гомеля, Наваградка, Бабруйска, Баранавічаў. З побытавых экспанатаў — слуцкія паясы, разьбярства народных мастакоў. Сярод кніг — творы беларускіх пісьменнікаў, рукапіснае Евангелле XIУ стагоддзя, выдадзеная Ф.Скарынам у 1517 г. Біблія, каляндар І.Фёдарава і П.Мсціслаўца 1564 г., рукапісы Я.Купалы, Я.Коласа, багатая калекцыя старажытных пячатак: гербовыя для манаскіх ордэнаў полацкіх князёў Усяслава (XI ст.), Барыса (XII ст.), пячаткі кравецкага цэха часоў С.Баторыя.

Пасля вайны, у 1945 г., музей быў ліквідаваны. Частку экспанатаў перадалі БССР, іншыя захоўваюцца ў фондах музея гісторыі і этнаграфіі.

Voruta. 1993. Bal. 29 — geg.
5. P. 3. Пераклад з
літоўскай Янкі Войніча

# ГАЛОЎНАЯ ЧАСТКА АРХІВА БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ ХХ СТ. ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ВІЛЬНЮСЕ

Вядома, што старажытная Вільня заўжды была сталіцай і беларусаў — пераважнага этнасу ў ВКЛ. Менавіта тут знаходзіліся ўсе асноўныя цэнтры яго культуры — беларускія музеі, навуковыя таварыствы, архівы, бібліятэкі, гімназіі, семінарыі, розныя саюзы і рады, партыі, рэдакцыі газет і часопісаў, тэатральныя і музычныя гурткі і г.д.

Беларускія архівы, што знаходзяцца цяпер у Вільнюсе, з'яўляюцца нашай нацыянальнай спадчынай.

Ніжэй мы падаем пералік архіўных дакументаў Беларускага музея, забраных НКВД пры ЛССР 15/16.УШ 1944 г. (ЦНБ АН Літвы, аддзел рукапісаў, F. 21, л. 16—240 б), апублікаваны Юрыем Лабынцавым.

Гэтых дакументаў у Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы няма. Іх яшчэ трэба шукаць. Частка іх (тыя, што датычацца палітычных спраў) была перавезена ў Мінск і сёння знаходзіцца ў Дзяржаўным архіве РБ і БДАМЛіМ.

ЮРЫ ЛАБЫНЦАЎ

*Архівы беларускага музэю ў Вільні, забраныя НКВД пры ЛССР 15/16.VIII 1944 г.*

Скрынка N 17

1. Архіў Бел. Народ. Рэспуб. (пачкі 1, 2, 3, 4, 7).

Скрынка N 18

1. Архіў Бел. Народ. Рэспуб. (пачкі 5 і 6)
2. Архіў Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве (пачкі 1 і 2)

Скрынка N 19

1. Архіў Белар. Раб.-Сял. Грамады (п. 1, 2, 3)
2. Архіў выбараў у Польскі сойм 1922 г. (п. 1, 2)
3. Архіў кнігарні "Пагоня" (1 п.)

Скрынка N 20
1. Архіў Слуцкага Паўстаньня (1 п.)
2. Белар. Пасольскі Клюб пры Польскім Сойме (1 п.)

[л. 16 об.]
3. Арх. "Straz Kresowa" Вілен. Акругі (п. 1, 2, 3)
4. Белар. Зьезд у Горадні 1918 г. (1 п.)
5. Бел. Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны (1 п.)
6. Бел. Камітэт у Варшаве (1 п.)
7. Бел. Цэнтр у Літве (1 п.)
8. Бел. Школьнае Т-ва ў Літве (1 п.)

Скрынка N 21
1. Архіў Т-ва Белар. Школы (пачкі 1—5)

Скрынка N 22
1. Архіў т-ва Белар. Школы (пачкі 6—10)

Скрынка N 23 /па адной пачцы, большы лік іх зазначаны (у дужках)/
1. Белар. Цэнтр. Школьная Рада (п. 1, 2, 3)
2. Віленская Белар. Гімназія.
3. Бел. Вуч. Сэмінарыя ў Барунах
4. Бел. Вуч. Курсы 1918—1919 г.
5. Бел. Школьніцтва ў Сярэдняй Літве
6. Бел. Школьніцтва ў Горадзеншчыне
7. Бел. Школьная Рада Ашмяншчыны
8. Бел. Цэнтр: Вучыцельскі Саюз 1919 г.
9. Бел. Вуч. Сэмінарыя ў Вільні
10. Бел. Гімназія ў Навагродку і Музей
11. Бел. Гімназія ў Горадні
12. Бел. Гімназія ў Радашковічах
13. Бел. Скауты ў Вільні

[л. 17]
14. Белар. Народ. Творчасьць
15. Белар. Арганізацыі ў Літве
16. Белар. Рада ў Вільні

Скрынка N 24 (як пры N 23)
1. Архіў Бел. Інст. Гасп. і Культуры (1—2)
2. Бел. Нав. Т-ва і Музей у Вільні
3. Бел. Нацыянальны К-т у Вільні (1—2)
4. Бел. Клюб у Вільні
5. Бел. Нац. Рада
6. Бел.Землячэства ў Пецярбурзе і Бел.Студэнцкая Каса
7. Бел. Цэнтр. Саюз Нац. Арганізац.
8. Бел. Народнае Аб'еднаньне
9. Камітэт Нац. Меншасьцяў у Польшчы
10. Камітэт Прыгнечаных нацыяналь. Расеі

Скрынка N 25 (паясьненьне, як пры N 23)
1. Навуковае Т-ва імя Фр.Скарыны
2. Працэс 45 беларусаў у Беластоку
3. Камуністычная Пасольская Фракцыя
4. К.П.З.Б.
5. "T-wo Bialorusinow stojacych na gruncie panstwowosci Polski" у Горадні
6. Канфэрэнцыя Белар. Народнай Партыі
7. "Зялены Дуб" — Белар. Сялян. Партыя
8. Польская дэфэнзыва аб беларускім палітычным руху

[л. 17 об.]
9. Адозвы белар. эс-эраў
10. Прамова П.Дятлы на судзе 1928 г.
11. Артыкулы і матар. аб Беларусі
12. Белар. Цэнтрасаюз
13. Белар. Хрысьц. Дэмакрацыя ў Вільні
14. Белар. Сацыял-Дэмакр. Партыя
15. Белар. Нац. Камітэт у Горадні
16. Белар. Т-ва "Культура" у Аргентыне
17. Белар. Фонд у Празе
18. Белар. Рада ў Празе
19. Белар. Рух у Чэхаславацыі
20. Белар. Нац.-Паліт. нарада ў Празе
21. Белар. "Сокал" у Празе
22. Белар. Архіў у Чэхаславакіі
23. Т-ва "Scorinia"
24. Т-ва Прыяцеляў. Беларусаведы пры У.С.Б. у Вільні

25. Палітычныя суадносіны ў Зах. Беларусі
26. Камітэт збудаваньня помніка на магіле П.Крэчэўскага
27. Камітэт помачы Зах. Белар. у Канадзе
28. Расейскі Нац. к-т у Вільні
29. Магілеўскі Белар. К-т
30. Магістрат м. Ашмяны
31. "Pod znakiem Pogoni" (2)
32. "Kolo Mlodziezy Wiejskiej)
33. Прамова для Прэзыдэнта Польшчы — прывітаньне ў Наваградку

[л. 18]
34. Аб'еднаньне Белар. студ. Арганізацыяў (2)
35. Аб'еднаньне Белар. Паступовых студэнтаў у Празе
36. Міністэрства Замеж. Спраў у Польшчы
37. "Сярэдняя Літва"
38. Прадуктовыя Картачкі ў Вільні (1916 г.?)
39. Уставы Беларускіх Арганізацыяў
40. Всерасейскае Демократ. Совещаніе
41. Канферэнцыя Белар. Студэнтаў у Празе
42. Стыпендыі Белар. Студэнтам Чэска-Украінскага К-ту ў Празе
43. Бел. к-т Помачы ахвярам вайны ў Пецярб.
44. Бел. Дабрадзейнае Т-ва
45. Бел. Т-ва Чырвонага Крыжа, 1921—22 г.
46. Бел. Нацыянальны Камісарыят
47. Бел. Касьцельны К-т у Вільні
48. Бел. Правасл. Царква ў Вільні 1920—23 г.
49. Бел. Сьвята-Троіцкае Правасл. Т-ва ў Вільні
50. Віленскія Меставыя справы
51. Вілен. міліцыя 1918 г.
52. Вілен. Народны універсітэт
53. "Vilniaus Universteto Statutas"
54. Літаўцы ў Сав. Беларусі (артыкул)
55. Lietuvos Taryba
56. Літоўскае Т-ва "Rytas"
57. Літоўскія Справы
58. Літ. Эпархіяльны Савет у Вільні 1919 г.
59. Жыдоўскія Справы ў Вільні

[л. 18 об.]
60. Б.С.С.Р. Народ. Комис. Земледелія
61. Бюлетень Внутренней информации
62. Саюз Лёкатараў м. Вільні
63. Мемарыял Віленскіх Літвіноў да прэзыдэнта Польшчы
64. Польска-рас.-літ. справы ў Вільні 1917—18 г.
65. Эвангеліцкія мэтрыкі
66. Царкоўныя справы (2)
67. Збурэньне правасл. каплічкі ў Маладэчне 1938 г.
68. Правасл. Дух. Сэмінарыя ў Вільні
69. Могліцы ім. сьв. Эўфрасіньні ў Вільні
70. Летапіс Вілен. Сьв-Троіцкага Манастыра ад 1886 г.
71. Рапарты НКВД у Вільні 1940 г.
72. Віленска-Ковенскі Грамадзянскі Камітэт (W-K.K.O)
73. Пратакол сабраньня ксяндзоў у Германовічах 1918 г.
74. Бел.-Літ. Каталіцкі К-т у Вільні
75. Менскі Батанічны Сад
76. Белар. Школьная Справа ў 1942 г.
77. Белар. Партызаны "Хмараўцы"
78. Белар. Драматычная майстроўня
79. Беларусы ў Латвіі
80. Вілен. Меставая Дума ў 1915 г.
81. Вілен. Ваенна-Рэвал. Камітэт у 1919 г.
82. "Wilenskie T-wo Popierania Kooperacji"
83. Прадпрыемствы ў Менску ў 1941 г.
84. Anton Trepka — Fizyka

[л. 19]
85. "Zwiazek Niezalez. Mlodziezy Socyjalistycznej" пры У.С.Б.
86. "Okregowy Zwiazek Kolek Rolniczych"
87. Выпадкі ў весцы Галаўлі Слон. пав. у 1921 г.
88. Польская паліцыя ў Юрацішках 1921 г.
89. Камітэт 1940 г.
90. Камітэт помачы галодным яўрэям Украіны і Расеі
91. Кватэрная ўмова А.Грыневіч — А.Дубіцкі
92. Канфлікт Трэпка — Багдановіч
93. Канфлікт Дубейкоўскі — А.Луцкевіч

94. Устав Минского о-ва Науки, Литературы и Искусства
95. Партыйныя білеты П.П.С.
96. Данесеньні І.Ленскага 1792 г.
97. Тэлеграма ў Лігу Нацыяў ад Пракулевіча
98. Баранавіцкі Эпідэм. Шпіталь у 1921 г.
99. Архіўная рэформа "Сев.-Зап. края"
100. Стараста Ашмянскі
101. Саюз Белар. Лекароў у Вільні
102. БССР. Наркомзем. — Борьба с луговым мотыльком
103. Анкета по нац. вопросу 1912 г.
104. Основы времен. Констит. Литов. г-ва
105. 1863 год
106. Рукапісы і друкі 18 стаг. (РК. 78)
107. Попечитель Вилен. Учеб. Округа

[л. 19 об.]
108. "Muzeum Narodowe w Krakowie" 1934 г.
109. Zwiazek Muzeum w Polsce
110. Пісьмы савецкіх грамадзян (1939—41 г.?)
111.
112. Chlopska delegacia z Polski do ZSRR 1929 г.
113. "Дзень Беларускай Культуры" у Вільні
114. "Голас Ніза" 1911 г.
115. "Вестник Знанія" у Вільні ў 1912 г.
116. "Известия Временного Раб.-Крестьян. Совет. Правит. Белоруссии" 1919 г.
117. Керэнскі да Родзянкі
118. Zycie organizacyine bialorus. w Polsce
119. Дэкляр. паслоў Баліна і Шакуна 1924 г.
120. Магілеў. Меставая Дума
121. Правасл. Эпарх. Рада у Вільні
122. Зьезд ("Белорусских Деятелей")
123. Klub Narodowy Studentow USB
124. Зьезд белар. сацыял-рэвалюц. у 1924 г.
125. Гурток Беларускае Моладзі

<u>Скрынка N 26</u> (паясьненьні, як пры N 23)
1. Белар. К-т помачы ахвярам вайны ў Вільні
2. Белар. Прытулак для дзяцей у Вільні

3. Белар. Народная страўня у Вільні ў 1918 г.
4. Белар. Музычна-Драмат. Гурток у Вільні

[л. 20]
5. Белар. Спартовы сэктар "Darbo Sportas" (2)
6. Белар. Радыё ў Вільні 1941—43
7. Рэдакцыя "Homan" (2)
8. Рэдакцыя "Крывіч"
9. Рэдакцыя "Наперад" (2)
10. Рэдакцыя "Народная Справа" (2)
11. Рэдакцыя "Вячэрняя Газета"

*Агулам забрана НКВД 207*
*пачак, у каторых зьмешчана 177 справаў*

[л. 21]

*Архівы Беларускага музэю, забраныя НКВД*

Працяг

Скрынка N 27
Студэнцкі саюз (3 пачкі)

Скрынка N 28

1. Татур
2. Душэўскі К.
3. Раманаў
4. Цётка (асабістыя дакум.)
5. Пракулевіч
6. М.Шыла

Скрынка N 29

1. Ластоўскі В. (архіў)
2. Тарашкевіч Б. -"-
3. Смоліч А. -"-
4. Раманаў -"-
5. Дубейкоўскі А.-"-
6. "Сялянская справа"
7. "Беларуская Справа"
8. "Грам. Голас"
9. "Жыцьце Беларуса"
10. "Калосьсе"
11. "Самапомач"
12. "Прамень"
13. "Шлях Моладзі"
14. "Chrysc. Dumka"
15. "Камсамольская Праўда"
16. "Беларускі Летапіс"
17. "Wiadomosci Bialoruskie"
18. "Нашая Справа"

[л. 21 об.]

Скрынка N 30

1. А.Луцкевіч (4 пач.)
2. Студэнцкі Саюз (пачка N 1)
3. Балаховіч
4. Борык А.
5. Бядуля З.
6. Баран
7. Быліна Я.
8. Буйла К.
9. Бурбіс
10. Аўдзіевіч
11. Арол
12. Абуховіч
13. Аляксюк
14. Астроўскі Р.
15. Драздовіч Я.
16. Жаўрыд П. (ас. д.)
17. Татур з Менску (асоб. дак.)
18. Дзешко І.
19. Гадлеўскі В. (чатыры Эвангельлі)
20. Грынкевіч Ст. (пісьмы да кс. Талочкі)
21. Вяршынін (ка-рэсп.)
22. Грыневіч А. (ас. дак.)
23. Гурыновіч А. (літарат. рукапісы)
24. Гуцько М. (лісты да Самойлы ў справе паэмы "Паляшук")
25. Граніт
26. Дварчанін І.
27. Студэнцкі саюз (пачка дакум.)
28. Пісьмы белар. студэнтаў (праваслаўных) у рэд. "Бел. Звону" у справе архіяпіскапа Элеўфэрыя"
29. Уласаў А. (ас. д.)
30. Тарашк. Б. (пісьмы)
31. Талочка У. (пісьмы)
32. Трэпка А. (перапіска з Загорскай-Савітры)
33. Тэрэшчанка Кузьма (ас. д.)

[л. 22]

Скрынка N 30 (працяг)

34. Шырма Р.(Пісьмы)
35. Прушынскі А. (ас. д.)
36. Самойла У.
37. Шыпіла-Эпімах Б. (рэдакцыя мэма рыялу на 3-ю кан фэрэнцыю нацыяў 1916 г.)
38. Захарка (карэсп.)
39. Шчаглінскі С. (ас. д.)
40. Ядвігін Ш.
41. Станкевіч Ад.
42. Няслухоўская Ант. (ас. дак.)
43. Родзевіч А. (ас. д.)
44. Русак В. (ас. д.)
45. Сабалеўскі Юры
46. Іваноўскі В. (нататкі і асаб. д.)
47. Леўчык Г.
48. Мурашка Ю.
49. Масарык Т. — прэзыдэнт Чэхасла вакіі (артыкул аб ім)
50. Матач А. (рукапісы)
51. Хлебцэвіч У.
52. Гарун.
53. Грыб Т.
54. Краскоўскі І. (ас. д.)
55. Колас Як. — справа у Віленскай Судовай Палаце за нелегальны зьезд у Мікалаеўшчыне 9—10.УП.1916
56. Шафнагель (адозва да краевай інтэлігенцыі)
57. Леў Сапега (дак.)
58. Сакалова-Лекант
59. Станкевіч Ст. (ас. д.)
60. Станкевіч Ст. (кнігар. нататкі, рахункі)
61. Рак-Міхайлоўскі (ас. д.)
62. Славіч (пераклад Сусьвет. гісторыі)
63. Цьвікевіч А. (пісьмы-машынапісы)
64. "Наша Ніва"

[л. 22 об.]

65. "Народны звон"
66. "Наша Воля"
67. "Белар. Крыніца"
68. "Белар. Доля"
69. "Наш Голас"
70. "Голас Беларуса"
71. "Сын Беларуса"
72. "Змаганьне"
73. "Белар. Ніва"
74. "Белар. Доля"
75. "Сялян. Доля"
76. "Белар. Думка"
77. "Наша Праўда"
78. "Белар. Слова" (Горадня) — матар'ялы
79. "Сял. Ніва" (кніга падпісчыкаў)
80. "Наша Думка"
81. "Незал. Думка"
82. "Белар. Звон"
83. "Народны Звон"
84. "Маланка"
85. Чыжэўскі (літар. рукапісы)
86. Ш-е чытаньне (рукапісы)

Скрынка N 31

1. Аляхновіч Ф. — пасьмертная спадчына, матар'ялы
2. Ладноў Аўг. (асаб. дак.)
3. Андрушкевіч П. (асаб.-ваен. дак.)
4. Найдзюк Я. (судовыя справы)
5. Ольга Сталь (акт абвінавачаньня) (сялянка Слуцкага павету)
6. Кс. Ігн. Шопара (акт абвінавачаньня)
7. Дементьев М. (мэтрыка нарадзінаў)
8. Д-р Морэль (акт абвінав.).

[л. 23]

9. Клемантыновіч Дамінік (мэтрыка нарадз.)
10. Парук А. (ас. д.)
11. Каляда Ів. (легітымацыя, студ. зьезд у Чэхіі 1908 г.)
12. Хотэнько Ф. (испол. ліст Віл. суда)
13. Велічка А. (пашпарт)
14. Місун Мік. (пасьведчаньне)
15. Домейко Вацлаў (пратакол судовага пасяджэньня Вілен. пав.)
16. Дементьев М. (паслужны сьпісак)
17. Багушэвіч Ф. (мэтрыка)
18. Граф Тышкевіч (арх. матар'ялы)
19. Белар. Навук. т-ва (1, 2, 3 пачкі)
20. Рознае (1, 2 пачкі)

Скрынка N 32

1. Укр. Народ. Рэспубліка (пачкі 1, 2, 3, 4, 5)

Скрынка N 33

1. Кахановіч М.
2. "Наша Ніва" (пачкі 1, 2, 3, 4 і 5)
3. "Наша Хата" (2 папкі)
4. "Загляне сонца і ў наша ваконца" (2 папкі)
5. Т-ва "Мінчук"

[л. 23 об.]

6. Т-ва Беларускай Асьветы — Вільня
7. Т-ва "Беларусь"
8. Т-ва "Прасьвета"
9. Белар. Грамадзян. Сабраньне (Паўлюкевіч)
10. Вілен. спаж. Т-ва "Сноп"
11. Віленскі Саюз Кааператываў "Spolem"
12. Віленскі Саюз Кааператываў
13. Т-ва "Spoldzielca" (1924)
14. Т-ва "Аушра"
15. Белар. Банк у Вільні
16. Т-ва "Пчала" (2 папкі)
17. Т-ва Беларускай Асьветы (ТБА) — статут
18. Беларускае Каталіцкае Выдавец. Т-ва (кніга пратаколаў)
19. Я.Станкевіч (пахвальнае пісьмо)
20. Вілендзік Аляксей (асаб. д.)
21. Коопэрат. курсы "Самапомач"

Апрача таго:
Архіў Беларускага Банку ў Вільні (2 вазы)
Архіў Белар. Нав. Т-ва і разам канцылярскія акты Беларускага Музэю
Друкарня Фр. Скарыны ў Вільні
Беларускае Выдав. Т-ва — некалькі пачак

[л. 24]

Скрынка N 16

1. Крэчэўскі П. — пісьмы да французскага прэм'ера Эрыо

2. Луцкевіч Ів. — пісьмы прадсьмяротныя (з 18.УП. 1919 г.) да брата А.Луцкевіча
3. Віл. Рым.-Кат. Эпархія — пісьмы вілен. дзекану з 1909 г. і пісьмы дзеканам Вілен. Эпархіі з 1900 г.
4. Мітрап. Шэптыцкі — пісьмы да А.Луцкевіча
5. Кс. Гарасімовіч (пісьмы)
6. Чыж Вітальд (пісьмы)
7. Кс. Талочка (пісьмы ад яго і да яго)

[л. 24 об.]
8. Л.Абрамовіч — карэспандэнцыя
9. Кс.Кулак — тое ж
10. А.Луцкевіч
11. Розныя пісьмы розных гадоў

Ю.Лабынцаў. Архіў беларускага Адраджэння: (Дакум. помнікі беларус. царкоўнай і грамадз. гісторыі ў зборах Музея Івана Луцкевіча ў Вільні). Мн., 1993.

## КУБЭ ПАДЦВЕРДЗІЎ ФАКТ ВЫВАЗУ БЕЛАРУСКІХ МУЗЕЙНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ З МІНСКА Ў ГЕРМАНІЮ

*(Нават захопнікі высока ацэньвалі нашы каштоўнасці)*

Ніжэй падаецца змест ліста гаўляйтэра Беларусі Кубэ ад 29.9.1941 г. да рэйхсляйтэра Розэнберга (у перакладзе):

"Глубокоуважаемый член партии, рейхсляйтер Розенберг!

Сегодня я, наконец, после долгих поисков обнаружил остатки произведений искусства в Минске и смог обеспечить их сохранность. Минск имел большую, отчасти очень ценную, коллекцию картин и произведений искусства, которые почти все были вывезены из Минска. По приказу рейхсфюрера СС, рейхсляйтера Хайнриха Гиммлера, большинство картин, частично еще при исполнении мною своих служебных обязанностей, упакованы СС и отправлены в рейх. Речь идет при этом о миллионных ценностях, которых был ли-

шен генеральный округ Белоруссии. Картины якобы отправлены в Линц и Кенигсберг в Восточной Пруссии. Я прошу эти ценные коллекции, если таковые не нужны в рейхе, снова возвратить в распоряжение Генерального округа Белоруссии или же, на всякий случай, компенсировать министерству по занятым восточным областям материальную стоимость.

По данным майора 707-й дивизии, которой сегодня передал мне остатки ценностей, остальные картины и произведения искусства, в том числе ценнейшие картины и мебель 18 и 19 веков, вазы, предметы из мрамора, часы и т.д. оставлены на дальнейшее разграбление вермахту. Генерал Штубенраух ценную часть этих вещей из Минска увез с собой в оперативный тыл. Зондерфюреры, о которых мне пока еще не доложили, нагрузили (без квитанции) три грузовые автомашины мебелью, картинами и предметами искусства и увезли. Я прикажу установить номера этих частей, чтобы наказать виновных в совершенных ими грабежах. Из оставшихся культурных ценностей здешние учреждения вермахта и СС без моего согласия взяли еще ряд ценных предметов и картин, однако пока они еще находятся в Минске.

Я прошу направить сюда национал-социалиста, художника Вилли Шпрингера, проживающего в Берлине СВ 29, Хазенхайде, 94 для реставрации отчасти бессмысленно проколотых и порезанных штыками картин, чтобы под его надзором было спасено еще то, что можно спасти. К сожалению, многие ценные вазы, фарфор, шкафы и стильная мебель 18 века сильно повреждены или поломаны. В целом речь идет о невосполнимых ценностях в миллионы марок. В дальнейшем я прошу предпринять меры со стороны министерства восточных областей перед ответственными учреждениями вермахта, чтобы такого рода разграбления и разрушения были прекращены и чтобы виновники таковых подвергались строжайшему наказанию.

Исторический музей в Минске в совершенно запущенном состоянии. Отдел геологии разграблен, похищены драгоценнейшие благородные камни, самоцветы. В университете безрассудно поломаны или похищены инструменты стоимостью в сотни тысяч немецких марок. Возможно, следовало бы рекомендовать вам, глубокоуважаемый рейхсляйтер,

направить фюреру докладную. Итак уже само по себе бедной Белоруссии такими действиями причинен тяжелейший ущерб. Надеюсь, что в Ленинграде и Москве, а также в старых культурных заведениях Украины, прежде всего компетентные специалисты и знатоки, предпримут меры к предотвращению такого рода действий, иначе гражданское управление переживет такие же опустошения культурных ценностей, какие имели место здесь, в Минске.

Неман. 1993. N 5

ЮСІФ СІМАНОЎСКІ

## АБ ЗНІШЧЭННІ БІБЛІЯТЭК МІНСКА...

*Предварительные сведения директора Белорусской государственной библиотеки имени Ленина Чрезвычайной государственной комиссии о разграблении и уничтожении немецко-фашистскими захватчиками библиотек гор. Минска в период оккупации*

14 июля 1944 г.

С особым рвением фашистские оккупанты занимались уничтожением и разграблением культурных учреждений, ценностей и среди них — библиотек.

Государственная библиотека БССР имени Ленина — одна из крупнейших библиотек СССР — подверглась планомерному, систематическому разграблению. Из 2 млн. книг, имевшихся в библиотеке к началу войны, осталось лишь около 500 тыс. томов. Книги изымались целыми отделами и собраниями. Отбирались специально командированными для этого лицами. Подбирались по спискам, присылавшимся из Берлина, и вывозились в Берлин, Кенигсберг, Прагу, Будапешт, а также расхищались на месте отдельными учреждениями и лицами. Таким путем было целиком изъято из библиотеки ценнейшее собрание литературы, относящейся к Белоруссии и на белорусском языке, в количестве свыше 40 тыс. томов, в том числе собрание старопечатных белорусских изданий и среди них 7 книг Ф.Скорины, 1-е издание "Литовского

Статута" и т.д., коллекция рукописей, в том числе рукописи Янки Купалы, Якуба Коласа и др.

Изъят весь фонд обязательного экземпляра — полный комплект книжной продукции СССР, получаемой библиотекой с 1922 г.; весь газетный фонд, все журналы, начиная с 1900 г.; отделы технической литературы, медицинской; все наиболее ценные издания по искусству; издания классиков литературы и науки; справочные издания. Разрушены и разграблены специальные книжные собрания, входившие в состав Госбиблиотеки, как-то: библиотека академика Е.Ф.Карского — по белорусоведению и славянской филологии; Янчука — по белорусской литературе и этнографии; академика Грота — по славяноведению и т.д. Разгромлено уникальное собрание Колодаева [правильно: Колодеев — ред.] по истории Отечественной войны 1812 г.

Целиком вывезено одно из крупнейших в СССР собраний еврейской литературы (около 50 тыс. томов). Всего таким путем вывезено и расхищено около 1500 тыс. томов. Варварски уничтожено и расхищено все оборудование читальных залов и кабинетов. Построенное в 1929—1932 гг. специальное здание библиотеки в значительной части перепланировано.

Изъятие книг по Госбиблиотеке носило характер не только систематического ограбления ее в целях пополнения за [ее] счет германских библиотек, но производилось, очевидно, и со спекулятивными целями. Так, одними из первых были изъяты наиболее дорогие издания по искусству, справочные издания, в том числе и немецкие. Эти же издания расхищались и в индивидуальном порядке германскими офицерами и должностными лицами.

Разграбление Госбиблиотеки проводилось представителями местного генерального комиссариата и уполномоченными "штаба Розенберга". Непосредственными и главными исполнителями были шефы по культделам генерального комиссариата доктор Сивица, доктор А.Рахель, пом. последнего доктор Мюллер, командированный из Праги доктор Кох и др.

Кроме Государственной библиотеки полностью уничтожена библиотека Академии наук БССР с книжным фондом в 300 тыс. томов, также содержавшая ряд ценных книжных

собраний, как например, библиотеку Довнар-Запольского в 15 тыс. томов по истории и народному хозяйству, Дохкуровского — по торфу (5 тыс. томов) и т.д.

Сожжена Государственная научная медицинская библиотека с книжным фондом в 60 тыс. томов. Вывезена целиком городская центральная библиотека имени А.С.Пушкина (около 100 тыс. томов), уничтожены все остальные городские библиотеки.

Директор Госбиблиотеки
БССР имени Ленина
Симановский И.Б.

ЦГАОР СССР, ф. 7021, оп. 87, д. 125, л. 4, 5. Подлинник.
Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944. Мн. 1965. С. 194—195.

ВАЛЕРЫЙ ГЕРАСІМАЎ

# ШТО РАБІЦЬ? АБО ПРА ТОЕ, ДЗЕ АДКАЗ НА ПЫТАННЕ: КУДЫ ДЗЯВАЛАСЯ КНІЖНАЕ І РУКАПІСНАЕ БАГАЦЦЕ БЕЛАРУСАЎ?

”8 снежня 1851 года адбывалася, па Найвысачэйшаму загаду, ганаровае асвячэнне Імператарскай Публічнай Бібліятэкі, пасля скончаных у яе пераробак. А гадзіне дня, у прысутнасці Яго Імператарскай Высокасці Прынца Пятра Альдэнбургскага і іншых Ганаровых Сябраў і Карэспандэнтаў Бібліятэкі, а аднолькава ўсіх чыноў яе і асобна запрошаных Дзяржаўных Саноўнікаў, Вучоных, Літаратараў і іншых, здзейснена было, Прыдворным Духавенствам, у адной з галоўных зал набажэнства, з акрапленнем Святой вадой усяго будынка”. Па дадзенай інфармацыі ў ”Журнале Министерства Народного Просвещения” за студзень 1852 года дакладна відаць, што расейскае святарства і царская адміністрацыя добра ўсведамлялі значэнне дзяржаўнай кніжніцы і яе рарытэтаў. Ды вельмі часта зусім не святыя справы стаялі за спінамі саноўных расейцаў, а звычайнае рабаўніцтва гэтых рарытэтаў з многіх рэгіёнаў, у тым ліку з Беларусі. Адной рукой і святой вадой крапілі, і святатацтвавалі, бо рабаваць Кнігу — квінтэсенцыю духоўнай культуры

любой нацыі — найцяжэйшы грэх на зямлі. Кнігу Беларусі разрабавалі і расцягнулі за шмат вякоў — хто толькі, як толькі і куды толькі змог. Шведы, палякі, французы, немцы, украінцы. Але найбольш спрычыніліся тутака расейцы.

Пытанне гэтае заўсёды хвалявала беларусаў — рупліўцаў нацыянальнай нівы. Так, у газеце "Савецкая Беларусь" ад 15 сакавіка 1923 года за подпісам М.Мялешкі змешчаны агляд (загаловак якога і ўзяты мною для дадзенага артыкула) пасяджэння ў "Таварыстве гісторыі і старасветчыны". На ім А.Шлюбскім, вядомым этнографам, бібліёграфам і бібліяфілам, быў зроблены даклад на тэму "Зьніштажэньня бібліятэк і рукапісных гістарычных крыніц на Беларусі з XII ст. да нашага часу". Дакладчык выкарыстаў да "чатырохсот кніг і аўтараў... прадставіўшы перад слухачамі поўны малюнак зрабаваньня". Прывяду толькі невялікую частку агляду:

"...дакладчык пераходзе да агляду гібелі помнікаў ад някультурнасьці расейскага духавенства і чыноўніцтва. Не ўмеючы ацаніць вартасьць гэтых помнікаў, духавенства часта глядзела на ўсе старыя кнігі і рукапісныя сабраньні, як на непатрэбны хлам, і пры кожным падхадзячым выпадку старалася прадаць выпадковым асобам на вываз альбо зьнішчыць. Настаяцель аднаго манастыра на Вітабшчыне замест таго, каб па загаду перавясьці ў Вітабск старыя дакументы, два тыдні паліў імі сваю келью і, спаліўшы ўсё нашчэнт, з "облегченной совестью" данёс начальству, што ў яго манастыры ніякіх старадаўніх актаў няма. Ужо ў канцы XIX стагоддзя Смаленскі біскуп Пётра Другаў выкінуў вон, як непатрэбны хлам, усе старадрукаваныя кнігі, рукапісы і др. музэйныя рэчы. Калі ж "уладыка" даведаўся, што з Петраграду па гэтаму пытаньню прыехала рэвізія, ён растараўся хутка, яшчэ ня ўсё расьцягнутае, спаліць. І гэткія выпадкі на Беларусі спатыкаюцца на кожным кроку.

Ня лепей цанілі помнікі беларускай культуры царскія чыноўнікі. Так, у пачатку 80-х гадоў па распараджэньню Вітабскага губэрнатара было прададзена рыжскім гандлярам да трох тысяч пудоў беларускіх дакументаў XYI—XYII вв. (...).

Сыстэматычны вываз кніжных і рукапісных скарбаў Беларусі расейскімі царамі пачаўся яшчэ ў XYII в.

У канцы ХУШ в. з Беларусі была вывезена так званая "Літоўская метрыка", якая зьмяшчае гістарычныя першакрыніцы выключна да Беларусі з ХП да ХУП в. Перавёзшы ў Пецярбург, "Літоўскую метрыку" падзялілі паміж міністэрствам справядлівасці і замежных спраў, публічнай бібліатэкай Румянцаўскага музэю і Прусіяй (...).

Вялікая бібліятэка віленскага унівэрсітэту, зачыненая ў 1832 г., была падзелена паміж Харкаўскім і Кіеўскім універсітэтамі, Пецярбургскай публічнай бібліатэкай і Пецярбургскай археаграфічнай камісіяй. Тое самае здарылася і з вядомай бібліатэкай з Полацку, сабранай езуітамі, якая была падзелена паміж Пецярбургскай публічнай бібліатэкай, Пецярбургскім і Маскоўскім універсітэтам і бібліатэкай галоўнай управы зарубежныхвераў у Пецярбургу. У 1837 г. па загаду Мікалая І па ўсёй Беларусі з усіх месц і ўстаноў былі шчыльна сабраны ўсе старадаўнія беларускія акты і перададзены ў Пецярбургскую археаграфічную камісію. [Гл. у зб. артыкул Ул.Якубоўскага — рэд.].

Гэткая недарэчная дзяржаўная цэнтралізацыя ўтварыла і прыватныя імкненьні да цэнтраў Маскоўшчыны асоб, якія валадалі на Беларусі кніжнымі скарбамі. У 1912 г. перадана ў Маскву адзінковая ва ўсім сьвеце бібліатэка, сабраная Каладзеевымі (Нова-Барысаў), якая зьмяшчала літаральна ўсё, што дзе на сьвеце, ва ўсіх мовах, за сто год было надрукавана аб вайне 1812 году. Для нас, беларусаў, гэта сабраньне мела шмат аграмаднай вартасьці, бо дзеі 1812 г. адбываліся галоўным чынам на нашай зямлі.

На абшарах Заходняй Эўропы — у Варшаве, Холму, Львове, Галічы, Бельзу, Перамышлю, Парыжы, Бэрліне, у Познані і ў Швэцыі, усюды знаходзіцца расьцяганае беларускае культурнае дабро. З аднаго толькі Нясьвіжа, з Радзівілаўскага архіва, вывезена ў Бэрлін 589206 дакумэнтаў".

Знамянальна, што прафесар Пічэта, які прысутнічаў на пасяджэнні, адзначыў, што "віноўны шмат у несахраненьні помнікаў беларускай культуры тыя беларусы, якія, атрымаўшы самі навуку, лічылі не за гонарісьці служыць у бедную Беларусь і ня прымалі дзейнасьці ў заховываньні беларускіх скарбаў". Але дзе ж ты яго захаваеш, калі з былой Полацкай езуіцкай акадэміі не толькі бібліятэку вывозяць, а нават медзяны дах абдзіраюць і адпраўляюць у Пецярбург

на пабудову Ісакіеўскага сабора (Крывіч. 1923. N 2).

Ці вось яшчэ такія факты. На адным з пасяджэнняў Віленскай археалагічнай [правільна: археаграфічнай — рэд.] камісіі дакладавалася, што езуіты пасля знішчэння іх брацтва, займалі амаль усе духоўныя пасады ў нямецкіх калоніях паўднёвай Расіі, і праз іх мноства рэдкіх і каштоўных выданняў з Польшчы і Літвы было перакінута на берагі Волгі, а таксама, што большая частка бібліятэкі апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста падаравана імператарам Паўлам І Магілёўскаму праваслаўнаму епіскапу Анастасію (Братаноўскаму), які, стаўшы неўзабаве епіскапам Астраханскім, завяшчаў яе Астраханскай праваслаўнай семінарыі (Журн. Мин. Нар. Просв. 1858. Ч. ХСУП. Отд. УП. С. 159).

Шляхі рабавання, як бачым, розныя. Галоўнай жа яго прычынай у канцы ХУШ — пачатку ХХ стст. была адна — каланіялісцкая палітыка расейскага ўрада і царквы, заснаваная на сцягванні ў метраполію ўсіх больш-менш вартых культурных і духоўна-рэлігійных каштоўнасцей з так званых ускраін. Гэты працэс, лічыце, ніколі не перапыняўся, насіў, як той казаў, перманентны характар. Каб мець дакладнае ўяўленне, як ён ішоў, якія рэдкасці з Паўночна-Заходняга краю асядалі на кніжных паліцах С.-Пецярбурга амаль штогод, дастаткова прагледзець справаздачы Імператарскай публічнай бібліятэкі, што друкаваліся ў "Журн. Мин. Просв." (яго нумары за 1821, 1834—1917 гады захоўваюцца ва Урадавай бібліятэцы РБ). Тое самае выяўляецца і са "Звестак пра рукапісы, друкаваныя выданні і іншыя рэчы, што паступілі ў Рукапіснае аддзяленне Бібліятэкі Імператарскай Акадэміі Навук", якія друкаваліся ў "Известиях Императорской Академии Наук" (ва Урадавай бібліятэцы РБ ёсць камплекты за 1895—1917 гады). Да прыкладу, у нумарах 3—5 за 1905 год паведамляецца, што ў бібліятэку паступіў кнігазбор былога епіскапа Аланецкага Паўла (Дабрахотава). Прыведзены кароткі спіс сведчыць пра бясспрэчнае "заходнерускае" паходжанне большай часткі рукапісаў, грамат і старадрукаў, сярод якіх: "Катэхізм" Іясафата Кунцэвіча, грамата Пятра Магілы, сапраўдны акт Брэсцкага сабора 1591 г., 9 рукапісаў па гісторыі Жыровіцкага абраза Маці

Божай, выданні на лацінскай, польскай, царкоўнаславянскай, "заходнерускай" мовах адносна уніі і да т.п. Так і разышліся па свеце кнігазборы Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Храптовічаў і інш. Цікаўны чытач досыць поўны іх пералік можа знайсці ў працы В.Іконнікава "Вопыт рускай гістарыяграфіі" (Кіеў, 1891—1892), бібліяграфічным дапаможніку Л.Навіцкай "Бібліятэчная справа ў Беларусі (ХУІ ст. — 1917 г.)" (Мн., 1982), артыкуле А.Мальдзіса "Вярнуць законнаму ўладальніку" у "ЛіМе" за 6 сакавіка 1987 года.

Што рабіць? Сакраментальнае пытанне ў дадзеным выпадку мае на ўвазе два варыянты дзеянняў. Вядома, тое, што ў нас укралі зладзеі-дзяржавы і зладзеі-прыватныя асобы (ці "отдолжили поносить"), і крадзеж гэты можна даказаць, — трэба вяртаць. Вяртаць, ставячы праблему на дзяржаўным узроўні. Бо — ганьба! — нават поўнай калекцыі Скарынавых выданняў на Беларусі няма. Іншы падыход мае быць, калі трапілі нашы кніжкі за мяжу законным, так бы мовіць, шляхам і сталі неад'емнай часткай культуры іншых дзяржаў. Але ж вывучаць іх ніхто не забараняе, уключаць у нацыянальныя бібліяграфічныя даведнікі і ствараць зводныя каталогі асобных калекцый таксама. Сказанае тычыцца, напрыклад, бібліятэкі Сімяона Полацкага, якая разам з гаспадаром трапіла ў сярэдзіне ХУП ст. у Маскву, пасля смерці перайшла да Сільвестра Мядзведзева і якой, па сведчанню кнігазнаўца Ю.Лабынцава, "не было роўных сярод дзяржаўных і манастырскіх кнігасховаў Маскоўскай дзяржавы". (Зараз яна раскідана па архівах, музеях і бібліятэках Масквы).

На заканчэнне хачу адзначыць, што высветліць, куды падзелася кніжнае багацце беларусаў, зрабіць усё магчымае і немагчымае, каб вярнуць яго Бацькаўшчыне, — першачарговыя задачы кніжнікаў рэспублікі. Іх выкананне стане канкрэтным укладам у скарбонку нацыянальнага адраджэння.

Ажыццявіма гэта, бясспрэчна, толькі ў варунках незалежнай Беларускай дзяржавы.

Беларусь. 1992. N 2. С. 18

# У. ПЕРАПІСКА І КАМЕНТАРЫІ ДА ЯЕ

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Камісія "Вяртанне" пры БФК уводзіць у Зборнік новы раздзел — "Перапіска і каментарыі да яе", дзе будуць друкавацца розныя прапановы як даследчыкаў культурнай і навуковай спадчыны Беларусі, так і асобных чытачоў, якія зацікаўлены ў вяртанні нашай страчанай спадчыны. Камісія будзе прыкладаць намаганні, каб вяртаць на Радзіму не толькі творы мастацтва, кнігі, рукапісы і архівы, але таксама і помнікі гісторыі навукі, матэрыяльнай культуры.

Ніжэй прыводзім ліст дырэктара Інстытута эксперыментальнай батанікі імя В.Купрэвіча Акадэміі навук РБ акадэміка В.Парфёнава і навуковага супрацоўніка Д.Траццякова да старшыні Камісіі "Вяртанне" пры БФК А.Мальдзіса, дзе прапануецца лічыць батанічную калекцыю-гербарый з раслін Беларусі, сабраных Жанам Эмануэлем Жыліберам, нацыянальнай каштоўнасцю Беларусі. Ён сусветна вядомы французскі вучоны-батанік, які працаваў у ХУШ ст. у Гродне (стварыў там "Каралеўскі батанічны сад", сабраў мясцовы зельнік, выдаў тры кнігі пра флору Беларусі і інш.).

Адначасова навукоўцы Інстытута просяць зрабіць захады аб вяртанні ў Беларусь гэтай калекцыі, якая цяпер знаходзіцца ў Інстытуце батанікі Украіны.

Зацікаўленасць да навуковай спадчыны Ж.Э.Жылібера выказваюць і польскія даследчыкі. Таму пасля ліста акадэміка В.Парфёнава мы перадрукоўваем артыкул П.Дашкевіча, які прапануе ўсім народам былой Рэчы Паспалітай прыкласці намаганні ў пошуках і выратаванні навуковай спадчыны Ж.Э.Жылібера.

## АБ ВЯРТАННІ НАВУКОВАЙ КАЛЕКЦЫІ

Паважаны старшыня, паважаныя члены камісіі!

Просім Вас разгледзець пытанне аб вяртанні найкаштоўнейшай навуковай калекцыі — гербарыя Жылібера, якая (каля 4000 адзінак) зараз знаходзіцца ў Інстытуце батанікі імя М.Р.Халоднага АН Украіны ў г. Кіеве.

Некалькі слоў да гісторыі гэтай калекцыі. У 1775 г. у Гародню па запрашэнню падскарбія Вялікага княства Літоўскага Антонія Тызенгаўза прыязджае вядомы французскі вучоны Эмануіл Жылібер. Тут ён у вельмі кароткі час стварае "Каралеўскі батанічны сад", збірае ў наваколлях Гародні, Бярэсця, Беластока, Варшавы, Нясвіжа, Наваградка, Шчорсаў, Вільні, Трокаў, Вішнева вялікі Зельнік (гербарый). Жылібер хутка папаўняе гарадзенскую калекцыю, купляючы шмат кніг, вялікай каштоўнасці гербарый Гуана (нам невядома, дзе гэты гербарый цяпер знаходзіцца).

У 1781 г. Каралеўская школа Жылібера пераводзіцца ў Вільню, разам з ёй пераязджае сам Жылібер і перавозіць усе сабраныя ім калекцыі (жывыя расліны з батанічнага сада, вялікі гербарый, бібліятэку, якая налічвала ўжо 3000 тамоў, калекцыю мінералаў — 10000 шт.).

У Гародні і Вільні Жылiберам былі надрукаваны першыя навуковыя працы па флоры нашага краю (тагачаснай Літвы): Flora Lithuanica inchoata seu Enumeratio plantarum, quas circa Grodnam, collegit et determinavit J.E.Gilibert. Collectio 1, Grodnae, 1781, Coll. 2—3, Grodnae, 1781; Coll. 4—5, Vilnae 1782.

У 1783 г. Жылібер пакідае Літву і ад'язджае ў Францыю. У Вільні ён пакідае шмат калекцый (бібліятэку, гербарый, батанічны сад і інш.). Значна пазней, пасля закрыцця Медыка-хірургічнай акадэміі ў Вільні 6 лютага 1841 г. гербарый Жылібера перавозіцца ва універсітэт святога Уладзіміра ў Кіеў. Крыху пазней (год нам невядомы) гэты гербарый быў перададзены ў Інстытут батанікі АН Украіны, дзе і зараз знаходзіцца.

Большая частка кніг з бібліятэкі Жылібера знаходзіцца ў Вільні.

Зараз у Беларусі ні ў адной з бібліятэк няма старадрукаў тых часоў (маецца на ўвазе літаратура па батаніцы).

Як нам стала вядома, з боку супрацоўнікаў Інстытута батанікі сучаснай Літвы было шмат захадаў, пачынаючы з 70-х гадоў, да адміністрацыі Інстытута батанікі Украіны аб перадачы гербарыя Жылібера ў Літву.

Прыведзеныя факты сведчаць, што ёсць падстава лічыць усю калекцыю Жылібера (гербарый, бібліятэка) нацыянальнай каштоўнасцю, якая павінна захоўвацца на сваёй Радзіме, у Беларусі.

Дырэктар Інстытута
акадэмік АН РБ В.Парфёнаў

Навуковы супрацоўнік,
к. б. н. Дз.Траццякоў
29 снежня 1993 г.

ПЁТР ДАШКЕВІЧ

## АБ ПОШУКАХ І ВЫРАТАВАННІ СПАДЧЫНЫ Ж.Э.ЖЫЛІБЕРА

Выратаванне культурнай спадчыны Першай Рэчы Паспалітай — адна з найважнейшых задач польскай культурнай палітыкі. Зразумела, што на гэтую спадчыну могуць прад'яўляць правы не толькі Польшча, але таксама Украіна, Беларусь і Літва, — як паўнапраўныя спадкаемцы старажытнай Рэчы Паспалітай. Зразумела таксама, што польскія ўлады павінны прыкласці ўсе намаганні, каб адшукаць, узяць на ўлік і дамагчыся вяртання твораў мастацтва і гістарычных дакументаў, разрабаваных Савецкай Расіяй або Трэцім Рэйхам. У выпадку, калі гэтыя прадметы знаходзяцца на тэрыторыі адной з краін спадкаемцы Рэчы Паспалітай, пажадана, каб Польшча дапамагла адшукаць іх і, зважаючы на цяжкае

матэрыяльные становішча гэтых дзяржаў дапамагчы ў рэстаўрацыі аб'ектаў, што з'яўляюцца часткай польскай культуры і традыцыі.

У асабліва далікатнай сітуацыі знаходзяцца помнікі, звязаныя з гісторыяй навукі. Таксама, як служачыя дзяржаўных устаноў, так і людзі добрай волі, што займаюцца польскай культурнай спадчынай на Усходзе, звычайна па прафесіі гісторыкі, мастакі, гісторыкі мастацтва. Часта помнікі, якія маюць велізарнае значэнне для гісторыі навукі, вартасць для іх уяўляюць выключна толькі як прадметы, друкі або манускрыпты, што паходзяць з дадзенай эпохі. Да таго ж яшчэ нядаўна ў Польшчы не было ніводнай спецыялізаванай даследчай установы, напрыклад, па гісторыі батанікі. Не ведаю, урэшце, ці ўтворана такая ўстанова згодна з прапановамі некаторых супрацоўнікаў у Польскай Акадэміі навук. Нарэшце, усё больш старэе і ўсё больш скарачаецца па колькасці пакаленне прыродазнаўцаў, выхаванцаў універсітэта імя Стафана Баторыя ў Вільні і універсітэта імя Яна Казіміра ў Львове.

Помнікі, звязаныя з жыццём Жана Эмануіла Жылібера, у многіх адносінах маюць асаблівае значэнне для гісторыі сярэднееўрапейскай навукі. Жылібер, прыбыўшы ў Вялікае княства, прывёз з сабой багатыя зельнікі, бібліятэку і 300 медзярытаў, падрыхтаваных П'ерам дэ Белевелем /1564—1632/. З гэтымі медзярытамі звязана цікавая гісторыя. П'ер Рыхер дэ Белевель пачынаючы з 1593 г. выкладаў батаніку ва універсітэце Монпелье. Ён заснаваў у гэтым горадзе на ўзор італьянскага парка першы батанічны сад. Белевель падрыхтаваў таксама /што было навіной для той эпохі/ 500 медзярытаў, на якіх былі прадстаўлены малавядомыя расліны Альпаў і Пірэнеяў. Друкаванне гэтых медзярытаў разам з падрыхтаванымі апісаннямі прынесла б славу іх аўтару і дазволіла б запісаць яго імя ў лік вялікіх батанікаў-ілюстратараў XVI ст. На жаль, у выніку неспрыяльных акалічнасцей яны не былі выкарыстаны пры жыцці аўтара. Спадкаемцы дэ Белевеля не разумелі сапраўднай каштоўнасці медзярытаў. У наступныя паўтара стагоддзя яны былі закінуты і забыты на адным з гарышчаў Монпелье. Жылібер у дзень свайго выезду ў Літву выпадкова адшукаў і закупіў 300 медзярытаў Белевеля. Бернаулі пера-

гледзеў і апісаў іх у Літве ў час свайго падарожжа ў Пецярбург. Жылібер поўнасцю выкарыстаў іх для ілюстрацый у сваёй трохтомнай кнізе "Demostration elementaries de Botanique /Ілюстрацыя элементарнай батанікі/". У карэспандэнцыі знакамітага французскага прыродазнаўцы, настаўніка і прыяцеля Жылібера Антонія Гуана ёсць ліст, высланы Жылiберам 10 верасня 1778 г. У ім Жылібер пацвярджае атрыманне высланых з Монпелье копій манускрыптаў Белевеля, тэкстаў Вілярса і закупленага, дзякуючы шчодрасці Станіслава Аўгуста Панятоўскага, зельніка-калекцыі еўрапейскіх раслін, падрыхтаванага Гуанам. Вядома, што паспешліва пакідаючы Літву, Жылібер пакінуў у Вільні свае калекцыі. Дзякуючы доўгім перамовам, што датычыліся магчымай кампенсацыі, пенсіі, вяртання збораў, частка калекцыі — у тым ліку медзярыты /або дакладней частка іх/ — трапіла ў Ліён у 1790 г. Частка ж калекцыі, у тым ліку і медзярыты Белевеля, загінула. Невядома ці тая страта мела месца ў час высылкі з Літвы, ці можа гады на два пазней, у час паспешлівых уцёкаў Жылібера з Ліёна, ці ў час шматмесячнага выгнання і вымушаных блуканняў. Магчыма некалькі ўнікальных медзярытаў сталі папаўненнем калекцыі універсітэта ў Монпелье. Частка ж карэспандэнцыі Жылібера знаходзіцца на ўсходзе Еўропы. З пэўнасцю вядома, што ў Вільні засталіся тры зельнікі Жылібера /Hortus Grodnensis, які ўтрымлівае апісанне раслін з гродзенскага батанічнага сада; Herbarium Grodnensis або Herbarium Giliberti, прысвечаны дзікарастучым раслінам з ваколіц Гродна; зельнік без тытула з апісаннямі раслін з ваколіц Вільны/. Усе гэтыя тры зельнікі пасля закрыцця Віленскай каралеўскай медыка-хірургічнай акадэміі ў 1841 г. былі перададзены універсітэту імя Св. Уладзіміра ў Кіеве. У пачатку стагоддзя іх прагледзеў, даў ім крытычную ацэнку ў "Pamietniku Fiziograficznym" Юзаф Пачоскі. Яшчэ ў 1925 г. зельнікі знаходзіліся ва універсітэцкай калекцыі, дзе іх адшукаў і апрацаваў знакаміты польскі батанік і біёграф Жылібера Вітальд Славінскі. Можа ёсць патрэба ўдакладніць, ці знаходзяцца яны і цяпер у кіеўскай калекцыі, ці вымагаюць рэстаўрацыі. Гэтыя зельнікі маюць проста неацэнную каштоўнасць для гісторыі сярэднееўрапейскай навукі і культуры. Гэта найстарэйшыя зельнікі з тэрыторыі Літвы, на іх

падставе была складзена "Flora Lituanika" Жылібера, а часткова таксама і "Opisanie roslin Wielkiego Ksiestwa Litewskiego" Станіслава Юндзіла. Можна сцвярджаць, што з'яўленне гэтых зельнікаў азначала нараджэнне найноўшай батанікі ў Рэчы Паспалітай. У дадатак да ўсяго яны з'яўляюцца адным з нешматлікіх у гэтай частцы Еўропы помнікаў, звязаных з вялікай французскай натуралістычнай думкай XVIII ст. Верагодна, гэта таксама першая калекцыя раслін Рэчы Паспалітай, якая складзена і апісана адпаведна сістэмы Лінея. На ёй сфармавалася і выхоўвалася цэлае пакаленне "крэсавых" прыродазнаўцаў, часта знакамітых еўрапейскіх батанікаў, як, напрыклад, Юзаф Пачоскі ці Уладыслаў Скрабачэўскі. Сярод засушаных раслін, відаць, ёсць голётыпы /экземпляры, унікальныя ўзоры для дадзенага віду, абавязковыя для ўсіх батанікаў/ для відаў, упершыню апісаных Жыліберам.

Жан Эмануэль Жылібер падрыхтаваў таксама першую ў Еўропе фітагеаграфічную карту. У "Exercita Phytologica "ён пісаў: "Olim ad anno 1776 ad annum 1781, talem elaborandum protractu Grodnensi Mappam geographicum suscepi; a geometris Reqiis oeconomiarum varia fragmenta hujus tappae delineata obtinui". Аднак гэтую карту ён нідзе не надрукаваў. На яе значэнне для гісторыі батанікі звярнуў увагу Вітальд Славінскі. Гэты вучоны праводзіў пошукі ў парыжскіх, ліёнскіх, віленскіх, варшаўскіх і кіеўскіх архівах. Спрабаваў ён працягваць пошукі яе ў некаторых французскіх калекцыях, аднак таксама безвынікова.

Думаю, што значэнне прац Жылібера для навукі і культуры Рэчы Паспалітай дае падставы спадзявацца, што помнікі, звязаныя з ім, зацікавяць адпаведныя польскія ўстановы, якія займаюцца культурнай спадчынай на Усходзе.

Kultura (Paryz). 1994. N 1.
Пераклад з польскай мовы
Наталлі Пятровіч

# VI. ВЕРНУТЫЯ КАШТОЎНАСЦІ

ТАМАРА ВЯРШЫЦКАЯ

## ВЯРТАННЕ НАВАГРУДСКАЙ АРХЕАЛАГІЧНАЙ КАЛЕКЦЫІ

Так склалася, што даследаваннем гісторыі старажытнага беларускага горада Навагрудка на працягу дваццаці дзевяці гадоў займаўся Ленінградскі філіял Інстытута археалогіі АН СССР /зараз Інстытут матэрыяльнай культуры/. Увесь гэты час экспедыцыі ў Навагрудак узначальвала Ф.Д.Гурэвіч — таленавіты археолаг з багатым вопытам. Крок за крокам, пачынаючы з 1956 г., даследавала яна спачатку тэрыторыю Малога замка, курганныя магільнікі вакол Навагрудка, а пазней занялася вывучэннем Замкавай гары. Разам з ёй працавалі вядомая сваімі публікацыямі аб навагрудскіх курганных магільніках К.В.Паўлава і М.У.Малеўская, якая займалася даследаваннем манументальных замкавых збудаванняў. Адначасова вывучэннем аднаго са старажытных помнікаў архітэктуры XII ст. — Барысаглебскай царквы займаўся Каргер. У Навагрудку працавалі Зільмановіч і П.А.Рапапорт.

Даследаванні ленінградскіх археолагаў дазволілі адсланіць схаваную вякамі гісторыю старажытнага горада, а шматлікія сенсацыйныя факты як, напрыклад, колькасць прадметаў імпарту з краін Блізкага Усходу, выкарыстанне шкла пры будаўніцтве жылля ў XII ст., паставілі Навагрудак у адзін рад з іншымі высокаразвітымі гарадамі сярэдневяковай Еўропы, падштурхнулі развіццё гістарычных даследаванняў беларускіх вучоных і, магчыма, паслужылі новаму асэнсаванню нашай гісторыі.

На вялікі жаль, у той час, калі праводзіліся раскопкі, у горадзе не было гістарычнага музея, таму знаходкі трапілі ў розныя месцы: адна частка у Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей, другая — у Нацыянальны музей у Мінск, а галоўная і найбольш каштоўная калекцыя ў Ленінград. Самыя каштоўныя рэчы, як, напрыклад, флаконы малочнабелага шкла з залатым роспісам, флакон з сіняга шкла і кубак з фіялетава-чырвонага шкла, аздобленыя роспісам

эмалямі і золатам, апынуліся ў экспазіцыі Эрмітажа, а ўся астатняя калекцыя да верасня 1993 г. захоўвалася на Палацавай Набяражнай у Інстытуце матэрыяльнай культуры. З ёй працавалі, друкавалі вынікі даследаванняў, але доступ да яе мела толькі вузкае кола спецыялістаў.

Супрацоўнікі Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея, адкрыццё якога адбылося ў верасні 1992 г., працуючы над стварэннем экспазіцыі, яшчэ ў 1991 г. атрымалі шэраг археалагічных матэрыялаў з Эрмітажа, тады ж былі ўстаноўлены кантакты з археолагамі Паўлавай К.В. і Малеўскай М.У. /Гурэвіч у той час ужо не было ў жывых/. Падштурхнула справу другая навуковая канферэнцыя "Гісторыка-археалагічныя даследаванні Навагрудка", якая была арганізавана музеем летам 1992 г. Тады было вырашана прыкласці намаганні, каб усю калекцыю цалкам вярнуць у Навагрудак. Рашэнне канферэнцыі падтрымала Міністэрства культуры Беларусі. Была дасягнута дамоўленасць з Інстытутам матэрыяльнай культуры ў Санкт-Пецярбургу, Міністэрства культуры Беларусі выдзеліла сродкі на апрацоўку матэрыялаў, а ўсю працу ўзяла на сябе Паўлава К.В. Разам з Малеўскай М.У. яна падрыхтавала калекцыю да адпраўкі і перадала яе на пастаянне захаванне ў Навагрудскі гісторыка-краязнаўчы музей.

Актыўную падтрымку і дапамогу супрацоўнікам музея ад пачатку перагавораў аб вяртанні калекцыі і канчаючы яе дастаўкай у Навагрудак аказаў першы намеснік міністра культуры У.А.Гілеп.

Агульная колькасць атрыманых матэрыялаў складае 9534 адзінкі. Найбольш цікавай сярод іх з'яўляецца калекцыя вырабаў з бронзы: упрыгожанні, арнаментаваныя накладныя пласцінкі для ўпрыгожвання адзення і зброі, зашчэпкі для кніг. Калекцыя жалезных вырабаў прадстаўлена цікавым наборам наканечнікаў стрэл, бытавымі рэчамі, а таксама фрагментам унікальнага пласцінчатага панцыра. Невялікую па колькасці, але таксама выключна цікавую калекцыю культавых рэчаў складаюць крыжыкі-энкалпіёны і маленькія абразкі, выкананыя з розных матэрыялаў. Асобнай групай выдзяляюцца шкляныя вырабы, фрагменты арнаментаванага імпартнага посуду, крышталь. Найбольшую частку калекцыі складае кераміка: кафля,

фрагменты посуду і сярод іх вялікая колькасць фрагментаў амфар, будаўнічы матэрыял. Незвычайны раздзел калекцыі складаюць розныя сельскагаспадарчыя культуры, як, напрыклад, жыта, пшаніца, проса і інш., знойдзеныя ў слаях, якія датуюцца XII ст., а таксама зярняты некаторых відаў садавіны.

Увогуле, толькі частка матэрыялаў гэтай археалагічнай калекцыі, якія паходзяць з Малога замка, апісана ў кнізе Ф.Д.Гурэвіч "Старажытны Навагрудак". Па матэрыялах даследавання дзядзінца Навагрудка сёння існуе толькі рукапіс Ф.Д.Гурэвіч. Няма сумнення ў тым, што публікацыя гэтага матэрыяла значна пашырыла б нашы веды аб старажытнай гісторыі аднаго з беларускіх гарадоў, а высновы, зробленыя археолагам на падставе атрыманых матэрыялаў, бясспрэчна зацікавяць беларускіх гісторыкаў.

Вяртанне археалагічнай калекцыі мае непасрэднае практычнае значэнне для развіцця Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея. Яна дае магчымасць не толькі значна ўзбагаціць існуючую экспазіцыю музея, але і планаваць у перспектыве стварэнне асобнай экспазіцыі па гісторыі Навагрудскага замка.

ТАМАРА АБАКУМОЎСКАЯ

## НАРЭШЦЕ ПАЧАЛОСЯ. І, ДАЎ БЫ БОГ, ПАДОЎЖЫЛАСЯ!

Колькі размоў і перамоў на розных узроўнях вялося аб вяртанні беларускіх гісторыка-культурных каштоўнасцей на месца іх стварэння і прыналежнасці. Абрабаваная, як у часы войнаў, так і з ласкі магутнага ўсходняга суседа ў мірны час, калі ўсё больш-менш каштоўнае вывозілася ў цэнтральныя (расейскія) музеі, наша Беларусь сёння пазбаўлена многіх святых для народа рэліквій. Краіна з тысячагадовымі культурнымі традыцыямі, як трапна зазначыў намеснік міністра культуры Дзмітрый Бубноўскі, трапіла ў становішча "бананавай рэспублікі". На працягу многіх гадоў вывозілі ўсё што можна і няможна, што патрэбна і што не вельмі. Хаця экспанаты, што сёння гібеюць у запасніках буйнейшых расійскіх ды іншых музеяў, трапіўшы ў беларускія

экспазіцыі, маглі б ”працаваць” на поўную моц, асабліва на хвалі абуджанага інтарэсу да айчыннай гісторыі, нацыянальнага адраджэння. Больш таго, раней ды і цяпер нашы навукоўцы часта не маюць доступу да гэтых збораў і каштоўнасцей. Парадокс — да свайго ж, кроўнага!

Вяртанне нацыянальнай культурнай спадчыны, як мы ўжо пісалі, працэс складаны, заблытаны і, я б сказала, балючы. Сённяшнія валадары іх кіруюцца спрадвечнай логікай: што з возу ўпала, тое прапала. Як перасіліць, пераламаць гэты драпежніцкі закон, як перайсці на цывілізаваныя рэйкі міждзяржаўных адносін у гэтай адной з далікатнейшых жыццёвых сфер?

Трэба адзначыць, што Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, фонд культуры, Дзяржаўная камісія па вяртанню культурнай спадчыны зрабілі вялікую работу, каб выявіць, прасачыць шляхі нашых згубленых рэліквій. Ужо выйшаў першы том даведніка ”Вяртанне”, і пошук працягваецца.

У выніку доўгіх перамоў з навуковымі і ўладнымі структурамі Санкт-Пецярбурга ў Навагрудак вярнулася археалагічная калекцыя з 9,5 тысячы экспанатаў, якія ў 60—80 гады былі выяўлены на старажытным дзяцінцы вядомым археолагам Фрыдай Гурэвіч і яе супрацоўнікамі, і якія захоўваліся ў Інстытуце гісторыі матэрыяльнай культуры Расійскай акадэміі навук.

Расійскія калегі, звязаныя з беларускімі навукоўцамі сяброўскімі сувязямі, праявілі і паразуменне, і добрую волю. Як, дарэчы, і ў выпадку з рукапісам вядомага гісторыка М.Шчакаціхіна ”Очерки истории литовской монеты ХУІ—ХУШ вв.”, святых мошчаў з Сафійскага сабора ў Полацку, якія, будзем спадзявацца, таксама ў хуткім часе, вернуцца на Беларусь.

Горкі парадокс нядаўніх часоў, што археалагічныя раскопкі на беларускай зямлі, якія прыносілі нярэдка сенсацыйныя адкрыцці і выяўлялі найкаштоўнейшыя экспанаты, найчасцей вяліся расійскімі навукоўцамі, фінансаваліся расійскімі навуковымі ўстановамі і... вывозіліся туды ж. Таму сёння ніхто не можа спрачацца супраць зацікаўленасці і інтарэсу рускіх вучоных да гісторыі беларускіх земляў. У нас у многім агульная гісторыя, карані нашых культур

шчыльна пераплецены. Але чаму археалагічныя знаходкі Навагрудчыны або Полаччыны павінны быць раскіданы па замежных музеях, а мы — выступаць у ролі прасіцеляў? Будзе ласка, як у выпадку з пецярбуржцамі, якім мы шчыра ўдзячны, — атрымаем тое, што нам належыць, не будзе, то, як кажуць, — ад варот паварот. Як, напрыклад, у адносінах знакамітай бібліятэкі Храптовічаў са Шчорсаў, у вяртанні якой пакуль упарта адмаўляюць украінцы.

Таму найактуальнейшай сёння здаецца задача распрацоўкі і падпісання міжурадавых пагадненняў, якія б сталі прававым падмуркам для вырашэння гэтых, як мы ўжо казалі, складаных, далікатных і набалелых праблем.

Абнадзейвае, што ў гэтым напрамку ўжо зроблены адпаведныя захады. Падпісаны ці рыхтуюцца міжурадавыя пагадненні з Польшчай, Літвой, Германіяй, краінамі СНД, у тым ліку Расіяй, Украінай; Чэхіяй, Славакіяй, Злучанымі Штатамі Амерыкі.

Навагрудская калекцыя была, бадай, першай ластаўкай, якая, будзем спадзявацца, абвясціла вясну паразумення.

Рэспубліка. 1993. 15 верас.

АЛА ВАНЬКЕВІЧ

## ПРЫКЛАДЫ, ВАРТЫЯ ЎХВАЛЫ І ПЕРАЙМАННЯ

Рознымі шляхамі вяртаюцца на Бацькаўшчыну культурныя каштоўнасці беларусаў. Часцей за ўсё іх трэба выяўляць у замежжы, дамаўляцца аб перадачы ці, у горшым выпадку, рабіць копіі, каб захаваць у памяці нашчадкаў тое, што калісьці належала іх прашчурам.

Але здараецца і такое, калі ўчынкамі чалавека кіруе сумленне.

Напрыклад, 10 ліпеня 1990 г. у Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны завітала жыхарка г. Франкфурта-на-Майне (ФРГ) Луіза Жос-Рэй, якая прыехала як турыстка. Яна прынесла і здала ў музей верхнюю мужчынскую кашулю-касаваротку, пашытую з белай баваўнянай тканіны і вышытую крыжыкам — чырвонымі і чор-

нымі ніткамі. Гэтую кашулю ў час вайны недзе на мяжы Беларусі і Смаленшчыны ўзяў як сувенір брат Луізы, былы салдат вермахта. Дэмабілізаваны па хваробе, ён прывёз кашулю ў Германію, і яна амаль паўстагоддзя захоўвалася ў сям'і. Пасля смерці брата Луіза Жос-Рэй вырашыла вярнуць рэч на радзіму.

У маі 1992 г. музей наведаў журналіст з Берліна Курт Вагнер. У гады вайны, з кастрычніка 1941 г. па ліпень 1943 г., ён быў яфрэйтарам 332 ахоўнага батальёна, які дыслацыраваўся ў Мінску і меў непасрэднае дачыненне да лагераў савецкіх ваеннапалонных "Шталаг-352" у Масюкоўшчыне і ў Пушкінскіх казармах (р-н вуліц Коласа—Сурганава—Чорнага).

Курт Вагнер прынёс у музей фотаздымкі, на якіх ён і яго саслужыўцы непрадузятым вокам фотаапарата зафіксавалі імгненні ваеннай рэчаіснасці 1941—1942 гг. Гэта ахвяры фашызму, выгляд асобных раёнаў акупіраванага ворагам Мінска, жыхары горада, бытавыя сцэнкі і, што асабліва каштоўна, — больш за 10 фотакадраў, зробленых у "Шталагу-352".

Уся калекцыя налічвае больш за 60 здымкаў.

На пачатку 1993 г. доктар М.Будэберг з г. Кёльна праз міжнародны адукацыйны цэнтр у г. Дортмундзе перадала ў музей дзве кніжкі, якія ў час вайны былі ўзяты яе бацькам, салдатам вермахта, у адной з бібліятэк Мінска. Гэта — мініяцюрныя кніжкі з замененымі самаробнымі вокладкамі: "The letters of lady M.W.Montagu, during. Назвы на тытульных лістах: The embassy to Constantinople, 1716—18"; "Select beauties of the spectator, with a sketch of the life of Addison by J.W.Lake", выдадзеныя ў Парыжы ў 1827 г.

Ліст спадарыні М.Будэберг, які быў перададзены разам з кніжкамі, заканчваецца словамі: "...з нашага боку будзе хоць невялічкім укладам тое, што мы праз 50 гадоў пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз можам вярнуць гэтыя рэчы назад, і гэта можа пайсці на карысць узаемаразуменню нашых народаў".

У маі 1993 г. жыхарка г. Мюнхена фраў Інгеборг Мюнцынг-Руэф перадала ў музей 55 каляровых і чорна-белых фотаздымкаў, на большасці з якіх паказаны г. Мінск і яго ваколіцы ў першыя дні вайны, 25—26 чэрвеня, а таксама ў

ліпені—верасні 1941 г. Гэтыя здымкі зрабіў бацька фрау Інгеборг Ханс Руэф, які быў у час вайны ваенным фотакарэспандэнтам, майстрам па аэрафотаздымках. Такім чынам, музей атрымаў серыю здымкаў ваеннага часу, на якіх у новым ракурсе паўстаюць будынкі Мінска, Брэсцкая крэпасць, канцлагер у Драздах і інш.

## ПЕРШЫЯ СПРОБЫ ВЯРТАННЯ З МАСКВЫ КІНАСТУЖАК ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ XX СТАГОДДЗЯ

Дзякуючы аб'яднаным намаганням Беларускага фонду культуры і Камітэта па архівах і справаводству пры СМ РБ удалося атрымаць згоду Расійскай Федэрацыі на перадачу Беларусі за пэўную плату (мільён расійскіх рублёў) шэрагу дакументальных кінастужак па гісторыі Беларусі XX ст.

Здзейсніць гэтую высакародную справу дапамог шаноўны спонсар — банк "Беларусь", які пералічыў на гэтыя мэты 1,5 млн. на рахунак Беларускага фонду культуры.

Ніжэй падаецца на мове арыгінала спіс кінадакументаў па гісторыі Беларусі, якія былі знойдзены супрацоўнікамі Камітэта па архівах і справаводству пры СМ РБ у Расійскім дзяржаўным архіве кінафотадакументаў.

АЛЕСЬ МІХАЛЬЧАНКА,
ІВАН ЧЫГРЫНАЎ

### КІНАФІЛЬМЫ

1. 16015 — "Беловежская пуща", издания 1947 года, черно-белый, звуковой фильм в 3-х частях. Режиссеры: Л.Голуб, Ф.Блажевич. Оператор: М.Беров. Позитив 3 ед хр.

2. 3785 — "Бобруйские маневры", 1929 г., к-330. Фильм в 4-х частях. Производство Совкино. Режиссер Н.Карамзинский. Немой, нег. — 4 ед. хр., 1012,1 м.

3. 9165 — "Бобруйский котел", июль 1944 г., звуковой, ч/б, фронтовой, выпуск N 3 в 1 ч. Режиссер Я.Посельский. Операторы Посельский И. и др. производство ЦСДФ. Позитив 1 ед. хр., 246,9 м.

4. 15554 — "Герои Бреста", 1957 г., К—6075, звуковой, ч/б, в 2-х частях. Производство ЦСДФ. Нег. — 2 ед. хр., фоно, поз. и лаванд по 2 ед. хр.

5. 0—4895 — "Делегаты Таджикского народа", на Белорусском фронте, 1944 г., нег. — 1 ед. хр., 294,4 м.

6. 18433 — "Жертвы обвиняют", 1962 г., К—1657, к/о, ч/б, звуковой, в 3-х ч. Режиссеры: И.Жуковская, П.Шамшур, операторы — В.Пужевич. Производство ЦСДФ. Нег., фоно, лаванда, позитив — 3 ед. хр.

7. 0—3702 — "За Социалистическую Беларусь", 1934 г., К-177, немой, ч/б, хроника, N 7 в 1 ч. Белорусского госкино, нег. 1 ед. хр. — 296,0.

8. 1-12693 — "Кавалерийская школа в Поставах" 1919 год, 4060, нем., ч/б, хроника 1 ч., поз. 1 ед. хр., 79 м.

9. 10751 — "Киев—Минск" 1953 г., цветной, звуковой, спецвыпуск в 1 части для Брюссельской выставки. Производство ЦСДФ. Режиссер И.Вентер. Нег., фоно, поз. установочный ролик, паспорт по 1 ед. хр.

10. 1-12688 — "Мирные переговоры с Польшей в Минске", 1920 г., 401, 3771, немой, ч/б в 1 части. Издание политотдела специальной хроники ВФКО. Поз. 1 ед. хр., 164,5 м.

11. 19437 — "О земле Полоцкой" — 1962 г., цветн., звуковой, киноочерк, в 2-х частях. Режиссер: В.Скитович, оператор Г.Масальский. Производство Минской киностудии. Нег., фоно, магн., поз. по 2 ед. хр., установочный ролик и паспорт 1 ед. хр.

12. 0-1967 — "Парад войск в Бобруйске" в присутствии Николая П, немой, 1 ед. хр., 157 м.

13. 20626 — "Репортаж из Солигорска", 1963 г., К-2915, ч/б, звуковой, киноочерк в 1 части. Режиссер Я.Бабушкин, оператор Г.Голубев. Производство ЦСДФ. Нег., фоно, поз., лав., по 1 ед. хр. (Поступил от ЦСДФ 17 марта 1969 г.).

14. 1-14180 — "Советская Белоруссия" (спецвыпуск для ВСХВ), ч/б, производство Минской студии кинохроники, позитив 1 ед. хр., 242 м.

15. 18353 — "Утро над Бугом", 1962 г., цветной киножурнал в 1 части. Производство Минской кинохроники. Режиссер-оператор И.Вейнерович и В.Шаталов. Нег., фоно, поз. по 1 ед. хр.

# СЮЖЕТЫ ИЗ "СКЖ" (ЗВУКОВОГО) ПРОИЗВОДСТВА СОЮЗКИНОХРОНИКИ

1. 0-4312-Ш — "СКЖ" N 35, 1934 г., нег. 1 ед. хр. 274,6 м.

1-4312-Ш — "Горемыка-Радостин" БССР, (оператор Стрешнев).

2. 0-04367-1 — "СКЖ" N 18, 1938 г., нег. 1 ед. хр., 333 м.

1-4367-1 — "Белорусская ССР" (оператор Беров).

3. 0-2856 — "СКЖ" N 12, 1936 г., нег.

1-3058 — "Сестры Казариновы", БССР (оператор Давидсон).

4. 0-2988 — "СКЖ" N 22, 1933 г.

1-2988 — Митинг, посвященный выборам в Верховные Советы союзных республик на фабрике "Коммунарка" г. Минск.

5. 0-3114-1 — "СКЖ" N 90, 1939 г., нег.

1-3114-1 — Митинг на заводе им. Орджоникидзе — присоединение "УССР и БССР".

6. 0-3103-1 — "СКЖ" N 80, 1939 г.

0-3103-1 - Передовые люди соц. индустрии (льнокомбинат в БССР).

7. 0-3084-П — "СКЖ" N 60, 1939, нег.

1-3084-П — С хуторов в колхозные центры БССР.

8. 0-3255-П — "СКЖ" N 112, 1940 г., нег.

1-3259-П — Белорусская СР, оператор И.Вейнерович.

9. 1-3233, 1-П "СКЖ" N 90, 1940 г.

10. 0-3206 — "СКЖ" N 61, 1940 г.

1-3206 — БССР, оператор Вейнерович.

11. 0-3202 — "СКЖ" N 52, 1940 г.

1-3202 — БССР, оператор Цитрон В.

12. 0-3197 — "СКЖ" N 52, 1940 г.

1-3197 — БССР, оператор В.Цесман.

13. 0-3185 — "СКЖ" N 39, 1940 г.

1-3185 — Гродно, БССР.

14. 0-4985 — "СКЖ" N 45, 1944 г.

Мозырь, Калинковичи (репортаж с фронта).

15. 0-2474-1 — "СКЖ" N 26, 1934 г.

1-2474-1 — Нарком обороны в Минске. Оператор Беров.

16. 1-13198-Ш — "СКЖ" N 35, 1940 г.

Подарок земляку-седовцу г. Витебск.

## СЮЖЕТЫ ИЗ ДРУГИХ КИНОЖУРНАЛОВ

17. 0-8875 — К/летопись

1-8875 — Сессия АН БССР: в президиуме секретарь ЦК КПБ Горбунов Г.С., председатель СНК БССР Былинский И.С., академики Леонов В.А., Горев К.В., Палладин А.В., Колас Я.

Выступает Чижевский М.Т.

В зале: Немчинов В.С., Перцев В.Н., Годнев Г.И., Вейс Ю.А., Мелких и др. Я.Колас беседует с Мелких С.М. г. Москва, 22 января 1944 г.

18. 0-4930-У — "Одиннадцать столиц", 1939 г.

Студенты на лекции в аудитории педагогического института им. А.М.Горького, преподаватель делает опыты в химической лаборатории. 1939 г.

19. 0-5445-1 — "Слова Москве", 1947 г.

0-5445-1 — Делегация БССР, прибывшая на празднование 800-летия Москвы. 1947 г.

20. 0-5445-1 — "Праздник народов"

Парад воинских частей КА в Минске в день празднования XX годовщины Октября.

21. 0-16585 — К/л "Пребывание делегации Польской республики на местах недавних боев". Митинг в районном центре Горки, Могилевской области, посвященный встрече с польской делегацией. 1946 г.

22. 0-14296 — "ЛКЖ" N 25, 1954 г.

1-14296— Участие команды Белоруссии в 1 Всесоюзной спартакиаде учащихся в г. Ленинграде.

23. 0-15815 - К/ж "Новостия дня" N 19, 1938 г.

1-15815 — Минский тракторный завод. Выход с завода трактора.

24. 0-161610-ХУП — К/л "День победившей страны", 1947 г. Переселение из убогих землянок, где ютились жители села Солтаново Речицкого района, в новые дома колхозников.

Курс, Атамчук, Кордина.

Гомельская область, 1947 г.

25. 0-3440 — К/ж "Советское искусство", N 7, 1939 г.

1-3440 — Песни и пляски белорусского народа. Исполнение к/х песни "Лен", народного танца "Ленок", песни "Ой, у лузе, лузе", "Речицкие частушки", танца "Метелица".

26. 0-4774-П — К/ф "Первая конная", 1939 г.

1-4774-П — Вступление конников в освобожденный город Западной Белоруссии и встреча их с населением. Выступление перед бойцами командарма 2-го ранга Ковалева. Проезд бронемашин и тачанок.

27. 0-4841 — К/ж "Железнодорожник" N 10, 1939 г.

1-4841 — Встреча на Белорусском вокзале представителей Западной Белоруссии, приехавших на заседание сессии Верховного Совета СССР, и посещение мавзолея Ленина и театра Красной Армии, 1939 г.

28. 0-6702-У — К/ф "Молодость нашей страны", 1946 г.

1-6702-У — Пейзажи БССР.

# ЗМЕСТ

## II. Знойдзена ў архівах



## III. Пошукі кніг, рукапісаў, перыёдыкі

## ІУ. З друкаваных крыніц



## У. Перапіска і каментарыі да яе

## УІ. Вернутыя каштоўнасці

**ВОЗВРАЩЕНИЕ-2**

Составители *Толстик Аркадий Афанасьевич,*
*Яницкая Майя Михайловна*

Адказны за выпуск *Рошчына Т.І.*

---

Падпісана да друку 29.12.94 г. Фармат 60х84 1/16. Папера афсетная. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 15,81.
Ул.-выд. арк. 16,1. Заказ 3422 Тыраж 1000 экз.
Цана дагаворная.

Беларускі фонд культуры. 220030, Мінск,
вул. Я.Купалы, 17/30.
Надрукавана ў друкарні Эксперыментальнага комплекснага прадпрыемства "Светоч". 220010, Мінск,
вул. Жодзінская, 24.